КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 26 (298) ◂ 29 чэрвеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ПАЛЕСКІЯ КУРОРТЫ

Стар. 6

**ПЯТЫ ФАКТАР БЕЛАРУСКАЙ СТАБІЛЬНАСЦІ**

Праўда пра нашу Вайну і нашу Перамогу поруч з праўдай пра нашу эканоміку і наша грамадства здольная зруйнаваць стабільнасць, якая склалася ў Беларусі за апошнія 18 гадоў

Стар. 4

**«АД МАСКАЛЯ ДАБРА НЕ СПАДЗЯВАЙСЯ...»**

150 гадоў таму выйшаў у свет першы нумар газеты «Мужыцкая праўда», аўтарам і выдаўцом якой быў нацыянальны герой Беларусі Кастусь Каліноўскі

Стар. 31

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**СЯРГЕЙ АНТУСЕВІЧ**

Нарыс Аляксандра Тамковіча

▸ З НАГОДЫ

# «ЗОРКІ КАРАБОБА» ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Вольга ХВОІН

**Аляксандр Лукашэнка на гэтым тыдні наведваў сваіх калег і сяброў у Лацінскай Амерыцы. Бадай што самай гучнай і скандальнай у часе візіту стала заява беларускага лідара аб тым, што яго малодшы сын Мікалай будзе пераемнікам.**




Спачатку беларускі лідар скіраваўся з афіцыйным візітам на Кубу. У Гаване ён сустрэўся са старшынёй Дзяржаўнага савета і Савета міністраў Кубы Раулем Кастра Русам. Пасля заканчэння гутаркі Рауль Кастра выказаў жаданне асабіста правесці кіраўніка Беларусі ў аэрапорт. Гэтае рашэнне кіраўніка Кубы для дыпламатычнай практыкі ёсць вялікай рэдкасцю. Хаця цалкам вытлумачальнае — у кубінскага рэжыму, як і ў беларускага, не так многа сяброў.

На знак салідарнасці з кубінскім кіраўніцтвам Лукашэнка заявіў, што выступае за неадкладнае спыненне блакады Кубы з боку ЗША. «Беларусь рашуча выступае за неадкладнае спыненне ганебнай блакады Кубы з боку ЗША», — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Мы выступаем за ўмацаванне добрасуседскіх адносін паміж дзяржавамі. За вырашэнне спрэчных пытанняў шляхам перамоў і стварэнне ўмоў для бесперашкоднага супрацоўніцтва з усімі краінамі». Варта нагадаць, што Беларусь знаходзіцца ў спісе краін, да якіх ЗША ўвялі санкцыі за парушэнні ў галіне правоў чалавека. Апроч наяўнасці спісу неўязных у Штаты, ёсць і спіс прадпрыемстваў, рахункі якіх замарожаныя, а здзелкі з імі забароненыя. У іх ліку прадпрыемствы канцэрну «Белнафтахім» — ААТ «Лакафарба» і «Полацк-Шкловалакно», ЗАТ «Онербанк» і «Банк гандлёвы капітал», дзяржаўны канцэрн «Беларуснафта», прадпрыемствы «Белшына», «Гродна-Азот», «Гродна-Хімвалакно», «Нафтан», «Белтэхэкспарт» і «БелОМА». Дзяржаўны дэпартамент ЗША «заклікае ўрад Беларусі да неадкладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных». Таму заклік Лукашэнкі ў абарону кубінскага рэжыму можна цалкам экстрапаляваць і на рэжым беларускі.

Тур па аўтарытарных сяброўскіх рэжымах працягнуўся ў Баліварыянскай Рэспубліцы Венесуэла. Афіцыйныя паведамленні адтуль стракацяць фотаздымкамі вясёлых палітыкаў з абодвух кантынентаў. Аляксандр Лукашэнка ў Лацінскай Амерыцы ўвогуле пачуваецца вольна і ўтульна. Варта прыгадаць яго знакамітае інтэв'ю ў майтках аргенцінскаму журналісту на венесуэльскім пляжы. Хіба можна такое ўявіць у часе візітаў беларускага лідара ў Расію, дзе яму даводзіцца не расслабляцца, а трымаць кругавую абарону?

І ўсё ж галоўнай сенсацыяй лацінаамерыканскага турне сталі не дамовы-размовы пра МАЗы ды сумесныя прадпрыемствы (афіцыйныя СМІ паведамляюць пра сумесныя праекты на суму ў 3 мільярда долараў), а прызнанне наконт ролі малодшага сына, які суправаджаў Лукашэнку.

Уга Чавес у Палацы Мірафлорэс прывітаў Аляксандра Лукашэнку і папрасіў паклікаць яго сына Мікалая. «Сёння ў Венесуэле ўрачысты дзень, паколькі мы прымаем Аляксандра Лукашэнку і яго сына Мікалая», — сказаў прэзідэнт Венесуэлы.

«На працягу апошніх гадоў мы выбудавалі не проста стратэгічны саюз, а братэрства», — адзначыў венесуэльскі лідар. Звяртаючыся да Аляксандра Лукашэнкі, ён згадаў пра яго візіт на Кубу і звярнуў увагу на намеры Беларусі пашыраць узаемаадносіны з краінамі Лацінскай Амерыкі, і ў прыватнасці з альянсу краін Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна. Чавес падкрэсліў, што кіраўнікам трэба разглядзець мноства праектаў, якія ўжо рэалізуюцца, напрыклад, у сферах здабычы нафты, газу, нафтахіміі, будаўніцтва жылля, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, энергетыкі і газіфікацыі.

Аляксандр Лукашэнка ў сваю чаргу запэўніў, што ўсе дамоўленасці, якія былі заключаны Беларуссю і Венесуэлай, будуць выкананы датэрмінова. І вось тут прагучалі ключавыя словы беларускага лідара: «Некаторыя пачалі сумнявацца ў сур'ёзных перспектывах супрацоўніцтва Беларусі і Венесуэлы, тут знаходзіцца мой сын Мікалай, і гэта кажа аб тым, што мы сур'ёзна і надоўга заклалі асновы супрацоўніцтва, і ёсць каму пераняць эстафету гадоў праз 20–25».

Гэтай восенню ў Венесуэле пройдуць прэзідэнцкія выбары. Не абмінуў беларускі кіраўнік і гэтую тонкую тэму. «Той, хто мяне добра ведае, ніколі не скажа, што я ўмею ліслівіць. Але скажу прама: не было б цябе — не было б гэтых праектаў і поспехаў. І, напэўна, Беларусі тут, у Венесуэле, таксама б не было. Я не перабольшваю, — сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы, звяртаючыся да Уга Чавеса. — Я не маю на ўвазе вашы выбары. Я ведаю, што ты іх выйграеш». Такая яна — аўтарытарная ідылія. У давяршэнне карціны хіба што трэба расказаць пра «Зорку Карабоба» для Віктара Шэймана. Гэты ордэн носіцца на ланцугу, і атрымаў яго Шэйман з рук Чавеса «за асабісты ўнёсак у рэалізацыю пагадненняў паміж урадамі дзвюх краін».

Ці ёсць сяброўства з Лацінскай Амерыкай панацэяй для знешняй палітыкі Беларусі, што патрапіла ў лік персонаў нон-грата еўрапейскай цывілізацыі? Сумнеўна. Вялікі патэнцыял знешнепалітычных і эканамічных сувязяў з краінамі-суседкамі папросту не выкарыстоўваецца, а за морам, можа, і цялушка за палушку, ды рубель перавоз. Да слова, з чэрвеня Беларусь спыніла закупку нафты ў Венесуэлы. Паводле слоў першага віцэ-прэм'ера Беларусі Уладзіміра Сямашкі, пастаўкі нафты з Венесуэлы былі «брацкай дапамогай нашай краіне ў патрэбны момант». Зараз жа ўмовы паставак нафты з Расіі сталі для Беларусі цалкам выгаднымі, сказаў намеснік кіраўніка ўрада. Ён жа распавядаў, што пастаўкі нафты з Венесуэлы былі патрэбныя Беларусі для ціску на Расію. Таму ўся гэтая эпапея з сяброўствам хутчэй ёсць маральным бонусам для палітычнага ізгоя Еўропы, ну і магчымасцю пэўнага гешэфту. Нездарма «Зорку Карабоба» атрымаў Віктар Шэйман — адзін са старэйшых і бліжэйшых паплечнікаў Лукашэнкі.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МАГІЛЁЎ. НАГАДАЛІ ПРА ПАЛІТВЯЗНЯЎ

**Чарговая акцыя з заклікам «Свабоду палітвязням!» адбылася ў абласным цэнтры 27 чэрвеня. Гэтым разам актывісты «Нашага Магілёва» зладзілі распаўсюд лістовак у цэнтры горада на пешаходнай вуліцы Ленінскай.**

Падчас акцыі за гадзіну было раздадзена каля тысячы ўлётак. Астатнюю частку актывісты раскідалі па паштовых скрынках 8-га мікраёна.

Ва ўлётках распавядаецца, што ў месцах пазбаўлення волі, якія знаходзяцца на Магілёўшчыне, утрымліваецца большая частка ад агульнай колькасці палітвязняў — 7 з 13-ці. Сярод іх — экс-кандыдат у прэзідэнты, сацыял-дэмакрат Мікола Статкевіч і праваабаронца з сусветным імем Алесь Бяляцкі.

Магілёўцам прапаноўваецца дасласць лісты салідарнасці палітвязням, з гэтай мэтай ва ўлётках пазначаны адрасы месцаў утрымання палітзняволеных.

Сённяшняя акцыя праходзіла ў межах кампаніі «Беларусь без палітвязняў», якая была арганізавана незалежным выданнем горада «Наш Магілёў». У межах кампаніі ўжо выйшлі шэсць нумароў бюлетэня «Палітвязні», а на сайце gazetanm.eu з'явілася рубрыка «Навіны палітвязняў», якая абнаўляецца штодзённа.

Арганізатары акцыі кажуць, што праз інфармацыйную кампанію яны спрабуюць прыцягнуць увагу магілёўцаў да праблемы палітвязняў у краіне і праз грамадскае асуджэнне спрыяць іх хутчэйшаму вызваленню.

### БРЭСТ. СВАЕ РАШЭННІ ЎЛАДЫ ТРЫМАЮЦЬ У САКРЭЦЕ

**Брэсцкі аблвыканкам адказаў на зварот мясцовых праваабаронцаў, пад якім было сабрана каля 200 подпісаў, з патрабаваннем змяніць рашэнне №1210 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Брэсце» ад 30 чэрвеня 2011 года.**

Як паведаміў прадстаўнік Беларускага хельсінскага камітэту па Брэсцкай вобласці Ігар Маслоўскі, раней улады адмовіліся ўносіць новыя змены ў рашэнне №1210, нягледзячы на тое, што яно, на думку праваабаронцаў, парушае артыкул 35 Канстытуцыі і палажэнні Закона «Аб масавых мерапрыемствах».

Напрыклад, рашэннем гарвыканкама вызначана, што пры падачы заявы аб правядзенні масавага мерапрыемства да яе неабходна прыкласці дамовы з органамі ўнутраных спраў, установай аховы здароўя і камунальным прадпрыемствам. Аплата па гэтых дамовах павінна быць праведзена не пазней, чым за дзень да пачатку мерапрыемства. У выпадку невыканання дадзеных патрабаванняў дазвол на правядзенне масавага мерапрыемства анулюецца.

Аўтары звароту сцвярджаюць, што ў гэтай частцы рашэнне №1210 парушае артыкул 10 Закона «Аб масавых мерапрыемствах», дзе гаворыцца, што аплата пералічаных паслуг павінна быць праведзена не пазней чым за 10 дзён пасля правядзення мерапрыемства. Заяўнікі акцый неаднаразова беспаспяхова спрабавалі заключыць дамовы з дадзенымі структурамі, аднак там адмаўляліся рабіць гэта, спасылаючыся на адсутнасць практыкі заключэння такіх дамоваў і ўказанняў вышэйстаячых арганізацый.

Актывістам у лісце паведамілі, што ў рашэнне гарвыканкама №1210 «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Брэсце» 9 студзеня 2012 года гарвыканкамам былі ўнесены змены. Але немагчыма даведацца, якія гэта змены, бо нават на афіцыйным сайце Брэсцкага гарвыканкама дадзенае рашэнне размешчана без зменаў і дадаткаў.

### МІКАШЭВІЧЫ. СПРОБА ПРАВАКАЦЫІ

**Кіраўніцтва РУВП «Граніт», размешчанага ў Мікашэвічах, працягвае кампанію па дыскрэдытацыі дзеючага на прадпрыемстве незалежнага прафсаюза.**

25 чэрвеня адміністрацыя прадпрыемства паспрабавала ўчыніць правакацыю ў дачыненні да памочніка экскаватаршчыка чыгуначнага цэха пагрузкі Сяргея Стахаевіча — роднага брата лідара суполкі незалежнага прафсаюза Алега Стахаевіча.

Ледзь пачалася рабочая змена, як майстар участка абвясціў Сяргею Стахаевічу, што ён павінен прайсці медыцынскі агляд на прадмет алкагольнага ап'янення. У суправаджэнні супрацоўнікаў аховы прадпрыемства Сяргея адвезлі ў гарадскую паліклініку, дзе па выніках агляду было выдадзена заключэнне: «Стан алкагольнага і наркатычнага ап'янення адсутнічае».

Пасля вяртання на працоўнае месца ахоўнікі ўручылі майстру ўчастка копію заключэння, аднак той не дапусціў Стахаевіча да працы і запатрабаваў ад яго напісання тлумачальнай наконт свайго стану. Адначасова была зроблена спроба прымусіць іншых рабочых падпісаць загадзя падрыхтаваны акт, у якім гаварылася аб тым, што Сяргей Стахаевіч знаходзіцца ў стане алкагольнага, наркатычнага або таксічнага ап'янення па сямі прыкметах. Рабочыя катэгарычна адмовіліся паставіць свае подпісы пад фальшывым дакументам. Пасля працяглых пярэчанняў і ўзгадненняў з начальнікам цэха Віктарам Курыловічам, Сяргей Стахаевіч вымушана быў допушчаны да выканання сваіх абавязкаў.

Брат Сяргея, Алег Стахаевіч, выключае выпадковы характар гэтай гісторыі і наўпрост звязвае яе са спробамі кіраўніцтва «Граніта» дыскрэдытаваць сябраў незалежнага прафсаюза і іх сваякоў.

АКЦЫЯ

## ПАМЯЦЬ АХВЯРАЎ СТАЛІНІЗМУ

Алена БАРЭЛЬ

**Сябры Руху салідарнасці «Разам», Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ, а таксама актывісты з Глыбокага і Вілейкі 27–28 чэрвеня наведалі месцы масавых расстрэлаў вязняў. Яны ўшанавалі памяць забітых ускладаннем кветак, вянкоў і запальваннем знічак.**

«26 чэрвеня была трагічная дата — у 1941 годзе адразу ў некалькіх месцах Беларусі расстралялі калоны палітвязняў: у вёсках Мікалаева пад Вулай, у Касуце пад Вілейкай і ў Чэрвені», — распавёў НЧ намеснік старшыні Руху салідарнасці «Разам» Алесь Макаеў.

Пасля таго, як 22 чэрвеня Гітлер пачаў вайну супраць былога саюзніка, супрацоўнікі НКУС атрымалі заданне «эвакуяваць» вязняў на ўсход. У Беларусі гналі вязняў з 12-ці турмаў — з Вілейкі на Барысаў, з Мінску на Чэрвень, з Глыбокага на Мікалаева, іх павінны былі эвакуяваць. Кожная калона расстрэльвалася не ў адным, а ў розных месцах. Шмат вязняў забілі яшчэ ў турмах.

Але ў вёсцы Мікалаева знішчылі цалкам усю калону з Беразвецкай турмы (зараз у межах Глыбокага). Частку вязняў закатавалі і расстралялі адразу ў Беразвеччы.

«Па розны дадзеных, у Мікалаеве забілі ад 900 да 2000 чалавек, сярод якіх былі не толькі вязні, але і тыя, хто быў затрыманы да суда, — распавёў Макаеў. — Апошнія чакалі прысуду да штрафу ці карных працаў, парушыўшы, напрыклад, сталінскі загад па працоўнай дысцыпліне».

Расстрэл вязняў адбыўся на перакрыжаванні дарог. Зараз там стаіць помнік ахвярам злачынства — брацкая магіла з шыльдай і каталіцкі крыж, які здолелі адкрыць з дапамогай польскага боку (падрабязней пра гэтыя падзеі чытайце на стар. 14).

З Мікалаева грамадскія актывісты паехалі да Вілейскага вадасховішча. Побач знаходзіцца яшчэ адно месца знішчэння вязняў — вёска Касута, якая была затопленая, таму дакладнае месца расстрэлу ўжо не ўбачыць. Тут сілком пазбавілі жыцця некалькі сотняў чалавек.

На наступны дзень, 28 чэрвеня, актывісты ўшанавалі памяць вязняў чэрвеньскай перасыльнай турмы — ва ўрочышчы Цагельня.

Ноччу з 24 на 25 чэрвеня калона вязняў рушыла з Мінску. Нямоглых пачалі забіваць яшчэ ў горадзе. 26 чэрвеня каты з НКУС зразумелі, што немцы нагоняць калону, і каля Чэрвеня ўчынілі масавы расстрэл. Вязні ўцякалі, таму іх трупамі быў засланы кіламетр дарогі і прылеглых лясы.

У гэтым мемарыяле некалькі гадоў таму Алесь Макаеў усталяваў крыж, а акцыі ўшанавання памяці ахвяраў сталінізму ён ладзіць штогод.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## СЁМАЯ ЗАБАРОНА ПІКЕТУ

Вольга ХВОІН

**Грамадскі актывіст Рыгор Грык з Баранавічаў атрымаў адмову ў правядзенні пікету «За выбары па законах і Канстытуцыі».**

Грык 24 чэрвеня атрымаў ліст №47 ад 22.06.2012 года за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Касцюкевіча. У ім паведамляецца, што гарвыканкам на падставе Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997 №114-З «Аб масавых мерапрыемствах» (у рэдакцыі Закона РБ ад 08.11.2011 №308-З) не дае згоды на правядзенне пікета 1 ліпеня ў старым парку горада. Гарвыканкам лічыць, што Рыгор Грык парушыў арт. 6 Закона «Аб масавых мерапрыемствах». Праўда, якую канкрэтна норму закона парушыў заяўнік, супрацоўнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Сяргей Пяцігораў традыцыйна адмаўляецца называць, паведамляе праваабарончы цэнтр «Вясна».

— У сваёй заяве я ўказаў, як патрабуе закон, мэту пікетавання, від мерапрыемства, месца, час і дату правядзення пікету, крыніцу фінансавання (асабістыя сродкі), мяркуемую колькасць удзельнікаў пікету — 3 чалавекі. Мала таго, я заключыў пісьмовыя дамовы з гарадской міліцыяй, спецаўтабазай і гарадской паліклінікай па абслугоўванні масавага мерапрыемства. Аднак Баранавіцкі гарвыканкам па незразумелых прычынах ужо пяты раз мне забараняе правядзенне пікету, — патлумачыў Рыгор Грык.

Рыгор Грык хацеў правесці 1 ліпеня пікет пад лозунгам «За выбары па законам і Канстытуцыі».

Гэта ўжо сёмы запар у гэтым годзе пікет грамадскіх актывістаў, які не дазваляе Баранавіцкі гарвыканкам.

ЕС

## СТРАТЭГІЯ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА

**Савет ЕС па замежных справах прыняў рамачную стратэгію па правах чалавека і дэмакратыі, а таксама план дзеянняў па яе рэалізацыі.**

Упершыню ў Еўрапейскага саюза ёсць адзіная рамачная стратэгія для гэтай жыццёва важнай галіне палітыкі.

«Правы чалавека — адзін з маіх першачарговых прыярытэтаў, які чырвонай ніткай праходзіць праз усе, што мы робім у сваёй знешнепалітычнай дзейнасці. З дапамогай гэтага ўсёабдымнага пакета мер мы імкнёмся зрабіць палітыку ЕС у галіне правоў чалавека больш эфектыўнай і прыкметнай. З мэтай практычнай рэалізацыі рамачнай стратэгіі і плана дзеянняў я таксама прапанавала прызначыць спецыяльнага прадстаўніка ЕС па правах чалавека, і я з нецярпеннем чакаю хуткага прызначэння», — сказала высокі прадстаўнік ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі, віцэ-прэзідэнт Еўрапейскай Камісіі Кэтрын Эштан пасля таго, як пакет мер быў прыняты.

Рамачная стратэгія вызначае прынцыпы, мэты і прыярытэты, усе яны накіраваны на павышэнне эфектыўнасці і паслядоўнасці ўсёй палітыкі ЕС на працягу наступнага дзесяцігоддзя. Яна стварае ўзгодненую аснову для па-сапраўднаму сумесных намаганняў як краін-сябраў ЕС, так і інстытутаў ЕС. Рамачная стратэгія таксама пацвярджае прыхільнасць ідэі поўнамаштабнага партнёрства з грамадзянскай супольнасцю. Акрамя таго, рамачная стратэгія напісана максімальна даступна, каб яе ўспрынялі ўсе грамадзяне.

**Паводле Delegation Belarus Pres**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ У ДЗЕЯННІ

Мікіта БРОЎКА

**Следчы камітэт збіраўся правесці праверку па факце збіцця маладафронтаўца.**

Пра гэта актывіст «Маладога фронту» Раман Пратасевіч даведаўся ўвечары 25 чэрвеня, падчас візіту ў Ленінскі раённы аддзел Следчага камітэту, куды яго выклікалі па тэлефоне. Справу Рамана вядзе следчая Юлія Кавалёва.

Паводле слоў Рамана, Следчы камітэт больш чым праз месяц пасля яго збіцця вырашыў правесці праверку. Таксама следчая прапанавала яму напісаць скаргу на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі. Але хлопец адмовіўся ад праверкі і напісання скаргі: ён не хоча «раскручваць» справу, каб не займець праблем — у хуткім часе Раман збіраецца паступаць ва ўніверсітэт.

Нагадаем, 16 мая пасля вывешвання бел-чырвона-белага сцяга ў цэнтры горада непаўнагадовага хлопца збілі і затрымалі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным. Потым яго некалькі гадзін пратрымалі ў міліцыі і адпусцілі, бо па беларускім заканадаўстве непаўнагадовая асоба не можа быць прыцягнута да адміністратыўнай адказнасці. Упершыню Рамана затрымалі яшчэ мінулым летам — на адной з акцый «маўклівага пратэсту». Пасля гэтага хлопца выключылі з ліцэя, і яму давялося вярнуцца ў школу.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ДОБРА БЫЦЬ СЯБРАМ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Варта было з’ехаць Аляксандру Лукашэнку па справах, як дэстабілізуючыя наш «крыштальны сасуд» элементы зноў спрабуюць забраць у нас самае святое — Чэмпіянат свету па хакеі. Інакш як адсутнасцю ў краіне правадыра і гаранта немагчыма патлумачыць, чаму ў прэсу прасачыўся праект яшчэ не прынятай рэзалюцыі Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Прычым не якой-небудзь, а менавіта па хакеі.**




Як паведамляе сакратарыят Парламенцкай асамблеі, больш як 60 парламентарыяў з 21 дзяржавы — удзельніцы ПА АБСЕ сталі сааўтарамі праекта рэзалюцыі, якая рэкамендуе адмовіцца ад правядзення чэмпіянату свету па хакеі на лёдзе ў 2014 годзе ў Беларусі ў тым выпадку, калі ўлады не вызваляць усіх палітычных зняволеных, якія ўтрымліваюцца пад вартай.

Рэзалюцыя заклікае беларускія ўлады вызваліць і апраўдаць усіх палітычных зняволеных, а таксама паважаць вяршэнства закона, свабоду сродкаў масавай інфармацыі і свабоду перамяшчэння.

Праект рэзалюцыі таксама настойліва заклікае ўрад у Мінску пакласці канец уціскам і праследам у дачыненні да прафсаюзаў, незалежных СМІ і праваабаронцаў; адмяніць дамашні арышт, накладзены на выпушчаных з турмаў палітычных зняволеных; дазволіць правядзенне міжнароднага расследавання па сцвярджэннях аб катаваннях у турмах; дазволіць прадстаўнікам ПА АБСЕ наведваць палітычных зняволеных; вярнуцца да разгляду заявак на рэгістрацыю партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і няўрадавай праваабарончай арганізацыі «Вясна», якім неаднаразова было адмоўлена ў рэгістрацыі без належных падстаў.

«У хакеі за бойку вы атрымліваеце пяціхвілінны штраф, у Беларусі — пяць гадоў за мірную маніфестацыю, — заявіў Тоні Лойд (Вялікабрытанія). — У перыяд, калі краіны робяць больш жорсткімі санкцыі да Беларусі, было б цалкам няправільна з нашага боку падарваць гэтыя намаганні і ўзнагародзіць рэпрэсіўныя паводзіны Мінска правядзеннем міжнароднага мерапрыемства і звязаным з іх фінансавым прыбыткам».

У 2010 годзе Лойд узначальваў місію АБСЕ па назіранні за выбарамі ў Беларусі, падчас якіх сотні пратэстуючых, уключаючы актывістаў апазіцыі і журналістаў, былі арыштаваныя, некаторыя з якіх знаходзяцца ў турме і зараз. З 2010 года былі праведзены новыя арышты і вынесены прысуды, у тым ліку і ў дачыненні да вядомага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, якога прыгаварылі да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі за ўхіленне ад уплаты падаткаў, звязанае з яго прафесійнай дзейнасцю ў праваабарончым цэнтры «Вясна».

Узнікае пытанне: а ці не занадта спадар Лойд патрабуе за тое, каб еўрапейскія хакеісты змаглі памахаць клюшкамі на «Мінск — Арэне» і паесці беларускіх дранікаў? Ладна яшчэ палітвязняў выпусціць. Бог з імі, гэтых выпусцім — новых набярэм. Але ж для іншага законы мяняць трэба! Ну як Мінюст «вернецца да пытання рэгістрацыі», калі такая працэдура ў законе не прапісаная? Дзе ён дастане дакументы на рэгістрацыю «Вясны», якая спрабавала зарэгістравацца апошні раз тры гады таму?

Дарэчы, які хатні арышт для выпушчаных палітвязняў? Няма хатняга арышту! Дробязі толькі: прэвентыўны нагляд, забарона балатавацца кандыдатам у дэпутаты, абавязак увечары і ўначы знаходзіцца дома, забарона на выезд без дазволу міліцыі… А афіцыйна ніякага хатняга арышту няма.

І, дарэчы, сама пастаноўка пытання: спачатку Лойд патрабуе вызваліць палітвязняў, а потым «дазволіць прадстаўнікам ПА АБСЕ наведваць палітычных зняволеных». Каго яны там будуць наведваць?

Так што не перашкаджайце кіраўніку адпачываць, а іншым — працаваць.

Палата прадстаўнікоў вырашыла ўдарнай працай адзначыць фактычнае заканчэнне сваіх паўнамоцтваў. Прынятыя законапраекты толькі за сераду пасыпалася, як з меха. І амаль адразу далі «адказ Чэмберлену — Лойду».

У першым чытанні прынятыя папраўкі ў некаторыя законы па пытаннях барацьбы з тэрарызмам і супрацьдзеяння экстрэмізму. Законапраект змяняе паняцце «тэрарызм» і трактуе яго не як дзеянне, а як з’яву. І гэтая з’ява «ўключае ідэалогію і практыку прымянення гвалту або пагрозы насіллем у мэтах аказання ўздзеяння на прыняцце органамі ўлады рашэнняў або перашкоды палітычнай ці іншай грамадскай дзейнасці, парушэння грамадскай бяспекі, запалохвання насельніцтва, правакацыі міжнародных ускладненняў, вайны, падрыву канстытуцыйнага ладу і дэстабілізацыі ўнутранага становішча дзяржавы».

Такім чынам, спадару Лойду не наведаць Чэмпіянат свету па хакеі ў Беларусі па іншых прычынах. Бо ён сваімі патрабаваннямі адмены хакею «правакуе міжнародныя ўскладненні» і «дэстабілізуе ўнутранае становішча дзяржавы». Не трэба на нашай зямлі тэрарыстаў!

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прынялі ў другім чытанні законапраект «Аб Следчым камітэце». Першы намеснік старшыні СК Андрэй Швед заявіў у размове з журналістамі, што прыняты дэпутатамі законапраект — «базавы для Следчага камітэта. Гэта комплексны акт, які вызначае сутнасць камітэта і аснову яго дзейнасці». Швед таксама паведаміў, што калі ў Расіі Следчы камітэт праводзіць папярэдняе расследаванне адной пятай крымінальных спраў, то ў Беларусі — каля 98%.

Вось дык дзіва! Закона аб Следчым камітэце яшчэ няма, прэзідэнтам не падпісаны, а СК ужо нейкім дзіўным чынам вядзе каля 98% крымінальных спраў.

Прыняты і закон аб амністыі. І ён сапраўды, як казаў Лукашэнка, стане «рэальнай праявай гуманізму з боку дзяржавы да грамадзян, якія спатыкнуліся, мерай, якая дазволіць такім людзям стаць на шлях выпраўлення і адаптавацца да сацыяльнага асяроддзя». Бо «велічыня выдаткаў рэспубліканскага бюджэту ў выніку прагназуемага вызвалення з выпраўленчых установ 2880 чалавек не зменіцца за кошт зноў паступаючых асобаў для адбыцця крымінальнага пакарання», — напісаў у фінансава-эканамічным абгрунтаванні да праекту закона міністр МУС Ігар Шуневіч.

Добра хоць «не пацягне выдзялення дадатковых сродкаў з рэспубліканскага бюджэту», пра што таксама гаворыцца ў фінансава-эканамічным абгрунтаванні, здзекуюцца іншыя злыя языкі.

Так што з такімі дэпутатамі Аляксандр Лукашэнка можа спакойна глядзець самы цікавы футбол. Як паведаміў беларускі пасол ва Украіне, 1 ліпеня ў Кіеве Лукашэнка сустрэнецца з Віктарам Януковічам, абмяркуе з ім актуальныя пытанні двухбаковага супрацоўніцтва, а ўвечары пойдзе разам з ім глядзець фінал Еўра– 2012.

Добра быць сябрам!

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### СЯРГЕЙ ГАЙДУКЕВІЧ

Беларускія ліберал-дэмакраты не вераць, што іх пусцяць у парламент, але ў выбарах будуць актыўна ўдзельнічаць. На думку кіраўніка Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Сяргея Гайдукевіча, нацыянальна арыентаваная беларуская апазіцыя не мае дастатковых чалавечых рэсурсаў. А парламенцкія выбары ўвосень не прывядуць у Нацыянальны сход Беларусі прадстаўнікоў апазіцыі, адзначае сайт «Belarus Security Blog».

Кіраўнік ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч не верыць, што ўлады рызыкнуць дапусціць у парламент хоць каго, хто нязгодны з палітыкай Лукашэнкі. Тым не менш, у саміх выбарах ліберальныя дэмакраты будуць удзельнічаць максімальна актыўна. ЛДПБ плануе вылучыць на 110 дэпутацкіх месцаў у Парламенце 245 сваіх кандыдатаў. «Выбараў няма ў краіне. Іх проста тупа няма! І сур’ёзным палітычным партыям, што налічваюць дзясяткі тысяч чалавек, трэба прымаць сур’ёзныя рашэнні, а не распавядаць людзям казкі», — гаворыць пра бліжэйшую электаральную кампанію Гайдукевіч.

Гайдукевіч заявіў, што сам балатавацца не будзе, бо не бачыць сэнсу ў гэтым. «Пры справядлівых выбарах я магу выйграць у любой акрузе. У 2004 годзе ўлады ў гэтым пераканаліся, і з таго часу для мяне дарога ў Парламент зачыненая», — мяркуе лідар ЛДПБ. Таксама ён не верыць, што нехта з прадстаўнікоў апазіцыі зможа патрапіць у парламент.



### АНДРЭЙ ЧАРНОБЫЛЕЦ

Намеснік начальніка ўпраўлення марскога і рачнога транспарту Міністэрства транспарту і камунікацый Андрэй Чарнобылец паведаміў, што ў краіне няма зрухаў у стварэнні нацыянальнага марскога флоту.

Паводле яго слоў, пра гатоўнасць інвеставаць у арганізацыю нацыянальнага флоту заявіла створаная ў 2010 годзе першая ў краіне марская суднабудаўнічая кампанія «Белмарфлот», асноўным заснавальнікам якой выступіла Zepter group. Аднак на сёння якіх-небудзь «сур’ёзных зрухаў» па стварэнні нацыянальнага флоту з боку «Белмарфлоту» не адбылося. Кампанія працуе толькі ў сферы фрахтавання судоў для перавозкі беларускіх грузаў.

Чарнобылец мяркуе, што прарыву ў стварэнні нацыянальнага флоту з боку гэтай кампаніі пакуль не чакаецца. Паводле яго слоў, усе ідуць насустрач кампаніі «Белмарфлот», для яе створаны ўсе ўмовы, аднак у яе заснавальніка, Zepter group, «хутчэй за ўсё, нейкія ўнутраныя праблемы».

Паводле слоў спецыяліста, у цэлым у Беларусі цяпер «досыць актыўна» абмяркоўваецца магчымасць стварэння нацыянальнага марскога флоту, гэтым кірункам цікавяцца інвестары. Указам прэзідэнта замацавана агульнасусветная практыка ў частцы падаткаабкладання гэтага віду дзейнасці і прэферэнцыі для беларускіх суднаўладальнікаў.

### ІРЫНА ДАРАФЕЕВА

Спявачка Ірына Дарафеева стала загадчыцай кафедры эстраднага майстэрства, паведамляе інтэрнэт-газета «Салідарнасць». У 2007 годзе спявачка была прызначаная Аляксандрам Лукашэнкам «тварам Беларусі». За гэты час прафесійныя поспехі Ірыны павялічыліся не толькі на эстрадзе, але і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў.

Як стала вядома, Ірына Дарафеева, выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, стала загадчык кафедры эстраднага майстэрства гэтай навучальнай установы. Да гэтага яна па працягу сямі гадоў была педагогам (эстрадны вакал). «Калі гаварыць пра дыплом, то я скончыла ўніверсітэт як вакалістка, а педагагічныя навыкі набыла з досведам. На кіруючых пасадах працую ўжо досыць даўно, паколькі ў 1999 годзе (год заканчэння ВНУ) я ўжо кіравала сваім калектывам», — патлумачыла журналістам спявачка.



АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПЯТЫ ФАКТАР БЕЛАРУСКАЙ СТАБІЛЬНАСЦІ

Сяргей НІКАЛЮК

**Праўда пра нашу Вайну і нашу Перамогу поруч з праўдай пра нашу эканоміку і наша грамадства здольная зруйнаваць стабільнасць, якая склалася ў Беларусі за апошнія 18 гадоў.**




Паводле афіцыйнай версіі, якую сфармуляваў «адзіны палітык» (АП) яшчэ ў 2005 годзе, стабільнасць краіны грунтуецца на чатырох фактарах. Па-першае, на дынамічным развіцці эканомікі, якое дазваляе паляпшаць дабрабыт людзей. Па-другое, на моцнай і эфектыўнай уладзе, што не загразла ў карупцыі, а працуе на карысць народа. Па-трэцяе, на дзяржаўнай ідэалогіі, якая аб'ядноўвае людзей і мабілізуе іх на будаўніцтва квітнеючай дзяржавы. Па-чацвёртае, на канструктыўных масавых грамадскіх арганізацыях (прафсаюзных, моладзевых, ветэранскіх).

Аднак шмат вады сышло за сем гадоў, якія мінулі з часу абвяшчэння «спісу стабільнасці». Сёння кожны чытач НЧ і без падказкі з боку знаўцы азбукавых паліталагічных ісцін здольны ацаніць рост свайго дабрабыту, эфектыўнасць улады і мабілізуючы патэнцыял дзяржаўнай ідэалогіі, пра якую сам яе аўтар перастаў згадваць у пасланнях. З чацвёртым фактарам складаней: яго ўнёсак у стабільнасць прызнаваны ад неспецыялістаў. Зрэшты, і спецыялістам выявіць чацвёрты фактар гэтак жа няпроста, як базон Хігса. Тэорыя сцвярджае, што ён ёсць, але эксперыментальна пацвердзіць факт існавання загадкавага базона ў фізікаў усё ніяк не атрымліваецца.

## Дэзерціры рэчаіснасці

Прызнаюся, я заўсёды ўспрымаў прыведзены вышэй «спіс стабільнасці» як няпоўны. Чагосьці вельмі важнага, але няўлоўнага ў ім не хапала. Дапамог выпадак. 14 чэрвеня «Народная воля» апублікавала інфармацыю пра чарговую заканадаўчую ініцыятыву АП. Ён прапанаваў унесці папраўкі ў Кодэкс пра адміністрацыйныя правапарушэнні, якія прадугледжваюць буйныя штрафы за правядзенне сацыялагічных апытанняў *«без получения соответствующей аккредитации»*.

Зразумела, што ў нячэсных сацыёлагаў, у адрозненні ад іх чэсных калегаў, няма шанцаў атрымаць неабходную паводле закона акрэдытацыю, тым больш для правядзення даследаванняў, *«относящихся к общественно-политической ситуации в стране, республиканским референдумам, выборам президента Республики Беларусь, депутатов Национального собрания Республики Беларусь»*. Выбары і рэферэндумы, як я ўжо неаднаразова адзначаў, праводзяцца ў нас у рэжыме спецаперацый. Якія ўжо тут сацапытанні! Дый навошта насельніцтву веданне грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне? Гэтыя звесткі не для слабанервных, асабліва калі ўлічыць схільнасць беларускай эканомікі да дынамічнага развіцця. АП нездарма ўвесь час заклікае нас «ісці ад жыцця». У дадзеным выпадку гэта азначае кіравацца прыказкай: «Менш ведаеш — мацней спіш».

Выдатная прыказка. Шкада, што здолеў ёю скарыстацца толькі кожны пяты беларус. Менавіта столькі шчаслівых і квітнеючых налічыла ў нас служба Гэлапа ўлетку 2011 года (апытанне праводзілася ў 146 краінах). Але перш чым даверыць замежным сацыёлагам, я б папрасіў іх прад'явіць акрэдытацыю. Між тым, колькасць шчаслівых і квітнеючых — адна з характарыстык грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне. Без акрэдытацыі пры Камісіі па апытаннях грамадскай думкі НАН РБ любая спроба ажыццявіць такога кшталту падлікі лічыцца незаконнай.

Здавалася б, якія тут праблемы? Джордж Гэлап заснаваў Амерыканскі інстытут грамадскай думкі яшчэ ў 1935 годзе. Ці шмат хто з беларускіх акадэмікаў у той год меў хоць бы азбукавае ўяўленне пра грамадскую думку і метады яе вывучэння? Адказ відавочны, але не думаю, што ў сучаснай службы Гэлапа ёсць шанец атрымаць акрэдытацыю. І прычыны варта шукаць не ва ўзроўні кваліфікацыі супрацоўнікаў НАН РБ, яна — у натуральным жаданні прадстаўнікоў улады мацней спаць.

Дэзерціры рэчаіснасці. Мабыць, гэта самая слушная характарыстыка ініцыятараў антысацыялагічнага закона. Яе я запазычыў у нямецкага філосафа Карла Ясперса. Але не варта думаць, што круг дэзерціраў абмежаваны прадстаўнікамі ўлады і ўсе дэзерціры «страшна далёкія ад народа».

## Чаму звар'яцеў кулямётчык

Хто ў большай ступені, хто ў меншай, аднак кожны з нас — дэзерцір. Мы дэзерціруем, калі выкладваем на асабістай вітрыне свае добрыя якасці, і затуляем імі свае недахопы. Мы дэзерціруем, калі фіксуем у інфармацыйнай плыні толькі факты, якія пацвярджаюць «карціну свету», што склалася ў нашай галаве. Мы дэзерціруем, калі тлумачым уласныя няўдачы знешнімі акалічнасцямі, а няўдачы іншых — іх асабістымі недахопамі (у сацыяльнай псіхалогіі такія паводзіны называюцца «фундаментальнай памылкай атрыбуцыі»). Мы аддаём перавагу пазітыву, а не негатыву, і ўжо хаця б таму з'яўляемся «дэзерцірамі рэчаіснасці».

Але, мабыць, ні ў чым так відавочна не выяўляецца схільнасць да масавага дэзерцірства, як у стаўленні да Вялікай Айчыннай вайны. Пра гэта кажа ўжо сам факт вылучэння свaёй (Айчыннай) вайны з вайны сусветнай.

Любая спроба прадстаўніц іншы, адрозны ад афіцыйнага, погляд на нашу Вайну і нашу Перамогу ўспрымаецца як абраза ветэранаў і нашай гістарычнай памяці. Тут жа ўзнікаюць абвінавачванні ў «безадказных інтэрпрэтацыях», здольных выклікаць раскол у грамадстве.

Як сведчаць даследаванні нячэсных сацыёлагаў, раскол — галоўная характарыстыка беларускага грамадства, але толькі не ў адносінах да нашай Вайны. Звернемся да сакавіцкага апытання НІСЭПД. Якімі падзеямі XX стагоддзя беларусы ганарацца ў найбольшай ступені? На першым месцы — па-за канкурэнцыяй — перамога ў Вялікай Айчыннай вайне (80%), на другім — з адставаннем больш чым у два разы (36%) — здабыццё дзяржаўнай незалежнасці ў 1991 годзе. Пры гэтым адрозненняў у адказах прыхільнікаў і апанентаў улады ў ацэнцы ролі вайны практычна няма (81% vs. 79%).

Каб не папоўніць спіс «безадказных інтэрпрэтатараў» я скарыстаюся кнігай прафесара Мікалая Нікуліна «Успаміны пра вайну». Любы ахвотны можа адшукаць яе ў інтэрнэце. Рэкамендую.

Фармат артыкула абмяжоўвае маю магчымасць цытаваць, але — паверце — гэтага варты амаль кожны абзац кнігі. Абмяжуюся чатырма. «Аднойчы ўначы я замяняў тэлефаніста каля апарата. Тагачасная сувязь была прымітыўная, і размовы па ўсіх лініях чуліся ва ўсіх кропках. Я даведаўся, як размаўляе наш камандуючы І.І. Фядзюнінскі з камандзірам дывізіі: «Вашу маці! Наперад!!! Не прасунешся — расстраляю! Вашу маці! Атакаваць! Вашу маці!» Гады два таму састарэлы Іван Іванавіч, добры дзядуля, распавядаў па тэлевізары акцябратам пра вайну ў зусім іншых тонах…»

Але справа не ў тонах. Ланцужкі загадаў: «Не прасунешся — расстраляю!» праз фядзюнінскіх і камандзіраў дывізій дацягваліся да ўзводных. Чым заканчваліся гэтыя злавесныя ланцужкі — нам патлумачыць другая цытата: «Штабялі трупаў каля чыгункі выглядалі пакуль як заснежаныя пагоркі, і былі бачныя толькі целы, якія ляжаць зверху. Пазней, увесну, калі снег растаў, адкрылася ўсё, што было ўнізе. Каля самай зямлі ляжалі забітыя ў летнім абмундзіраванні — у гімнасцёрках і чаравіках. Гэта былі ахвяры восеньскіх баёў 1941 года. На іх шэрагамі груваслілася марская пяхота ў бушлатах і шырокіх чорных штанах («клёшах»). Вышэй — сібіракі ў паўкажушках і валёнках, якія ішлі ў атаку ў студзені-лютым сорак другога. Яшчэ вышэй — палітбайцы ў ватоўках і шапках з тканіны (такія шапкі давалі ў блакадным Ленінградзе). На іх — целы ў шынялях, маскхалатах, з каскамі на галовах і без іх».

Такая вось праўда пра вайну. Не варта яе шукаць у шматлікіх мемуарах, напісаных добрымі дзядулямі. З іх штабных бліндажоў заснежаныя пагоркі з трупаў не пpaглядаліся. Не пакінулі добрыя дзядулі і прызнанняў, здольных устаць у адзін шэраг з трэцяй цытатай: «Нядаўна адзін нямецкі ветэран распавёў мне пра тое, што сярод кулямётчыкаў іх палка былі выпадкі вар'яцтва: не так проста забіваць людзей шэраг за шэрагам — а яны ўсё ідуць і ідуць, і няма ім канца».

Іван Іванавіч Фядзюнінскі даслужыўся да так званай «райскай пасады». Г. зн. пасля выхаду на пенсію ў званні генерала арміі быў залічаны ў Групу генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР. Пахаваны на Навадзевічых могілках.

## Час змяняць тып стабільнасці

Сваю кнігу прафесар Нікулін напісаў задоўга да Перабудовы. Выдадзена ж яна была ў 2008 годзе, але не стала падзеяй. Дэзерціры рэчаіснасці ў такой кнізе не маюць неабходнасці. Яна выклікае непатрэбныя асацыяцыі з днём сённяшнім. Фядзюнінскага не з Марса ж накіравалі ў намеснікі будучаму маршалу Перамогі Жукаву, і не марсіяне ж пакорліва ішлі ў поўны рост на нямецкія кулямёты.

Камандзіраў, якія выказалі сумнеў у разумнасці такога кшталту загадаў, расстрэльвалі перад строем з фармулёўкай: «У прысутнасці салдат усумніўся ў нашай перамозе». Так раскручваўся махавік негатыўнай селекцыі. Ён не быў спароджаны вайной. Пры яго непасрэдным удзеле была сфармавана «ленінская гвардыя» і «ордэн мечаносцаў» сталінскага прызыву, што прыйшоў ёй на змену, але вайна надала махавіку негатыўнай селекцыі дадатковае паскарэнне. Чацвёртая цытата: «Трэба думаць, гэта селекцыя народа — бомба запаволенага дзеяння: яна выбухне праз колькі пакаленняў, у XXI ці XXII стагоддзі, калі адабраная і выпешчаная бальшавікамі маса падонкаў спародзіць новыя пакаленні сабе падобных».

Тэма даваенных рэпрэсій на афіцыйным узроўні ў нас не аспрэчваецца. Нашу гістарычную памяць згадванне адпаведных фактаў не абражае, хоць дзяржаўныя СМІ імкнуцца абыходзіць яе. Але даваенныя рэпрэсіі і Перамога, заваяваная пад лозунгам «Мы за цаной не пастаім», — два бакі аднаго медаля. Іх немагчыма аддзяліць адзін ад аднаго. Як у першым, так і ў другім выпадку мы маем справу з адным і тым жа грамадствам і адной і той жа ўладай.

Праўда пра нашу Вайну і нашу Перамогу нароўні з праўдай пра нашу эканоміку і наша грамадства, здольная зруйнаваць стабільнасць, якая склалася ў Беларусі за апошнія 18 гадоў. Такая ў нас спецыфічная стабільнасць. Але і ўтойванне праўды не гарантуе ёй доўгіх гадоў жыцця. Дзе ж выйсце? Выйсце — у выбары іншага тыпу стабільнасці. І гэты выбар павінны зрабіць цяперашнія дэзерціры рэчаіснасці, але для гэтага ім неабходна навучыцца глядзець праўдзе ў вочы.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПАД РЭПРЭСІЯМІ — ЖУРНАЛІСТЫ

Вольга ХВОІН

**У краіне будзе амністыя. Палітвязні пад яе крытэры не патрапілі. Больш за тое — спіс вязняў сумлення ў Беларусі пашыраецца.**




Пікет у падтрымку Андрэя Пачобута каля будынка суда, ліпень 2011 года

Асуджаныя па артыкулах Крымінальнага кодэкса 293 («Масавыя беспарадкі»), 367 («Паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь»), 369–3 («Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў») не трапілі пад амністыю. Адпаведны законапраект адразу ў двух чытаннях прынялі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Усяго пад амністыю патрапіла 2 880 чалавек. Палітычныя зняволеныя застануцца за кратамі. Адначасова спіс вязняў сумлення Беларусі пашыраецца — цяпер у ім 14 чалавек.

Уплывовая арганізацыя «Amnesty International» назвала журналіста польскай «Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута вязнем сумлення. «Журналіст Андрэй Пачобут знаходзіцца пад пагрозай турэмнага зняволення на тэрмін да пяці гадоў за крытыку прэзідэнта Беларусі. Ён з'яўляецца вязнем сумлення і арыштаваны ў сувязі з ажыццяўленнем свайго права на свабоду выказвання меркаванняў», — гаворыцца ў тэрміновай заяве міжнароднай праваабарончай арганізацыі «Amnesty International».

Андрэй Пачобут быў арыштаваны 21 чэрвеня ў сваёй кватэры ў Гродна. Яго абвінавачваюць у «паклёпе на прэзідэнта» па артыкуле 367–2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь у сувязі з публікацыяй артыкулаў у беларускіх недзяржаўных СМІ. Афіцыйнае абвінавачванне яшчэ не прад'яўлена. Андрэю пагражае зняволенне на тэрмін да пяці гадоў. 21 чэрвеня ў кватэры журналіста быў праведзены ператрус, канфіскаваны яго кампутар і дакументы. У сваіх артыкулах Андрэй Пачобут крытыкаваў судовы працэс і вырак у справе Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якія былі расстраляныя ў сакавіку 2012 года ў сувязі з выбухам у сталічным метро. Ён таксама выступіў з крытыкай пазіцыі Лукашэнкі ў дачыненні да Еўрапейскага саюза і рэакцыі беларускіх уладаў на хвалю «маўклівых пратэстаў» у краіне.

Летась вясною Андрэй Пачобут таксама быў абвінавачаны ў «абразе прэзідэнта» і «паклёпе на прэзідэнта» за публікацыі ў «Gazecie Wyborczej». 5 ліпеня 2011 суд пакараў яго трыма гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання. Тады сваё вызваленне Андрэй Пачобут назваў вынікам вялікай міжнароднай салідарнасці. «Я чакаў больш жорсткага прысуду. Вынесены прысуд — гэта вынік ціску на рэжым Лукашэнкі, вынік увядзення эканамічных санкцый у дачыненні да рэжыму, менавіта гэтага і баіцца Лукашэнка», — заявіў Андрэй на ганку судовага будынку. Вызвалення журналіста патрабавалі беларускія і міжнародныя праваабарончыя структуры, кіраўніцтва Еўрасаюза, ЗША і Польшчы. У Польшчы ладзілася адмысловая інфармацыйная кампанія ў падтрымку журналіста.

Цяпер, відавочна, ідзе збор інфармацыі на Андрэя. Пад гэтай маркай у офісе незарэгістраванага «Саюза палякаў», актывістам якога з'яўляецца Пачобут, шукалі «антыдзяржаўную прэсу». Міністэрства замежных спраў Польшчы выказала занепакоенасць у сувязі з арыштам журналіста і кіраўніка Рады «Саюза палякаў на Беларусі» Андрэя Пачобута, перадае інфармацыйнае агенцтва PAP. Прэс-сакратар МЗС Марцін Басацкі падкрэсліў, што арышт Пачобута — чарговы доказ вельмі дрэннага становішча з правамі чалавека ў Беларусі.

«Amnesty International» лічыць, што арышт Андрэя Пачобута з'яўляецца часткай працяглай кампаніі пераследу актывістаў грамадзянскай супольнасці і журналістаў з боку беларускіх уладаў. Пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года адбылося беспрэцэдэнтнае пагаршэнне сітуацыі з правамі чалавека ў краіне. Вядучыя апазіцыйныя дзеячы былі затрыманыя і асуджаныя ў выніку несправядлівых судовых пасяджэнняў. НДА, актывісты грамадзянскай супольнасці і журналісты па-ранейшаму зазнаюць пераслед у сувязі з крытыкай уладаў», — гаворыцца ў заяве, змешчанай на сайце праваабарончага цэнтру «Вясна».

«Amnesty International» звяртаецца да ўсіх зацікаўленых асоб і арганізацый з заклікам запатрабаваць ад беларускіх уладаў «неадкладнага і безумоўнага вызвалення Андрэя Пачобута», а таксама «забеспячэння гарантый на свабоду выказвання меркаванняў у адпаведнасці з міжнароднымі абавязацельствамі ў галіне правоў чалавека, у тым ліку артыкула 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах».

Юрыст Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец называе арышт Пачобута «дэманстратыўным». «З улікам таго, што менш як год таму Андрэй Пачобут быў асуджаны паводле таго ж артыкулу 367 КК РБ (толькі частка 1), сёння яму можа пагражаць больш суровае пакаранне, бо з'явіліся абцяжарвальныя абставіны — паўторнасць, — мяркуе намеснік старшыні БАЖ Андрэй Бастунец. — У выпадку асуджэння журналіста ўжо нарад ці будзе ісці гаворка пра ўмоўнае пакаранне альбо адтэрміноўку. Больш за тое — прысуд па першай крымінальнай справе можа быць ужыты рэальна. Гэтыя падзеі нельга разглядаць па-за палітычным кантэкстам. Мы бачым, што афіцыйны Мінск не толькі не дэманструе палітычнай волі да вызвалення палітзняволеных, што з'яўляецца каменем сутыкнення ў дачыненнях з Еўрасаюзам, наадварот — з'явіўся новы палітычны вязень, прычым гэта чалавек, які даволі доўга знаходзіцца ў эпіцэнтры ўвагі як сусветнай грамадскасці, так і прадстаўнікоў урадаў розных краін... Складваецца ўражанне, што крымінальны пераслед Пачобута мае дэманстратыўны характар».

Напрыканцы мінулага тыдня таксама быў арыштаваны журналіст «Еўрарадыё» Павел Свярдлоў па абвінавачванню ў нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы.

Кропкавыя рэпрэсіі адбываюцца і ў дачыненні да грамадскіх актывістаў: быў затрыманы ў сябе дома Іван Амельчанка і асуджаны на 15 сутак. Яго таксама абвінавацілі ў лаянцы матам.

26 красавіка падчас Чарнобыльскага шляху Амельчанка стаў каля пераапранутага аператыўніка з самаробным плакатам «Мусарок».

15 мая Іван Амельчанка вырашыў самастойна прыйсці ў міліцыю, паколькі яго цягам апошніх тыдняў пастаянна спрабавалі выклікаць праз бацькоў для дачы тлумачэнняў па справе аб масавых беспарадках 19 снежня 2010 года. У аддзяленні міліцыі Івана адвялі ў асобнае памяшканне, дзе пратрымалі да позняга вечара і склалі пратакол. У судзе абвінавацілі ў дробным хуліганстве і пакаралі арыштам на 15 сутак.

30 мая Іван меўся выйсці з ізалятара, аднак яго адразу ж завезлі ў Маскоўскі РАУС, дзе склалі пратакол за хуліганства (арт. 17.1 КаАП) і асудзілі на 10 сутак. Як і іншых маладзевых актывістаў, яго ўтрымлівалі за кратамі да заканчэння візіту Уладзіміра Пуціна ў Мінск.

Такім чынам, Іван Амельчанка за няпоўных два месяцы правёў і правядзе за кратамі 40 сутак.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# АДЗІНАЯ З ЕЎРАПЕЙСКІХ

**Улада запусціла механізм падрыхтоўкі праўдападобнага выніку парламенцкіх выбараў. Раней многія з тых, хто зараз шчыруе, выкладалі на кафедрах навуковага камунізму, а зараз ужо ў якасці палітолагаў даводзяць да паднявольнай публікі падуладную ідэалогію.**



Многія нават робяць гэта свядома, а большасць — за невялікія грошы, якіх інакш зарабляць не ўмеюць. Каб нікога не абражаць, не станем называць прозвішчы. Тым больш, што самыя-самыя ўсім вядомы. Прыкладам, розныя галіновыя міністры, якія павінны ўмець не толькі гандляваць прадукцыяй падуладных прадпрыемстваў, але і рабіць для беларускіх тавараў прапагандысцкія абгорткі. Як усе ведаюць, галоўным для ўнутранага спажывання тавараў зноў наканавана быць 500-доларавай зарплаце.

Доларавы эквівалент заробку, як і ў 2010 годзе, імкліва расце. Сёння ён ужо дасягнуў блізу 400 долараў, і для дасягнення мэты павінен падвысіцца на 20%. Адпаведна павінна павялічыцца і прадукцыйнасць працы — прыкладам, там, дзе за хвіліны станок вырабляе 4 нейкія «калабашкі», да канцу года павінна вырабляцца пяць, дзе карова давала чатыры тысячы літраў малака, павінна даць пяць, дзе ўраджайнасць складала 40 цэнтнераў, павінна сёлета атрымацца 50. І вось такія дзівосы павінны адбыцца ў кожнай галіне і на кожным прадпрыемстве.

Акрамя непасрэднага падвышэння прадукцыйнасці працы існуе і добра знаёмы спосаб вырабу тарнай прадукцыі на зэканомленай сыравіне і энергіі. Хоць ён лічыцца і вельмі прывабным і даступным, але значнай эканоміі рэсурсаў у кароткія тэрміны не дасць. Як паказаў змрочны досвед 1990-х гадоў, у халодных і цёмных цэхах прадукцыйнасць працы мае тэндэнцыю падаць да нуля. Разам з тэмпературай паветра. А ў такой сітуацыі нашмат выгадней прадаваць зэканомленую сыравіну, чым гатовую прадукцыю. Гэты варыянт, на самай справе, магчыма, быў бы самы выгадны для Беларусі, каб яна мела дастаткова сыравіны ды іншых рэсурсаў.

Карацей, куды не кінь — усюды клін.

Але ж не толькі, не столькі і не адзіным хлебам жыве ў нас чалавек. Не меней як 40% (а хто і на цэлую палову) жыве адчуваннем патрыятычнай залежнасці свайго грамадзянскага існавання ад прымхаў і жаданняў вельмі моцнай структуры улады, адбудаванай прэзідэнтам на чале з прэзідэнтам. Як дастаткова паэтычна выказаўся гэты дзеяч, калі многім групам, асабліва элітам, хацелася мець «слабага прэзідэнта», ён, будучы абраным як слабы, зрабіўся моцным, змяніўшы дзеля гэтага канстытуцыю. І сцвярджае, што зрабіў гэта дзеля таго, каб выцягнуць краіну з провы, у якую яна трапіла, «калі абвалілася эканоміка, калі відавочным быў пралік улады, беспрацоўе і галеча...»

Цікавая рэч: кіраўнік імкнецца даваць пазітыўную, кампліментарную для сябе і сваёй каманды ва ўладзе інфармацыю ды каментары, а атрымоўваецца не зусім гладка. Так, з яго прамовы вынікае, што ў выніку ад улады былі адсунуты лепшыя на той час групы, і дзяржава будавалася насуперак не толькі іх інтарэсам, але і іх больш дасведчаным поглядам на прадмет. Узнікае недавер і да сучасных беларускіх эліт, якія фармаваліся не з лепшых асоб і спецыялістаў, і, верагодна, іх галоўнай якасцю была поўная лаяльнасць да прэзідэнта і яго палітыкі. Іншыя людзі нікуды трапіць не змаглі. Таму галоўнай праблемай уладаў і яе апанентаў, а гэта значыць галоўнай праблемай самой краіны, па-ранейшаму застаецца кадравая.

Па-другое, трэба прызнаць, што цалкам эмацыйна і змястоўна вычарпала сябе спасылка на «ліхія 90-я», бо на самай справе тыя падзеі і часы ў цэлым толькі і маглі стварыць шанец для ўзнікнення незалежнай і суверэннай Беларусі. Пры любым іншым раскладзе пра гэта нельга было б не толькі нават вольна падумаць, а не тое, што зрабіць.

Зразумела, беларусам Гасподзь дапамог. Хоць большасць з іх была і засталася свядомымі атэістамі. І яны займелі сваю дзяржаву. Але не толькі з боскай дапамогай, а дзякуючы прысутнасці ў еўрапейскай геапалітычнай прасторы, дзе сілавыя метады вызначэння месца кожнай краіны даўно не лічацца прыдатнымі. Усё робіцца дзеля таго, каб не з'явіліся дзейсныя прыхільнікі такой практыкі. Таму свой персанальны ўнёсак у справу мацавання беларускай дзяржаўнасці ўлады павінны ацэньваць з улікам гэтай гуманітарнай папраўкі.

На самай справе, яна вельмі значная. Прыкладам, парог неўмяшання еўрапейскіх краін у беларускія справы такі высокі, што не дазваляе ім нават дзейсна бараніць палітычных зняволеных або палітыкаў, з якіх штучна робяць крымінальнікаў.

Таму Беларусь з'яўляецца адзінай еўрапейскай краінай, у якой гэта робіцца.

ПАДАРОЖЖА

# ПАЛЕСКІЯ КУРОРТЫ

Вольга ХВОІН

**Беларусь мае свой Крым. Толькі пра яго мала ведаюць. Поўдзень Беларусі — знакамітае Палессе — асацыюецца з глуханманню, балотамі, камарамі і столінскімі гуркамі. Разам з тым паўднёвая частка краіны адметная і вельмі адрозная ад Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі. Іншы свет, які праяўляецца ва ўсім — ад прыроды да характару людзей. А кажуць, што Беларусь — маленькая!**



Рэчка Ясельда



Вольга Махнавец



Анатоль Нефідовіч у дамку для сеансаў пчолатэрапії

На Палессі больш цёплы і вільготны клімат, расліннасць буйная і сакавітая. Калі Паазер'е на поўначы захапляе нардычнай, размеранай прыгажосцю, то поўдзень Беларусі бярэ ў палон якраз тым, што называюць wild nature.

Гэтай шыкоўнасці Беларусь абавязаная найперш унікальным экасістэмам балот. Вядомы абаронца гэтага багацця Беларусі — загадчык сектару Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па біярэсурсах Аляксандр Казулін. Ён падкрэслівае, што балоты — надзвычай абмежаваныя ў Еўропе. Так, буйнейшае беларускае нізіннае балота «Званец» можна абыйсці за дзень. Каштоўнасць балотаў у тым, што яны паглынаюць вуглякіслага газу ў 4–5 разоў больш, чым лес, выдзяляюць пры гэтым багата кіслароду. Балоты таксама — выдатныя акумулятары вады. У беларускіх балотах захоўваецца вады прыкладна столькі ж, як і ў дзесяці тысячах беларускіх азёр. На балотах гняздуюцца 23 віды птушак з 72, занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі, расце прыкладна трэціна «чырвонакніжных» раслін. На беларускіх балотах жыве прыкладна 70 працэнтаў сусветнай папуляцыі птушкі вяртлявая чаротаўка.

Цяпер у Беларусі засталося 863 тысячы гектараў балот. Гэта 30 працэнтаў ад агульнай колькасці, якая існавала ў сярэдзіне 1950-х гадоў мінулага стагоддзя. Як лічаць спецыялісты, пасля меліярацыі найбольшую пагрозу балотам уяўляе цяпер прамысловая здабыча торфу на паліва. «Асноўная праблема нашай краіны, што мы яшчэ карыстаемся такім палівам, як торф», — распавядае мясцовы краязнаўца, географ і гісторык Анатоль Нефідовіч. І нагадвае, што летась была прынятая дзяржпраграма па пашырэнні здабычы торфу. У 2020 годзе аб'ёмы нарыхтоўкі торфу мусяць вярнуцца да лічбаў, што былі за савецкім часам.

Цяпер Глабальны экалагічны фонд рэалізуе праграму па аднаўленні балот — будуюць плаціны для пад'ёму ўзроўню вады. Нагадаем, што ў новую праграму па асушэнню балот патрапілі некаторыя тэрыторыі акурат такі з аднаўленых балотаў.

Анатоль Нефідовіч таксама займаецца экалагічным турызмам, водзіць на экскурсіі ў беларускія балоты групы турыстаў, у тым ліку і замежнікаў. Распавядае, што на Альманскія балоты вадзіў турыстаў па пояс у дрыгве — во дзе крыніца экстрэмальнага турызму!

## Па палях рыбу лавілі

Сярод беларускіх балотаў яшчэ ёсць вёскі, дзе стала жывуць людзі. Бадай што адна з найбольш вядомых у СМІ — Кудрычы. Вёска і сапраўды адметная — месціцца на балотных выспах. У кожнага гаспадара ёсць човен, каб у разліў мець магчымасць ездзіць па вуліцах. Ні крамы, ні аптэкі, ні медпункту тут ніколі не было. Некалі працавала пачатковая чатырохгадовая школа, а каб вучыцца далей, дзеці на лодках плавалі ў суседнюю вёску. Цяпер у Кудрычах жыве 23 чалавекі, усяго 11 хат. Засталіся збольшага пенсіянеры. Да бацькоў часам на выходныя наведваюцца з гораду дзеці. Ёсць некалькі маладых мужчын, што не знайшлі сябе па-за бацькоўскай хатай. Пра такіх мясцовыя жыхары кажуць: «Нармальныя ў нас хлопцы — не крадуць нічога. Пакуль яшчэ касу цягнуць, то не прапашчыя».

У Кудрычах ёсць свой староста — Майсей Махнавец. Дома ў яго заспелі жонку і дачку, якая мыла ды перабірала клубніцы — традыцыйны для Палесся ўраджай. Жонка старасты Вольга Мікалаеўна працуе ў Кудрычах сацыяльным работнікам. Большасць жыхароў ужо даўно размяняла сёмы дзесятак, таму ёсць кім апекавацца.

Была Вольга Мікалаеўна і ў выбарчай камісіі на апошніх прэзідэнцкіх выбарах. З Палесся многае выглядае інакш, чым з Мінску. Па словах жанчыны, супраць Аляксандра Лукашэнкі былі толькі два чалавекі з 80 зарэгістраваных на ўчастку. Распавяла, што на ўчастку была інфармацыя і пра іншых кандыдатаў у прэзідэнты, але прозвішчаў іх ужо не памятае, пра далейшы лёс таксама толкам не ведае.

«А то ж як была калатня ў Мінску, то можа каго і пасадзілі... Калі так, як па тэлевізару паказваюць, — яны крышылі і білі ўсё, то так таксама нельга. Трэба дамаўляцца са словамі, але не так», — разважае Вольга Мікалаеўна пра сталічныя падзеі. Гаворыць, што раней у вёску прыязджалі прадстаўнікі апазіцыі. «Яшчэ перад мінулымі выбарамі прыязджалі — апазіцыя, ці як яны сябе называюць. Агітавалі нас, калі нязгодныя тут жыць, то кватэры абяцалі. Але я адразу сказала: «Мой галубчык, ад мяне маё пяро ніхто не адніме. Я на зямлі радзілася. Куды ж усіх людзей — у дамы забяруць? Якая б уласць не стала, але трэба, каб былі трудзягі. Дзе я радзілася, там і прыжылася. Ужо зраслася з гэтай зямлёю, прыродаю, з усім», — гаворыць непаўторным палескім дыялектам спадарыня. Прыгадвае, што найлепш жылося пры Брэжневе — «усё ляжала пад адкрытым небам і нікому не трэба было, усе ўсё мелі».

Скардзіцца, што цяпер сухія вёсны і ўвогуле рэдка затапляе, а раней «было такое, што і па палях рыбу лавілі. Хіба што летась зімою вада была ажно ў падвале ў хаце».

Муж разводзіць у калодах, што засталіся яшчэ ад прадзеда, пчол. Цікава, што пчол гаспадар не падкормлівае, і ўвосень іх не чапае, «а па вясне, як што застанецца ад іх, то забірае».

Вольга Мікалаеўна распавяла, што яе маці дражнілі шляхцянкаю, а дзявочае прозвішча спадарыні было Колб. Гаворыць, што шляхта была ў суседніх вёсках, а Кудрычы сваёй шляхты не мелі.

## Начаваў я ў вуллі...

Не балотамі адзінымі — кожная мясцовасць цікавая жыхарамі. Сям'я Нефідовічаў у Лунінецкім раёне развівае сваю аграсядзібу «Прыпяцкі плёс». Ірына і Анатоль — настаўнікі, улюбёныя ў свой край, як бы ні складаліся знешнія абставіны. Ірына распавяла, што да іх часта прыязджаюць арнітолагі, у тым ліку з Еўропы, для назірання за птушкамі. У мінулым годзе ў сезон штотыдзень на сядзібе гасцявалі групы турыстаў. Ірына гаворыць, што «няма нічога лепш за дарогу, якая прыносіць уражанні і новыя веды», засмучаецца, што некаторых сваіх вучняў бачыць ранкам у краме ў чарзе за спіртнымі напоямі для апахмелу.

Анатоль Нефідовіч, відавочна, няўрымслівы гаспадар. Напрыклад, увасобіў у практыку арыгінальную ідэю: прапануе гасцям сядзібы незвычайныя сеансы аздараўлення, то бок сон на вуллях з пчоламі. Ідэю гаспадар пазычаў ва Украіне. Азін пчаляр доўга пакутаваў з хворай спіной. Але аднойчы прысеў побач з вуллем, абапёрся на яго спінаю. Боль прайшоў. Пчаляр звязаў гэта ў лагічны ланцужок ды зладзіў сабе ляжанку на вуллях.

Анатоль Нефідовіч пабудаваў сімпатычны дамок на двух вуллях, а ў ім палок з сеннікам. Гаспадар тлумачыць, што ўначы пчолы не спяць, а працуюць крыльцамі, каб сушыць вуллі. І гэты гул, а таксама выпарэнні мёду і воску надзвычай карысныя. «Не абяцаю, што некага вылечу. Але эстэтычна, эмацыйна гэтая ідэя добрая», — гаворыць Анатоль. Ён прапануе сеансы пчолатэрапіі сваім гасцям. Вырашыў прызначыць цану ў тры долара — можна 20 хвілін паляжаць на вуллях ці ноч там правесці.

## Клубнічны бонус

Століншчына — агурочнае царства Беларусі, а Лунінеччына — клубнічнае.

Цёплы клімат, урадлівая зямля і працавітасць мясцовых жыхароў дазваляюць не толькі свае патрэбы задаволіць у прадуктах земляробства, але і на экспарт адправіць сотні гружаных салодкім таварам машын.

У вёсцы Дварэц Лунінецкага раёна рынак клубніц размясціўся наўпрост на трасе. Паабапал дарогі стаіць безліч машын — тут і фуры, і мікрааўтобусы, і легкавікі. Мясцовыя жыхары нясуць перакупшчыкам свой прыгожы тавар вёдрамі.

— Завіце мяне Джон — гэта павашаму, — гаворыць прыветлівы азербайджанец каля машыны з расійскімі нумарамі. Расказвае, што клубніцы купляе, каб потым завезці іх на Маскву. Пра прыбытковасць гэтага бізнесу перакупшчыкі асабліва не хочуць распавядаць. Адказы амаль ва ўсіх неканкрэтныя — «як атрымаецца, раз на раз не прыходзіцца».

Спадарыня Тамара збірае ўраджай ягады на дзялянцы побач з рынкам. Жанчына працуе ветэрынарам у мясцовым саўгасе. Гаворыць, што клубніцы — гэта магчымасць добрага датковага заробку:

— Я зарабляю ў саўгасе 1,3 мільёна рублёў. А ў мяне дзве дачкі — адна ўжо вучыцца ва ўніверсітэце, хутка і другая паступіць.

Муж спадарыні Тамары не працуе ў саўгасе, а ездзіць на заробкі ў Расію. У гэты дзень ён разам з жонкай выбіраў клубніцы на дзялянцы.

— Вы пра смецце раскажыце абавязкова! — абурана просіць мужчына. — Паглядзіце вакол, колькі смецця пакідаюць пасля сябе гэтыя гандляры! Ніхто не прыбіраецца. Кіраўніцтва саўгасу быццам бы выдзеліла пару чалавек, якія напрыканцы дня трохі прыбіраюць тут. Але колькі яго разлятаецца па ваколіцы!

Узбочыны дарогі сапраўды засмечаныя — валяюцца паламаныя скрынкі, папера.

Пытаюся, колькі ж зарабляюць на клубніцах мясцовыя жыхары?

— Цяпер ягады адыходзяць, а крыху раней прадавала па пяць вядзёр у дзень. Але ёсць і такія, што па пяцьдзесят прывозілі. Дык, канешне, заробкі нашы адрозніваюцца! О, у нас ёсць людзі, у якіх па 30–50 сотак клубніцамі засаджана! — дзеліцца інфармацыяй пра аб'ём таваразвароту Тамара.

У Лунінецкім раёне клубніцы — першыя ў чарзе экспартнага прадукту. Іх пестуюць — укрываюць ад маразоў спандбондам дзясяткі сотак, бо гарантыя ўраджаю — гэта не жартачкі.

Мясцовыя жыхары расказваюць, што яшчэ два тыдні таму яны мелі на стале «другі хлеб» новага ўраджаю. Цяпер клубніцы адыходзяць, на чарзе — бульба на экспарт.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 2 ЛІПЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Час Саюза.
**10.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**12.10** Камедыя «Гараж» (СССР). .
**14.05** Дыскатэка СССР.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Лёс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**18.25** Арэна.
**19.10** Урачысты сход і святочны канцэрт.
**21.00** Панарама.
**21.35, 23.20** Баявік «У чэрвені 41-га» (Расія - Беларусь).
**22.50** Цырымонія ўскладання вянкоў да помніка Перамогі. Прамая трансляцыя.
**01.50** Дзень спорту.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.05** Дзяржаўная мяжа. Фільм 2-і.



**12.25** Дзяржаўная мяжа. Фільм 3-і.
**15.10** Дзяржаўная мяжа. Фільм 4-ы.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Дзяржаўная мяжа. Фільм 4-ы. Працяг.
**18.00** Дзяржаўная мяжа. Фільм 5-ы.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Фільм «У жніўні 44-га».
**23.00** Ваенная драма «Фальшываманетчыкі».

**СТВ**

**07.00** Фільм «Дзяўчынка шукае бацьку» (СССР, 1959 г.).
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Званая вячэра».
**11.15** Фільм «Сыны ідуць у бой» (СССР, 1969 г.).



**13.00** «Вялікі горад».
**13.35** «Зорны рынг».
**14.50** Фільм «Вазьму твой боль» (СССР, 1982 г.).
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Званая вячэра».
**18.00** Фільм «Вам - заданне» (Беларусь, 2004 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Глыбокая плынь» (Беларусь, 2005 г.).
**21.55** Святочны канцэрт. Лепшае.
**23.45** Фільм «Чаклун і Румба» (Беларусь, 2007 г.).

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватэр» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**09.20** Навіны надвор'я.
**09.50** Бітва экстрасэнсаў.
**10.55** Трагікамедыя «Сабачае сэрца» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**13.25** «Вайна пад дахамі» («Беларусьфільм»).
**15.20** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**16.10** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватэр» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**18.35** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.15** Ваенная драма «Шчаслівай дарогі!» (Францыя).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Прэм'ера. Драма «Ваўкі» («Беларусьфільм»).
**23.30** Дэтэктыў «Госфард Парк» (Вялікабрытанія - ЗША).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** Тэлесерыял «Пончык Люся».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку».
**22.15** Тэлесерыял «Дарога на выспу Пасхі».
**23.15** «Салдат імперыі». Фільм 1-ы.

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.05** «Праграма максімум».
**09.10** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Судовы дэтэктыў».
**14.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Апергрупа-2».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Галоўная дарога.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзалы-3».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «НС - Надзвычайная сітуацыя».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Сумленны панядзелак.
**00.20** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

**EUROSPORT**

**09.30** Матаспартыўны часопіс.
**09.40** Спартовы шлях.
**09.45, 13.45** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 1.
**11.00, 20.15** Снукер. Фінал.
**12.15, 18.45, 02.00** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Хельсінкі. Дзень 5.
**13.30** Лёгкая атлетыка. Фотафініш. Часопіс.
**15.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 2.
**21.45, 23.45** Вось дык так!!!
**22.00** Пра рэстлінг. Агляд WWE.
**22.45** Пра рэстлінг. Vintage Collection. ЗША.
**00.00** Футбол. Эўра-2011. Фінал.
**02.30** Тэхнічны перапынак.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Англійская для дзяцей.
**07.45** Казкі для дзетак.
**07.55** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 7, 8 серыі.
**08.55** Басаног па свеце (спазнаваўчая праграма).
**09.20** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя, «Робэрт Кензэдзі: канец амерыканскае мары».
**10.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.40** «Каралева Бона», тэлесерыял: 4 серыя.
**11.40** «Бэркат і Маршо. Свабода і шчасце», дак. фільм, 2007 г., Чэхія.
**12.40** МакраФон: «Рок па вакацыях–2008»: ч. 1.
**13.25** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**13.45** Кружэлка (музычная праграма).
**14.05** «Арол: крымінальная сага», серыял: 69 серыя.
**15.05** «Костка», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**16.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.05** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя, «Робэрт Кензэдзі: канец амерыканскае мары».
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 17 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Басаног па свеце (спазнаваўчая праграма).
**19.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 1 серыя.
**22.10** Фільматэка майстроў: «Пад Кубрыка», маст. фільм, 2005 г., Францыя–Брытанія.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**00.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 3 ЛІПЕНЯ, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Дакументальны фільм «Імя Баграціёна».
**07.55** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 15.00, 17.00** Навіны.
**09.10** «Дзяўчынка шукае бацьку» («Беларусьфільм»).
**11.05** Кінаканцэрт.
**11.55** Парад і спартова-моладзевае шэсце. Прамая трансляцыя.
**13.40** «Яшчэ пра вайну» («Беларусьфільм»).
**14.35** Прэм'ера. Дак. фільм «Трафей сяржанта Багамолава» («Беларусьфільм»).
**15.20** «Альпійская балада» («Беларусьфільм»).
**17.50** Фантастычны баявік «Мы з будучыні» (Расія).
**20.00** Панарама.
**20.45** Адмысловы рэпартаж АТН.
**21.00** Парад і спартова-моладзевае шэсце.
**22.30** Дэтэктыў «У жніўні 44-га» (Беларусь).

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Дзяржаўная мяжа. Фільм 6.
**11.55** Парад і спартова-моладзевае шэсце. Прамая трансляцыя.
**13.40** «Маналог. Леанід Левін».
**14.15** Фільм «Чаклун і Румба».
**15.30** Дзяржаўная мяжа. Фільм 7-ы.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Дзяржаўная мяжа. Фільм 7-ы. Працяг.
**18.00** Нашы навіны.
**18.10** Дзяржаўная мяжа. Фільм 8-ы.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** АНТ прадстаўляе: Гала-канцэрт «Беларусь у маім сэрцы».

**СТВ**

**06.45** «Паўсталы з попелу». Хранікальна-публіцыстычны фільм.
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «Званая вячэра».
**08.25** Фільм «Вянок санетаў» (СССР, 1976 г.).
**10.00** «Вайна. Вядомая і невядомая».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пяты фронт». Дакументальны фільм. Першая і другая часткі.
**11.55** Парад і спартова-моладзевае шэсце. Прамая трансляцыя.
**13.40** «Пяты фронт». Дакументальны фільм. Заключная серыя.
**14.40** Фільм «Гадзіннік спыніўся апоўначы» (СССР, 1958 г.).
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** «Званая вячэра».
**17.40** «Аўтапанарама». Адмысловы выпуск.
**18.00** Фільм «У чэрвені 41-га» (Расія - Беларусь, 2008 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.25** Фільм «У чэрвені 41-га» (Расія - Беларусь, 2008 г.). Працяг.
**21.00** Парад і спартова-моладзевае шэсце.
**22.30** «24 гадзіны».
**23.20** Фільм «У чэрвені 41-га» (Расія - Беларусь, 2008 г.).

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватэр» (СССР). 3-я і 4-я, заключная, серыі.
**09.25** «Сыны ідуць у бой» («Беларусьфільм»).
**11.15** Дакументальны фільм «Георгій Жукаў. Вайна і мір маршала Перамогі» («Беларусьфільм»).
**11.55** Парад і спартова-моладзевае шэсце. Прамая трансляцыя.
**13.35** Святочны канцэрт.
**15.00** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватэр» (СССР). 3-я і 4-я, заключная, серыі.
**17.45** Баявік «Снайпер. Зброя адплаты» (Беларусь - Расія). 1-я - 4-я, заключная, серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Народная камедыя «Каханне і галубы» (СССР).
**23.25** Ваенная драма «Шчаслівай дарогі!» (Францыя).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Пончык Люся».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку».
**22.15** Тэлесерыял «Дарога на выспу Пасхі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Салдат імперыі». Фільм 2-і.

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Судовы дэтэктыў».
**14.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Апергрупа-2».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзалы-3».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «НС - Надзвычайная сітуацыя».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц».

**EUROSPORT**

**09.30** Фітнэс. Часопіс.
**09.40** Спартовы шлях.
**09.45, 14.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 2.
**10.45** Вось дык так!!!
**11.45** Футбол. Эўра-2011. Фінал.
**13.45** Спартовы часопіс.
**15.00, 01.15** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 3.
**18.45** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 19 гадоў. Францыя - Сербія.
**20.45** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 19 гадоў. Эстонія - Партугалія.
**22.45** Бокс. Матч за тытул чэмпіёна па версіі WBO.
**00.15** Аўтаспорт.
**00.45** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Германія. Агляд.
**02.30, 09.00** Тэхнічны перапынак.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя, «Робэрт Кензэдзі: канец амерыканскае мары».
**08.30** «Час гонару», серыял: 17 серыя.
**09.15** Басаног па свеце (спазнаваўчая праграма).
**09.40** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**10.25** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 1 серыя.
**11.10** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**12.45** Два на два (тэледыскусія).
**13.10** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя, «Робэрт Кензэдзі: канец амерыканскае мары».
**14.05** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**15.00** Басаног па свеце (спазнаваўчая праграма).
**15.30** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.55** «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дак. фільм, 2009 г., Польшча: 1 серыя.
**16.40** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**17.00** «Бэркат і Маршо. Свабода і шчасце», дак. фільм, 2007 г., Чэхія.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 18 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**19.25** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.40** Форум (ток-шоу).
**22.30** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Паход вызваляльнікаў», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**23.30** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 3.
**00.05** Аб'ектыў.
**00.30** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**01.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 4 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Каробка перадач.
**11.10** Мультфільм «Чарадзейны пярсцёнак».
**11.30** «Мой пачатак». Дак. фільм.
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** «Адвечная песня».
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.35** Зона камфорту.
**16.05** Тэлефільм АТН з цыклу «Зямля беларуская».
**16.20** Меладраматычны серыял «Шырокая рака» (Расія - Украіна).
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую» (Расія - Украіна).
**23.05** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША). 1-я серыя.
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Трылер «Радыёгутаркі» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Праграма «Дэтэктар хлусні».
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Шчаслівы квіток». Серыял.
**22.15** «Закрытая школа». Серыял.
**23.20** Асяроддзе пасялення.
**00.20** Прэм'ера. Праект «Іх Італія».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Чаклун і Румба» (Беларусь).
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Дзіўная справа».
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** Фільм «Глыбокая плынь» (Беларусь).
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Павадыр» (Беларусь, 2001 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Дабро пажаліцца».
**23.20** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**00.20** «Дзіўная справа».
**01.10** «Меч». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Цела чалавека.
**09.35** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**11.00** Школа рамонту.
**12.05** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**13.30** Бухта капітанаў.
**14.10** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**14.35** Ясі і худзей.
**15.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.10** Камедыйны серыял «Светлафор».
**16.50** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**17.50** Беларуская часіна.
**18.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.25** Баскетбол. Эўра-2013. Адборачны раўнд. Жанчыны. Беларусь - Партугалія. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Светлафор».
**22.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.05** Баявік «..па мянушцы «Звер» (СССР).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Пончык Люся».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку».
**22.15** Тэлесерыял «Дарога на выспу Пасхі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Салдат імперыі». Фільм 3-і.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Судовы дэтэктыў».
**14.35** Серыял «Апергрупа-2».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Выратавальнікі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзалы-3».
**21.25** Прэм'ера. Серыял «НС - Надзвычайная сітуацыя».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### Eurosport

**09.30, 14.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 3.
**10.30** Футбол. Эўра-2011. Фінал.
**12.30** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 19 гадоў. Францыя - Сербія.
**13.30** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 19 гадоў. Эстонія - Партугалія.
**15.00, 00.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 4.
**18.45** Вось дык так!!!
**19.30** Разам у Лондан. Часопіс.
**19.40** Event Discovery. Часопіс.
**19.45** Спартовы шлях. Часопіс.
**19.50, 23.15** Абранае па серадах. Часопіс.
**19.55** Конны спорт.
**20.55** Конны спорт. Кубак нацый. Ратэрдам.
**21.55** Навіны коннага спорту.
**22.00** Выбар месяца.
**22.05** Гольф. Uspga. AT&T National.
**23.05** Гольф клуб. Навіны гольфа.
**23.10** Яхт клуб. Навіны ветразевага спорту.
**23.20** Кірунак - гольф. Часопіс.
**23.25** Алімпійскі часопіс.
**23.50** Кірунак - спорт. Часопіс.
**23.55** Бізнэс-клас. Часопіс.
**00.45** Снукер. Фінал.
**01.30** Паралімпійскі кубак свету. Манчэстэр.

### Белсат tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** Форум (ток-шоў).
**08.20** «Час гонару», серыял: 18 серыя.
**09.10** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.25** Паляванне на дзівосы.
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**10.35** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**10.50** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 3.
**11.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Паход вызваляльнікаў», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**12.45** Форум (ток-шоу).
**13.30** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**14.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**14.40** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**15.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.30** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**15.55** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Паход вызваляльнікаў», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**17.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 5 серыя.
**17.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 19 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект "Будучыня".
**20.35** Аўтастопам праз Еўропу.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Побач з намі.
**21.40** «Кароль-вінароб», серыял: 3 серыя.
**22.30** «Рок назаўжды», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**23.00** Аб'ектыў.
**23.25** «Зграя», сенсацыйны серыял: 9 серыя.
**00.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 5 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.10** Зямельнае пытанне.
**10.35** Мультфільм.
**10.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША). 1-я серыя.
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** «Здароўе». Ток-шоў.
**16.15** Серыял «Шырокая рака».
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**23.05** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША). 2-я серыя.
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Баявік «Мішэль Вальян: прага хуткасці» (Францыя).

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Праграма «Дэтэктар хлусні».
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Шчаслівы квіток». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**22.15** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Дыяментавая справа Зоі Фёдаравай».
**00.20** Прэм'ера. Праект «Іх Італія».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Дабро пажаліцца».
**08.50** Фільм «Павадыр» (Беларусь, 2001 г.).
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял. Заключная серыя.
**14.35** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Шчыт Айчыны» (Беларусь).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**00.20** «Яшчэ не вечар».
**01.10** «Меч». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вышэй за дах.
**09.35** Ясі і худзей.
**10.10** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**11.10** Страсці па культуры.
**12.00** Жансавет.
**12.40** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**14.05** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**14.30** Ясі і худзей.
**15.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.10** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**16.50** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**17.50** Беларуская часіна.
**18.55** «Пакуль мы жывыя...». 1-я і 2- я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**22.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.00** Час футболу.
**23.45** Гістарычная драма «Балібо» (Аўстралія).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Пончык Люся».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм (2007 г.).
**22.15** Тэлесерыял «Дарога на выспу Пасхі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Салдат імперыі». Фільм 4-ы.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00** Сёння.
**10.20** Следства вялі.
**11.10** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Судовы дэтэктыў».
**14.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Апергрупа-2».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Цуд-людзі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзалы-3».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «НС - Надзвычайная сітуацыя».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### Eurosport

**09.30** Спартовы шлях. Часопіс.
**09.35** Аўтаспорт. Сусветная серыя Рэно. Германія. Агляд.
**10.00, 12.00** Снукер 6-Reds. Чэмпіянат свету. Тайланд. 1/16 фіналу.
**13.45** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 4.
**15.00, 01.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 5.
**18.30** Снукер 6-Reds. Чэмпіянат свету. Тайланд. 1/8 фіналу.
**21.00** Вось дык так!!!
**22.00** Самыя моцныя людзі планеты. Аўстралія.
**23.00** Баявыя мастацтвы. Змяшаныя адзінаборствы. EFC Africa.
**02.30** Тэхнічны перапынак.

### Белсат tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 5 серыя.
**08.25** Побач з намі.
**08.40** «Час гонару», серыял: 19 серыя.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.05** Праект "Будучыня".
**10.35** Аўтастопам праз Еўропу.
**10.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**11.00** «Кароль-вінароб», серыял: 3 серыя.
**11.45** «Рок назаўжды», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**12.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**12.30** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 5 серыя.
**13.15** Побач з намі.
**13.30** «Зграя», сенсацыйны серыял: 9 серыя.
**14.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**15.00** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.10** Праект "Будучыня".
**15.35** «Кароль-вінароб», серыял: 3 серыя.
**16.25** «Рок назаўжды», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**16.55** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 5 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 20 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** «Тэра постсаветыка. Расія пасля выбараў», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.40** «Ілля Сін – граем Сіна», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Паляванне на дзівосы.
**21.45** «Дэфект», тэлесерыял: 5 серыя.
**22.45** «Днюка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 1 серыя.
**00.40** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №6 (70) (чэрвень)

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



ПАДЗЕЯ

## ТРЫНАЦЦАЦЬ ЗОРАК

**У Варне, культурнай сталіцы Балгарыі, адбыўся шосты Міжнародны паэтычны фестываль «Славянскія абдоймы». Свята паэзіі было прысвечанае самаму значнаму дню ўсіх балгараў — дню Кірыла і Мяфодзія. Вынаходніцтва кірыліцы, якой карыстаецца шэраг славянскіх краін, стала для жыхароў Балгарыі сапраўдным брэндам, якім яны шчыра ганарацца, які яны раскручваюць, пра які яны гавораць. У святочны дзень, 24 мая, па ўсёй краіне адбываюцца шматлікія масавыя гулянні. Людзі ідуць з транспарантамі, плакатамі, на якіх — цытаты з кніг, напісаных на кірыліцы.**




На паэтычным фестывалі прысутнічалі больш за пяцьдзясят паэтаў з дванаццаці краін. Усе яны прадстаўлялі свае вершы, кнігі, напісаныя на розных славянскіх мовах. Ад Беларусі свята наведала Дзіяна Балыка.

«Мяне запрасілі на гэты фестываль, бо ў лютаўскім нумары балгарскага літаратурна-мастацкага часопіса «Знаци» выйшла нізка маіх вершаў з кнігі «Цяпер, сёння, назаўжды...», — распавяла Дзіяна.

У дзень ад'езду ў Варну Дзіяна Балыка забрала з друкарні сігнальныя экзэмпляры свайго новага паэтычнага зборніка «P.S. 101 стихоткровение для тебя». Прэзентацыя кнігі адбывалася па-руску, бо гэта працоўная мова пісьменніцы. Але ж паколькі яна была прадстаўніком Беларусі, ёй вельмі хацелася, каб калегі пачулі мілагучную беларускую мову. Таму Дзіяна Балыка чытала свае вершы, напісаныя па-беларуску, а таксама пераклады беларускамоўных паэтаў.

Непасрэднае дачыненне да фестываля «Славянскія абдоймы» меў і Эдуард Акулін, які быў укладальнікам беларускай часткі анталогіі «13 зорак у славянскім небе». Кніга была падрыхтаваная спецыяльна да фестываля. Яе склалі творы найлепшых паэтак славянскага свету.

Чаму 13 зорак, калі славянскіх краін 12? Здагадацца зусім нескладана: ад суседняй рускай літаратуры ў кнігу ўвайшлі вершы «непадзельных» Ганны Ахматавай і Марыны Цвятаевай. Усе вершы, прадстаўленыя ў анталогіі, падаюцца на мове арыгіналу, а таксама ў перакладзе на балгарскую. У кнігу ўвайшлі вершы Ларысы Геніюш «Млын», «Плача ноч сузор'ямі...», «Ўставала сонца, як хвост паўліні...», «Танцуе дождж», «На веру», «Лён», «Зубры», «Не сумуйце», «Запяі мне песню».

**У бліжэйшы час вершы нашай Ларысы Геніюш можна будзе прачытаць не толькі на балгарскай мове, але і на польскай, сербскай, македонскай…**

«Ідэя выдання Анталогіі славянскай жаночай паэзіі належыць вядомай балгарскай паэтцы, заснавальніцы Славянскай акадэміі літаратуры і мастацтва Элцы Няголавай, з якой я пазнаёміўся ў 2008 годзе падчас міжнароднага паэтычнага фестывалю «Бялградскія сустрэчы». Яна на гэтым прэстыжным літаратурным форуме прадстаўляла балгарскую паэзію. Прычым рабіла гэта годна і прыгожа. Сваёй яркай, эмацыйнай, экспрэсіўнай манерай паэтычнага чытання Элка літаральна зачаравала ўсіх удзельнікаў фестывалю. У тым ліку і мяне. Па вяртанні дадому я пераклаў на беларускую мову некалькі вершаў Элкі Няголавай, якія пазней былі надрукаваныя ў першым нумары часопіса «Верасень».

Выхад згаданай анталогіі быў запланаваны ў межах аднаго з фестываляў акурат у юбілейны год Ларысы Геніюш, і таму, калі Элка прапанавала мне ўкласці беларускую частку анталогіі, я не на хвілю не засумняваўся — толькі Ларыса Геніюш. Чаму менавіта Геніюш? Бо стаяла галоўная ўмова — паэтка павінна ўвасабляць сабой паэтычны твар Беларусі за ўсё XX стагоддзе. А хто яшчэ з беларускіх паэтаў крывёй уласнае душы на зледзянелых гулагаўскіх нарах здалеў напісаць: «Як жыць, дык жыць для Беларусі!»? Яна адна — мужная, нескароная, несмяротная, як сама Беларусь, Ларыса Геніюш. Безумоўна, факт выхаду Анталогіі «13 зорак у славянскім небе» — гэта значная падзея ў літаратурным жыцці Беларусі, бо яна заўважна пашырае культурныя абсягі айчыннай Паэзіі», — распавёў Эдуард Акулін.

Дзіяна Балыка прызналася, што выхад вершаў Ларысы Геніюш побач з тэкстамі Цвятаевай, Ахматавай — значная падзея для беларускае літаратуры. «Падчас прэзентацыі я чытала вершы Ларысы Геніюш. Многія паэты захацелі перакласці Геніюш на розныя славянскія мовы. І я адразу зрабіла чатыры пераклады на рускую, каб аблегчыць працу паэтам. У бліжэйшы час вершы нашай Ларысы Геніюш можна будзе прачытаць не толькі на балгарскай мове, але і на польскай, сербскай, македонскай...»

«Сярод усіх славянскіх моваў беларуская гучыць пяшчотней за іншыя!» — зазначыла Элка Няголава, заснавальніца Славянскай акадэміі літаратуры і мастацтва, філолаг, які ведае амаль усе славянскія мовы.

**Ася ПАПЛАЎСКАЯ**

ВЫДАННЕ

## «КНІГА ДЛЯ СПАДАРЫНІ ЭЛ»

**Леанід Дранько-Майсюк. Кніга для спадарыні Эл: проза, вершы, п'еса / Мінск: Кнігазбор, 2012. — 200 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 27).**




Вось што адзначыў сам аўтар пра сваю новую кнігу і яе галоўнага персанажа: «Спадарыню Эл ідэальнай беларускай ніяк не назавеш. Гэты сацыяльны тып узнік на мяжы XX і XXI стагоддзяў, псіхалагічна і партрэтна (вонкава!) ён ужо сфармаваўся… Кніга складаецца з пяці раздзелаў, і гэта менавіта кніга, а не зборнік. З 2005 года, калі існаваў яшчэ адзіны Саюз пісьменнікаў, «Кніга для спадарыні Эл» знаходзілася ў дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура», у якім я, дарэчы, працаваў да жніўня 2002 года. Кнігу паставілі ў план, на яе сабралі наклад (памятаю, было 1500 асобнікаў), зрабілі вёрстку, выканалі мастацкае афармленне… Але за сем гадоў так і не выдалі. Чаму? Ды таму, што аўтар знаходзіўся ўжо не ў тым творчым калектыве…».

Кніга арыгінальна ўпарадкавана, і ў першую чаргу – жанрава. Ад першай да апошняй старонкі яе яднае рытмічна-павеўны аўтарскі стыль.

▸ САЮЗ

# ВЫНІКІ «ЭКСЛІБРЫСА»

**Журы конкурса для маладых літаратараў «Экслібрыс», абвешчанага ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» (СБП), падвяло вынікі. Пераможцаў конкурса, у якім удзельнічала больш за сто маладых аўтараў, — пяць, фіналістаў (разам з пераможцамі) — дваццаць. Яшчэ 15 удзельнікаў атрымалі заахвочвальныя дыпломы і, як і фіналісты, магчымасць навучання ў Школе маладых пісьменнікаў пры СБП.**


Фота прэс-службы СБП

Узнагароджванне дыпламантаў конкурса адбылося 14 чэрвеня ў Мінскай мастацкай галерэі Леаніда Шчамялёва. Дыпломамі за ўдзел у конкурсе Саюза беларускіх пісьменнікаў «Экслібрыс» будучыню беларускай літаратуры ўзнагароджвалі «зубры» пісьменства: паэты Андрэй Хадановіч і Віктар Жыбуль, празаікі Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч і Людміла Рублеўская. Акрамя вышэй названых літаратараў, сябрамі журы конкурса былі Эдуард Акулін, Аксана Данільчык, Ірына Багдановіч і Міхась Скобла. Выбар журы наступны (пералік прозвішчаў падаецца ў алфавітным парадку):

### Пераможцы

Алеся Башарымава (пераклад)
Алесь Замкоўскі (вершы)
Антон Рудак (вершы)
Вера Стромава (Юля Цімафеева) (проза)
Ганна Янкута (пераклад)

### Фіналісты

Алена Беланожка (проза, вершы)
Андрэй Вылінскі (пераклад)
Наста Грышчук (вершы)
Аляксандра Дварэцкая (проза)
Алесь Емяльянаў (вершы)
Сяргей Календа (проза)
Сяржук Камель (вершы)
Павел Капанскі (проза)
Андрэй Касцюкевіч (пераклад)
Віктар Мельнікаў (вершы)
Павел Надольскі (вершы)
Аня Рудак (вершы)
Антось Уласенка (проза)
Алена Хрышчановіч (вершы)
Алесь Яшчанка (проза, вершы, пераклад)

### Заахвочвальныя дыпломы

Раман Абрамчук (вершы)
Аляксандр Апон (проза)
Зміцер Баяровіч (проза, вершы)
Сяргей Белаяр (проза)
Наталля Бойка (пераклад)
Валярына (вершы)
Марына Варабей (вершы)
Дар'я Вашкевіч (проза, пераклад)
Сандра Вецер (вершы)
Ганна Воранава (вершы)
Ганна Гараніна (вершы, пераклад)
Марыя Лапо (проза)
Дар'я Латышава (вершы)
Воля Чайкоўская (вершы)
Наталля Ярмольчык (проза)

Конкурс «Экслібрыс» быў прысвечаны класікам беларускай літаратуры, юбілеі якіх адзначаюцца сёлета: Паўлюку Багрыму, Якубу Коласу, Янку Купалу, Алесю Гаруну, Цішку Гартнаму, Максіму Танку, Янку Брылю і Міхасю Стральцову.

Творы фіналістаў будуць надрукаваныя ў часопісе «Дзеяслоў» і «Новачасаўскім» дадатку «Літаратурная Беларусь». Маладыя аўтары атрымаюць магчымасць наведаць літаратурныя майстар-класы, якія правядуць вядомыя беларускія пісьменнікі. Па заканчэнні конкурса пры СБП пачне працаваць Школа маладых літаратараў.

**Паводле www.tut.by**

## ЛІПЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы чакаюць сваіх юбілеяў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



02.07.1972 — Вячаслаў Яўгенавіч Корбут
22.07.1962 — Анатоль Іосіфавіч Дэбіш
22.07.1962 — Васіль Іосіфавіч Дэбіш
22.07.1932 — Леанід Фёдаравіч Яўменаў
28.07.1972 — Вольга Уладзіміраўна Угрыновіч-Камінская

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# НОВЫ «КНІГАНОША»

**Выйшаў у свет чаргговы — 13-ы — нумар бюлетэня «КНІГАНОША», які штоквартальна выдаецца Саюзам беларускіх пісьменнікаў і ЗБС «Бацькаўшчына».**

У інфармацыйна-папулярызатарскім выданні, які распаўсюджваецца ў папяровай версіі і электронна ў pdf-фармаце па бібліятэках Беларусі і беларусазнаўчых асяродках у 30 краінах свету, традыцыйна змешчаны дзясяткі анатацый і выяваў вокладак кніг мастацкай, публіцыстычнай і навуковай літаратуры, бліц-рэцэнзіі, агляды найцікавых выданняў і каардынаты незалежных беларускіх выдавецтваў, у якіх і з'явіліся названыя кнігі.

У рубрыцы «Аўтограф» чытачоў чакае інтэрв'ю «…І знікне будучыня, калі не будзе гісторыі» з Алесем ПАШКЕВІЧАМ — пра яго новы раман «Сімъ побѣдиши», апублікаваны ў №55 часопіса «Дзеяслоў».

Як і раней, «Кніганоша» распаўсюджваецца па-беларуску і па-англельску. Рэдакцыя ўжо атрымала сотні лістоў з падзякай за неабходную працу. А нядаўна Брытанская бібліятэка ў Лондане выказала Саюзу беларускіх пісьменнікаў і «Бацькаўшчыне» ўдзячнасць за дасылку «Кніганошы» — англамоўнага каталога беларускіх кніг. Супрацоўніца бібліятэкі Рыма Лок і надалей зацікаўлена ў атрыманні чарговых выпускаў бюлетэня.

Да выдання рыхтуецца другі нумар англамоўнага каталога «Кніганоша», які будзе змяшчаць інфармацыю пра беларускамоўныя кнігі, што выйшлі ў 2011 годзе ў серыях СБП «Кнігарня пісьменніка», «Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў», «Бібліятэка «Бацькаўшчыны», кнігарня «Наша ніва», «Гарадзенская бібліятэка», незалежных выдавецтвах «ЛогвінаЎ», «Галіяфы», «Медысонт», «Кнігазбор», «Радыёла-Плюс», «Лімарыюс», выдавецтвах Віктара Хурсіка, Змітра Коласа ды інш. Пераклад другога англамоўнага нумара ажыццяўляе вядомы англійскі беларусіст Джым Дынглі, які доўгі час займаў пасаду старшыні Англа-беларускага таварыства Вялікабрытаніі.


Кніга ноша №13
АЎТОГРАФ
Алесь ПАШКЕВІЧ: «…І знікне будучыня, калі не будзе гісторыі»

# «ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА»

**Выйшаў у свет першы нумар літаратурна-мастацкага і інфармацыйнага бюлетэня Магілёўскага абласнога аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» «Дняпроўская строма».**

У ім — матэрыялы пра пасяджэнне літсуполкі і аднаўленне дзейнасці абласнога аддзялення (дадаюцца фотарэпартаж і пратаколы), звесткі і фотаздымкі новапрынятых у СБП літаратараў Магілёўшчыны. У рубрыцы «Наша гісторыя» Іван Аношкін распавядае пра літаратурную Магілёўшчыну. Бюлетэнь знаёміць і з рэгіянальнымі літпадзеямі, а таксама змяшчае верш ветэрана Вялікай айчыннай вайны, пісьменніка, члена СБП Фелікса Шкірманкова — і сардэчныя віншаванні яму.


Дняпроўская СТРОМА
Наперадзе - праца


ЗАЗІРНУЦЬ У СЛОЎНІК

Нумар, надзвычай насычаны ілюстрацыйным і даведачным матэрыялам, існуе не толькі ў папяровай версіі — ён рассылаецца і ў электронным фармаце. Адказны за выпуск і яго рэдактар — старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СБП Мікола Яцкоў.

А надоечы ў Магілёўскай абласной бібліятэцы адбылася імпрэза, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Была разгорнута кніжная выстава. Супрацоўнікі бібліятэкі расказалі аб галоўных жыццёвых падзеях Я.Купалы і Я.Коласа ў кантэксце гісторыі Беларусі.

У імпрэзе прыняў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў, які распавёў аб удзеле Янкі Купалы ў Вайсковай камісіі 1919 г. і аб гісторыі з'яўлення купалаўскага песеннага цыкла «На вайсковыя матывы». Быў прэзентаваны зборнік «На вайсковыя матывы. Песні на ваяцкі лад» з вершамі Я. Купалы, музыку да якіх напісаў М. Яцкоў. У яго ным і Алы Яцковай выкананні прагучалі тры песні з гэтага зборніка. М. Яцкоў перадаў у падарунак бібліятэцы некалькі новых кніг, выдадзеных руплівасцю С. Чыгрына і Саюза беларускіх пісьменнікаў. У імпрэзе таксама прыняла ўдзел пісьменніца Т. Аўсяннікава.

**Ул. інф.**

▸ СЕЦІВА

# НА «ПРАЙДЗІСВЕЦЕ» — «УЗВЫШША»

**86 гадоў таму, у 1926-м, пачало сваю дзейнасць літаратурнае аб'яднанне «Узвышша». «ПрайдзіСвет» папоўніў электронны архіў часопіса, што выдаваўся суполкай, яшчэ дзевяццю нумарамі, якія можна спампаваць у электронным фармаце pdf.**

Часопіс «Узвышша» — адзін з самых адметных і значных літаратурна-мастацкіх выданняў у гісторыі беларускай літаратуры. З 1927 па 1930 год выдаваўся літаратурнай суполкай «Узвышша», а ў 1931 годзе — Беларускім дзяржаўным выдавецтвам у Мінску. Усяго было выдадзена 44 нумары часопіса ў 39 кнігах.

На старонках «Узвышша» друкавалі свае творы, а таксама літаратурна-крытычныя артыкулы Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Кандрат Крапіва, Адам Бабарэка, Змітрок Бядуля, Пятро Глебка, Сяргей Дарожны, Максім Лужанін, Язэп Пушча, Тодар Кляшторны, Лукаш Калюга, Андрэй Мрый і інш. Многія з прадстаўленых у часопісе твораў зрабіліся нацыянальнай класікай (раман «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя, аповесці «Лявон Бушмар» К. Чорнага, «Ні госць ні гаспадар» Л. Калюгі, паэма «Кругі» У. Дубоўкі і інш.). Не меншую цікавасць і значнасць уяўляюць змешчаныя ў выданні літаратуразнаўчыя, крытычныя і моўныя артыкулы, у якіх уздымаліся пытанні і шукаліся спосабы развязання разнастайных праблемаў (мастацкія канцэпцыі, герой, тэма, форма і інш.), звязаных з вызначэннем напрамкаў развіцця беларускай літаратуры, а таксама распрацоўкай, кадыфікацыяй і нармаваннем беларускай літаратурнай мовы.

СЯМЕЙНАЕ

# Янка САЛАМЕВІЧ: «ЛЮБЛЮ ЛАВІЦЬ ГАВАРКІЯ СЛОВЫ...»

Мой зямляк са Слонімшчыны беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, бібліёграф, энцыклапедыст і фалькларыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Янка САЛАМЕВІЧ у апошні час моцна хварэе. Вельмі хочацца спадзявацца, што ён ачуняе, што яшчэ пажыве на гэтым свеце — і мне зноў нагаворыць цэлую энцыклапедыю беларускага фальклору (пра які спадар Янка можа расказваць бясконца).

Даўно падрыхтавалі мы з ім кніжку-гутарку пра народную творчасць. Калі яна пабачыць свет — адзін Бог ведае. Таму для чытачоў «Новага часу» прапаную сёе-тое з нашых гутарак.

**Сяргей Чыгрын**



***— Спадар Янка, ведаю, што Вы ўсё жыццё запісваеце беларускія прыпеўкі, жарты, выразы, анекдоты, словам, фрывольны фальклор. Дарэчы, ён у Беларусі слаба даследаваны. Ці не так?***

— Неяк я ляжаў у бальніцы, і ў галаву пачаў лезці гэты самы фрывольны фальклор. Я пачаў яго запісваць. Ніл Гілевіч аднойчы сказаў, што такі фальклор у нас вельмі багаты, але пакуль ніхто яго не выдаваў асобным томам ці тамамі. Некалі ўкраінскі фалькларыст Уладзімір Гнацюк назбіраў украінскага фрывольнага фальклору на некалькі тамоў. Але выдаў 2 тамы па-нямецку. Прапаў увесь цымус.

У 1949 годзе ў сваёй роднай вёсцы Вялікая Кракотка на Слонімшчыне на адным вяселлі я пачуў і запомніў такі тост: «Каб ваш ложак добра скрыпаў і да году сынок выпаў!». Пасля, на вяселлі недзе ў 1980 годзе ў вёсцы Талькаўшчына на Слонімшчыне я за гэты тост выйграў першае месца…

Некалі Рыгор Барадулін пад псеўданімам Алесь Чабор надрукаваў у «ЛіМе» (1963, № 84) такую пародыю на Алега Лойку (Лойка, праўда, думаў, што аўтар — Пятрусь Макаль):

*З БДУ выходзяць у людзі,*
*Расце ў СП кандыдатаў праслойка.*
*Калі зусім на рыфмы забудзе,*
*Дык акадэмікам стане Лойка.*

Якубу Коласу прыпісваюць словы, што найчасцей кажуць на вяселлях. Алег Лойка сцвярджаў, праўда, што гэта мо народныя словы з Мікалаеўшчыны:

*Душа ў гарэлцы меру знае,*
*І лішку не бярэ ніколі —*
*Як ракам стаў,*
*Дык і даволі…*

Бацька мой крычаў на карову, якая залезла ў агарод: «Вылазь, падло, каб табе моль голаў аб'еў!». Дурны смех мяне аж душыў, калі ўявіў карову з голай галавой — толькі рогі і чэрап, аб'едзеная моллю галава.

***— Вы любіце лавіць і запамінаць яркія беларускія словы і выразы…***

— Сапраўды, люблю лавіць яркія, гаваркія словы, фразеалагізмы — асаблівасці любой мовы. Ну скажы, у каго ты сустракаў слова «аб'ясніць». Я ў рукапісе Янкі Купалы ў яго музеі трапіў на такі радок: «Няхай цябе аб'ясніць розум ясны». Здорава, праўда?! Бацька некалі казаў: «Мёрзлая зямля заскалела» (стала цвёрдаю як скала). Ён успамінаў аднаго жыхара Кракоткі, які еў блінцы: «сем мазаных, сем німазаных, сем сухама — збольшага перакусіў». І яшчэ чуў: маленькі хлопчык, не проста хлапчаня, а хлапчачок, не зладзейчык, а зладзяйчук. Тоўсты чалавек — паўтарак, раскалі — два будзе. Цётка Надзя ў Слоніме казала: «Некія гэтыя картоплі патрупяшалі». Пачуў ад бацькі таксама: ідзе нага за нагу, як назаўтра; е што гаварыць, ды німа чаго слухаць; з носа кап, ды ў рот хап; здохлік (той, хто кепска есць); трыбухлей (з вялікім жыватом); ужэ наш суп у сватэ збіраецца (пачаў кіснуць).

На вяселлі ў Салігорскім раёне казалі: «Дару вам кляновы ліст, каб першы сын быў трактарыст, гарманіст, праграміст ці яшчэ нейкі іст». Фёдар Янкоўскі некалі згадваў: «З мядком і цвік праглынеш»… Як бачыш, Сяргей, наплёў табе кучу і горбу, мех і торбу.

***— Вы даследавалі беларускі дзіцячы фальклор — гэты дзіўны феномен беларускай традыцыйнай культуры. Але ён таксама не выдадзены асобна. Том «Дзіцячы фальклор» (1972), які выйшаў у серыі «Беларуская народная творчасць», не ахапіў шмат тэкстаў, асабліва варыянтаў з многіх рэгіёнаў Беларусі. Зразумела, што адзін том і ёсць адзін... Што Вы можаце сказаць пра нашу вусна-паэтычную творчасць для дзяцей? Давайце пачнем з калыханак.***

— Давай з калыханак — пазаабрадавай бытавой лірыкі. У нас многа варыянтаў (гэта ж адна са спецыфічных асаблівасцяў фальклору), менавіта варыянтаў, вядомых па ўсёй Беларусі песенек. Прывяду некалькі прыкладаў гэтых даступных зместам і формаю, наіўнай займальнасцю, выразнасцю паэтычнага малюнка, прастатой кампазіцыі, абавязковай рыфмай — каб «складна было», твораў. А як яны развівалі дзіцячую фантазію, як спрыяюць мысленню вобразамі!

*Люлі, люлі, люлі,*
*Прыляцелі куры.*
*Селі на варотах,*
*У чырвоных ботах.*
*Куры пазляталі,*
*Боты паспадалі.*

***

*Люлі, люлі, люлі,*
*Пайшоў кот па дулі,*
*Памарозіў лапкі,*
*Скочыў на палаткі.*
*Сталі лапкі грэцца,*
*Німа дзе катку дзецца.*

Як пасля такога не будзе ажыўляцца і працаваць дзіцячае ўяўленне?! Дарэчы, кот, і гэта ўсім вядома, — самы любімы персанаж нашых калыханак. Гэта і зразумела, ён быў у кожнай хаце, праз яго найперш малыя знаёміліся з жывёльным светам. Чаго толькі не прасілі ў ката ў калыханках (успомні цудоўную і па мелодыі калыханку Міхася Забэйды-Суміцкага) — укласці малога ў люльку, пазабаўляць яго, каб хутчэй заснуў. Прынесці паясок, пайсці на таржок, каб купіць малому піражок, на вулку, каб купіць булку, і г. д.

***— А гайчуканкі?***

— У нас гайчукаць — гэта падкідаць дзіця на калене, каб не плакала, пагуляць з ім. Некалі мая баба Наталля спявала нам такія гайчуканкі:

*Гоп, камень-валун,*
*За каменем горка.*
*Пасеяла буракі,*
*А вырасла моркаў.*

Малое само пачынае думаць і ўяўляць: як так, пасеяла буракі, а вырасла морква. Відаць, недарэка пераблытала насенне. Што яна не бачыла, што сее? Ці што?!

***— Адным з жанраў дзіцячага фальклора з'яўляюцца лічылкі…***

— Лічылкі вельмі простыя па змесце і форме, часам нават без усялякага сэнсу, абы складна было:

*Анцы, цванцы,*
*Трычы, рычы,*
*Эны, бэны,*
*Мэны-вэк.*

***

*Кацілася торба*
*З высокага горба.*
*А ў той торбі*
*Хлеб, пшаніца.*
*З кім ты хочаш*
*Падзяліцца?*

***

*Міхась, Сцяпан,*
*Падай стакан.*
*Падай лімон,*
*Выходзь вон.*

Ёсць яшчэ заклічкі, прыгаворкі. Нашых варыянтаў, па-мойму, у друку не было:

*Дожджык, дожджык,*
*Секані.*
*Я паеду на кані.*
*Богу маліцца,*
*Хрысту хрысціцца.*

***— У 1989 годзе Вы выдалі цэлую кніжку беларускіх загадак.***

— Да вайны на Палессі ад 16-гадовай дзяўчынкі руская фалькларыстка Рыбакова запісала больш за 100 загадак. Яны ў том «Беларускай народнай творчасці» не ўвайшлі. У нас іх безліч…

***— А скорагаворкі?***

— Гэта ж скарб для любога лагапеда (беларускамоўнага найхутчэй не знойдзеш). Паспрабуй сказаць, вымавіць спалучэнне нялёгкіх літар ці складоў хутка, каб не зблытацца. Напрыклад, «Дзе цётчынаму дзядзьку дзецца?». Дарэчы, я сам гэта прыдумаў. Па-мойму, у чытанкі для дзяцей іх трэба ўключаць паболей. Ці многа іх выдавалася асобнымі кніжкамі? Я ведаю пакуль толькі сваю: «Мама Мышка сушыла шышкі». У такія чытанкі, відаць, трэба ўключаць і аўтарскія творы. Многія нашыя паэты спрабуюць іх пісаць. Гэта ж гульня са словам, выпрабаванне яго эўфанічных магчымасцей.

***— Цяпер сталі папулярнымі страшылкі. Расейцы нават пішуць пра іх навуковыя даследаванні.***

— Я да іх стаўлюся неяк кансерватыўна. Лічу, што яны нічому добраму дзяцей не навучаць. Але дзеці любяць страшылкі. Асабліва сучасныя. Калі я чытаў лекцыі па беларускім фальклоры (1988–1997 гады), прасіў студэнтаў даваць мне праклёны і страшылкі. І быў здзіўлены, калі адна студэнтка-мінчанка, якая працавала ў дзіцячым садку, дала мне тэксты на беларускай мове. Ну, ці не цікавая сваёй незвычайнасцю такая страшылка (а можа, проста гумарэска):

*Дзедка старэнькі*
*Пайшоў у лясок,*
*Дзедка старэнькі*
*Прысеў на пянёк.*
*Выбух!*
*Доўга над лесам*
*Ляталі штаны —*
*Гэта праклятае*
*Рэха вайны.*

Каб спыніць тых малых, якія разышліся не на жарты, у нас казалі:

*Мышка здохла,*
*Хвост аблез.*
*Хто прамовіць,*
*Той і з'есць.*

Ніхто не хацеў есці здохлую мыш, таму адразу замаўкалі…

…Мяне заўсёды расчульвалі песенькі ў казках. Яны нейкія вельмі сентыментальныя, быццам разлічаны, каб малое пашкадавала персанажаў, што трапілі ў бяду. Вось як жаласна пеўнік, якога ліса схапіла, абдурыўшы, просіць катка:

*Коце, браце,*
*Мяне ліска нясе*
*У высокія горы,*
*У глыбокія норы.*
*Па барах, па каменні,*
*Па ўсялякім зеллі.*
*Ратуй, братка, мяне,*
*Адбяры мяне ў яе.*

У казцы каза просіцца ў сваіх казлянят, каб адчынілі:

*Дзетачкі, казлянятачкі,*
*Я ваша мама.*
*Чуць дадому прыйшла,*
*Малачка прынясла.*
*Поўны цыцы малачыцы.*

Слухаючы казку, перажываючы за персанажаў, малая ўнучка з вочкамі, поўнымі слёз, прыціскаецца да цябе, ёй страшна, яна іх шкадуе, гатовая вось-вось заплакаць.

*Цепяху, лепяху,*
*Сем вёрст па маху.*
*Плыве па балоце змей.*

Малая перажывае, што гэтая пачвара можа паесці галоўных герояў, якія робяць дабро людзям. Думаю, што тут болей спагаднасці, дабрыні, светлых пачуццяў, чым у расійскіх страшылках:

*Маленький мальчик*
*Нашёл пулемёт,*
*Больше в деревне*
*Никто не живёт…*

Ну, скажы праўду, чаму могуць навучыць такія «творы»? Не так сабе на радзінах беларусы жадаюць немаўляці тры долі ўзяці: хлебавую, салявую, здаровейкую. Толькі калі змалку ў душу дзіцяці будзе закладзена тое, што вучыць яго добраму, светламу, спагаднаму, у будучым народзіць Чалавека, народзіць тую асобу, якая будзе думаць не толькі пра сябе, а і пра іншых.

Усяму гэтаму выдатна вучыць наш дзіцячы фальклор. Таму і кажу, што лепшыя ўзоры трэба збіраць, друкаваць, каб выхаванне маладога пакалення ішло на высокім педагагічным узроўні, каб яно расло здаровае, вясёлае, радаснае, каб любіла бацькоў сваіх, суседзяў, усіх добрых людзей, каб думала, як не перашкаджаць жыць іншым, як дапамагаць слабейшым, як шкадаваць усё жывое на зямлі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

АСОБА

# «ЯКОГА КОЛЕРУ НЕБА?»

Нас пазнаёміла «Беларуская Энцыклапедыя». Не, разам мы не працавалі. Віталь Уладзіміравіч СКАЛАБАН прыйшоў працаваць у выдавецтва, калі я яшчэ не нарадзілася, і сыйшоў раней, чым я прыйшла ў рэдакцыю літаратуры і мастацтва. Але ж ён часта завітваў, і ягоная знакамітая ўсмешка, і ягоныя «энцыклапедычныя» веды, і ягоная добрая гарэзлівасць, дзякуй Богу, не абмінулі мяне.

Вядомы гісторык і архівіст, які выцягнуў «з таго свету» не адзін дакумент, у душы быў Паэтам. Паэзія нас і аб'яднала. А яшчэ каханне. Віталь Уладзіміравіч палюбіў вершы Валерыя Ліпневіча ў той час, калі сам аўтар быў маім дзіцячым каханнем. Пасля я вырасла, сустрэлася са Скалабанам, і мы любілі гэтыя вершы разам. Можна сказаць, што Віталь Уладзіміравіч агучваў напамяць мае першыя пачуцці.

Аднойчы ўвесну ён прынёс мне адбітыя на друкарцы «Восеньскія песні» і напісаў ад рукі падзагаловак: «Недапісаная паэма». У адным з вершаў былі такія радкі:

*Пазвані мне і спытай,*
*Што-небудзь.*
*Спытай, якога колеру неба,*
*Спытай, ці распусцілася лісце на дрэвах.*

Я патэлефанавала і спытала: «Якога колеру неба?» Цяпер нас лучыла неба. Толькі надалей тэлефанаваў і пытаўся: «Якога колеру неба?» сам Віталь Уладзіміравіч. Наша размова праз тэлефон шмат гадоў пачыналася з гэтага пытання. Асабліва ён любіў яго задаваць, калі быў у дарозе: у Рыгу ці Маскву, з Ляхавіч ці з Пецярбурга.

Яшчэ ў 2005 годзе ён напісаў мне:

* * *
*Прыйшла*
*Радоўка*
*Плакаць*
*Да*
*Мяне*
*У адзіноце без цябе*

Ды радоўка прыйшла да мяне. Тое, што Віталь Скалабан знайшоў, апублікаваў, напісаў, застаецца. Адно ніхто ў мяне ніколі не спытае: «Якога колеру неба?». Але я працягваю адказваць на пытанне з «Недапісанай паэмы».

**Аксана СПРЫНЧАН**



Віталь Скалабан і Аксана Спрынчан

# ВОСЕНЬСКІЯ ПЕСНІ

## (НЕДАПІСАНАЯ ПАЭМА)

**Віталь СКАЛАБАН**

* * *

*Усю восень я ўспамінаю вясну.*
*Сёння раніцою выпаў першы снег.*
*Наступае зіма*.*



* * *

*Ідзеш ты раніцою. Лугам.*
*У салатнай доўгай сукні.*
*На шыі — крыжык залаты.*
*Далей ад ляманту і тлуму*
*Нясеш сваю надзею ў далячынь.*
*Сонейка маё, то пойдзем разам!*
*Адной дарогай*
*Нам будзе весялей ісці.*
*Тваю надзею і маю трывогу*
*За дзень мы перакажам у лісты.*
*Лісты адправім на Зямлю з туманам —*
*Хай людзі пачытаюць іх*
*За кавай, каньяком ці ліманадам*
*І ўспомняць пра твой крыжык залаты.*

* * *

*Раніцою на лузе,*
*З рамонкаў і траў,*
*З расы і туману*
*Выплываеш, як абраз,*
*Ты, мая мілая.*

### Суніцы

*I*
*Лісліўцы, упадзіце ніц,*
*Ляжыце ў здранцвенні!*
*Сваёй каханай я набраў суніц,*
*Лавіце дзіўныя імгненні!*

*II*
*Цябе не было цэлае лета,*
*І як я цяпер ні сілюся,*
*Акрамя будзённага летняга тлуму —*
*Нічога не магу ўспомніць.*

*Вясною мы разам куплялі білет,*
*А потым нешта адбылося, што —*
*не ведаю,*
*І ты не дазволіла праводзіць цябе ў дарогу,*
*Сказала, што на ўсё мінулае*
*Нам абодвум трэба забыцца.*

*Мы помнім усё, да драбніцы,*
*Я лета не помню.*
*Не, успомніў!*
*Ехаў у аўтобусе*
*І мне здалося, што ты са мною.*
*Аўтобус спыніўся ў лесе,*
*Я назбіраў суніц*
*І доўга не мог зразумець, дзе ты*
*падзелася.*

*III*
*Людзі сходзяцца і разыходзяцца.*
*Мы з табою, апантаныя, адзін да аднаго*
*кінуліся,*
*А як разлучыцца — не ведаем.*
*Надумаўся збегчы ад цябе самалётам,*
*Зашпіліў прывязныя рамяні і, суцішаны,*
*заснуў.*
*Пачало сніцца, што ўмольваю лётчыка*
*над тым лесам*
*Праляцець нізка-нізка,*
*Каб льга было разглядзець суніцы.*

* * *

*Пазвані мне і спытай,*
*Што-небудзь.*
*Спытай, якога колеру неба,*
*Спытай, ці распусцілася лісце на дрэвах.*
*Пазвані мне і спытай,*
*Што-небудзь.*
*Пазвані мне і папрасі,*
*Што-небудзь.*
*Папрасі напісаць табе песню,*
*Папрасі...*
*Пазвані мне і папрасі,*
*Што-небудзь.*
*Ты пазваніла.*
*Нічога не спытала.*
*Папрасіла.*
*Папрасіла купіць табе білеты.*
*У кіно.*
*Два.*

* * *

*Як я шкадую,*
*Што каля твайго дома*
*Няма маленькай, на тры столікі, кавярні.*
*Я прыходзіў бы туды кожны вечар,*
*Быццам бы да цябе ў госці.*
*Піў каву, курыў і пісаў бы вершы.*

### Чацвер

*Мо чулі? Знік чацвер.*
*Цяпер за серадою мкнецца пятніца.*
*А людзі кажуць мне — не вер.*
*Крычаць: «Такое не здараецца!»*

*Наіўныя, хвалююцца яны,*
*Архіўнымі паперкамі размахваюць,*
*Калейкаю нясуць календары*
*І мне глядзець у іх загадваюць.*

*Адкуль ім ведаць, што ў чацвер,*
*Цябе паслухаўшы, я ўздумаў*
*Пахаваць каханне.*
*Магілу вырыў, дамавіну недзе спёр,*
*Намер свой жудасны адклаў я*
*да змяркання.*
*Як раптам чую, мой чацвер,*
*Мой друг гаротны*
*Крычыць: «Спыніся! Хавай мяне.*
*Яно — жывое. А я — мёртвы».*

*Мо чулі? Знік чацвер.*
*Цяпер за серадою мкнецца пятніца.*
*А людзі кажуць мне — не вер.*
*Крычаць: «Такое не здараецца!»*

* * *

*Кожны вечар кажу табе «Дабранач»*
*І, у чаканні твайго з'яўлення, засынаю.*
*Раніцою кажу табе «Добрай раніцы»,*
*А потым увесь дзень чакаю незвычайнага*
*вечара,*
*Каб сказаць табе «Дабранач».*

* * *

*Іду каля «Лакомкі»*
*І думаю, што трэба купіць цукерак.*
*...Прынясу цукеркі, якія табе вельмі*
*падабаюцца.*
*Ты ўсміхнешся, скажаш дзякуй і зноў*
*замаркоцішся.*
*Я пастаю, пагляджу на цябе і пайду.*
*Пачую нечыя крокі і заспяваю песню.*

* * *

*Калі мне надакучыла жыць у мінулым,*
*Гаварыць з табою і нічога не чуць у адказ,*
*Калі не змог уявіць словы твае,*
*Такія знаёмыя і такія чаканыя,*
*Але заўсёды розныя,*
*Я пазваніў табе.*
*Мусіць, ты падумала, што я ўжо*
*зусім звар'яцеў,*
*Бо папрасіў заспяваць нашу песню*
*пра туманы.*

* ***Калядная тэлеграма:***

*У старым і новым годзе, ўначы і ўдзень,*
*узімку і ўлетку, заўжды і паўсюль —*
*на паўночным узбярэжжы Чорнага мора*
*і на паўднёвым узбярэжжы Белага мора,*
*у Маскве і Ленінградзе, Шуміліна і Берасці*
*я стаю на каленях і цалую*
*твае пяшчотныя рукі.*

ВЕРШЫ

# ЖЫЦЦЁ Ў РАКАЎСКІМ ПРАДМЕСЦІ

Аксана ДАНІЛЬЧЫК


Фота Актавіяна ЛЕЎ

* * *

Подых вясны над шашой, над абуджаным
лесам,
Таюць снягі, безупынна ад ранку імжыць,
Неверагодны Шцірліц кіруе сваім
«Мэрсэдэсам»
І дасягае нарэшце сапраўднай
швейцарскай мяжы.

Ісцы арыец, ён знешне зусім не хвалюецца,
Хоць небарака прафесар, стары ідыёт,
Зноў не заўважыў трыклятых вазонаў на
Кветкавай вуліцы,
Зноў не заўважыў — і вось ён, апошні палёт.

Здзекліва птушкі спяваюць у краі багатым,
Тут без вайны ідылічна швейцарцы жывуць.
Ён засынае і сніць беларускія хаты,
Родныя нівы, залітую сонцам траву.

Потым купляе ў дарогу швейцарскіх
дэлікатэсаў,
І — на галодны Берлін, сцяўшы волю ў
магутны кулак.
Неверагодны Шцірліц кіруе сваім
«Мэрсэдэсам»,
Толькі імгненні, як кулі, ляцяць у шырокі
прасцяг.

* * *

лабавое шкло зацярушана першым снегам
спрабую адхукаць пальцы і гляджу
як холад паступова авалодвае горадам
у якім пахавана шчасце
рассыпанае рысавымі зярняткамі па яго
лесвіцах
знітаванае з водарам кавы і пахам бензіну
разасланае па закінутых будынках
без права перапіскі
горадам у якім пахавана гісторыя
у яго вокнах я бачу адбіткі знаёмых
твараў

## гендэрна-ўхілены верш

**Тым, у каго ўсё наперадзе**

Я скажу вам, дзяўчаты, што ў нашых
умовах
Нарадзіць прэзідэнта, відавочна, будзе
недастаткова.
Бо цяпер і ўдзень, і ўначы
Трэба будзе яго берагчы.
Тут выходзяць на працу штодзённа
Ірадавы легіёны
І адвозяць маленькіх дзетак
У калоніі для малалетак.

Трэба будзе вучыць адмыслова
Шанаваць беларускае слова.
І насуперак розным сумненням,
Назапасіўшы процьму цярпення,
Давядзецца яму тлумачыць,
Што ёсць праўда і кім ёсць маці,
І чаму ў нашай роднай краіне
Не заўсёды ёсць месца жанчыне.

Беражыце яго, беражыце,
І вучыце, вучыце, вучыце
Справядлівасці, годнасці, сіле
І размаху магутнаму крылля,
Далікатным учынкам і крокам,
Разважанням заўсёды глыбокім,
І яшчэ хай запомніць, дарэчы,
Мець і быць — гэта розныя рэчы.

**P.S.** Толькі я маю думку такую:
А давайце дзяўчынку ўзгадуем!

## зона маўчання

як заціхае перад бурай свет навакольны,
а пасля
раптоўна адчуваюць людзі зямлі напру-
жанай дыханне
калі спыняюцца ўсе рэчкі
а рыбы дасягаюць дна
і птушкі стрымліваюць голас
каб гэтай цішы не параніць

па ўсіх вятрах і кантынентах па ўсёй
бязмежнасці зямной
вібруе чуйнае паветра блакітнай хваляю
трывогі
і нашых душаў абалонкі
танчэюць пад яго рукой
і высыпаюцца пачуцці
на непраходную дарогу

на вежах круцяцца радары і пачынаецца
адлік
зваротны да крытычнай кропкі
дзе ў перспектыве толькі мінус
а шыхт напружаных вайскоўцаў
ад нечаканасці прыціх
і нахіляючы галовы
калашнікавых прэч адкінуў

* * *

хачу забыцца што ёсць страх хачу забыцца
што нам даводзіцца за ворагаў маліцца што
вераб'і хаваюцца пад дах зласлівы лёд навіс
на абразах што нейкі ціхі голас шэпча
за ворагаў трэба не проста маліцца у
ворагаў трэба вучыцца забыцца пустыя
размовы вучыцца перамагаць паступова
вучыцца перамагаць раптоўна са старан-
нем падвоеным
і сіні снег цячэ прадоннем рэк і адгукаецца
далёкі смех
я стаўлю свечку і — наперад
step by step

## услаўленне мужчынаў

бываюць дні
калі ніякая сцервалогія
не дапамагае раставіць кропкі над
пакласці з
паслаць у
такія дні як выдраныя старонкі
з жыцця жанчыны любога веку
але дапамога прыходзіць
з нечаканага боку
бо на свеце ёсць
такія стварэнні як мужчыны
у цэлым даволі нязручныя
але іншым разам
— іншым разам! —
даволі-такі карысныя
бо нават калі ты ў поўным неадэкваце
і незаўважна футболіш усё
што трапляе пад правую
а часам і пад левую нагу
яны раптам уздымаюць вочы і гавораць
а вы ўсё такая ж прыгожая

і свет робіцца такім пяшчотным
і неадэкват робіцца менш
неадэкватным

я падскокваю па лесвіцы
і паўтараю сабе
я прыгожая я прыгожая
я прыгожаяяяяяяяяяяя

а рэха радасна
падхоплівае мае крокі

## глядзі на дарогу

ты не бачыш нічога ні лісця ні дрэваў
толькі напрамак руху здаецца што дарога
сама цябе нясе і гэтае вільготнае бетоннае
пакрыццё свабоднае ад перашкодаў робіцца
найлепшым краявідам а здаровае вурка-
танне матора найлепшай музыкай
раней цябе вучылі глядзі пад ногі а цяпер
ты спыняеш усе непатрэбныя думкі і
загадваеш
глядзі на дарогу
а ў люстэрка задняга віду пазірае восень і
туманная раніца прасякнутая сонечным
бляскам што ўздымаецца з зямлі якую
хочацца запомніць занатаваць але не не
азірайся Эўрыдыка
глядзі на дарогу

## blow-up

ёсць коміны падобныя да вежаў
яны глядзяць у ростані бязмежжа
другія сны з іх вышыні відаць
якія паглынулі назаўсёды
гісторыю краіны і народа
яны затоена і стрымана маўчаць
там круціць флюгер лічбу пакрыёма
год перад-рэпрэсійны дваццаць сёмы
зусім нябачны ў тлуме гарадскім
і толькі сілаю павелічэння
вяртаюцца далёкія імгненні
як лёгкі пах як воблака як дым

і можна бачыць зноў на вулках гэтых
драўляны Менск і маладых паэтаў
ні высылак ні страчаных гадоў
на некранутых дворыках Нямігі
ляжаць іх недапісаныя кнігі
да лепшых дзён да самых лепшых сноў

* * *

калі Вы стаіце насупраць мяне такі рэаль-
ны такі сапраўдны і даверліва гаворыце
пра наступныя цяжкія але ўдарныя пяць
гадоў хіба я магу Вас пакрыўдзіць
хіба я магу сказаць што я не старшыня
ніякай камісіі і нават ніколі не кідала за
Вас белы шар
але маё маленькае змаганне за родныя лі-
тары мае куды больш сэнс чым усё Вашае
змаганне за ўладу
бо ў гісторыі якая не мае ўмоўнага ладу
але якую імкнуцца перапісаць зноў і зноў
нішто не апраўдвае разбітых галоў
а высакароднасць пакуль яшчэ ніхто не
адмяняў

* * *

трава астывае ад першай спёкі
лёгкі туман падступае пад вокны
чуеш раптоўны рык матацыклаў
сярод вечаровых шпачыных спеваў
і разумееш: яны прыйшлі

прыйшлі каб сцвердзіць сваю прысутнасць
сваё права на хуткасць
і безразважны палёт

а на вуліцы дрэвы як панкі
натапырылі свае іракезы
і гатовыя кінуцца ў бойку
з кожным хто іншай веры
для такіх не бывае намераў
яны адразу б'юць без аніякай меры

ці мае ў глабальным кантэксце
ўсё гэта якое-небудзь значэнне
проста святло і такое ўзаемнае
пранікненне
шчасця і болю і галавакружных нябёсаў
калі мае рукі
сплятаюцца з промнямі сонца
на лініях лёсу

## перапынак

на тэрасе з каванымі парэнчамі
на фоне індустрыяльнага краявіду
у межах здранцвелага часу і
ўласнаручна здзейсненых абяцанняў
купаюся ў сонечных промнях разам
з вераб'ямі
падлічваю флюгеры пазначаю ліхтары
перакрэсліваю рэчы што страцілі акту-
альнасць
і не маюць болей ні колеру ні паху ні глыбіні
так падводзяць рахункі робяць разлікі
і спрабуючы вызваліцца
ад неверагоднай стомы
просяць каву за кавай

паветра паступова выцясняецца
водарам свежаспечанага хлеба
які нагадвае пра нешта
можа быць пра адзінае што мае сэнс
і калі апускаюцца рукі
ад марнасці намаганняў
вярнуць гэтай краіне
яе сапраўдныя колеры
ён прымушае глядзець у вочы жыццю
якое гайдаецца на тонкіх ножках па бру-
каванцы
і ўсміхаецца блакітнымі ружамі
«haute couture»

ГЕНДЭР

# МІЦКЕВІЧАЎ СОН, або QUO VADIS?

**Ганна МАТУСЕВІЧ**

*Падаюць сняжынкі —*
*дыяменты-росы,*
*Падаюць, бялюткі,*
*за маім вакном…*
*Расчасалі вішні*
*шоўкавыя косы*
*і ўранілі долу*
*снегавы вянок.*

*** * ***

*А ў душы квяцістасць*
*і такая свежасць,*
*і з вачэй усмешкі*
*сыплюцца на снег.*
*Зноў зіма паслала*
*снежныя кілімы,*
*зажурыла беллю*
*паплавы-лугі…*
*І прыходзіць радасць*
*у красе маўклівай.*
*Адплываюць хвілі*
*смутку і тугі...*

Устала, як заўжды, на досвітку, а ў душы гучыць Паўлюкоў спеў. Але замест ягонай радасці ды ўрачыстасці маё сэрца працінаюць моцны несупынны боль і трывога… Адкуль яны?.. За вакном, хоць і не падалі сняжынкі, ды ляжаў снег, быў марозік, і ўвесь той дзень стаяла зіма.

Памкнулася прагнаць трывогу і суцішыць боль, але дамаглася адваротнага, бо пачула нават гукі рэквіему. Я ўжо ведала, што гэты боль — не асабістая з'ява, і пры даследаванні ягонай прычыны трэба ўжыць сінтэз, глыбока ўзараўшы векавую, ды амаль што некранутую ніву. А ў тую раніцу я сабралася й рушыла, вось так з болем і трывогай, у далёкую дарогу, ужо ведаючы, якая праца, падобная да немінучай выратавальнай аперацыі, чакае мяне наперадзе.

«Нас, ап'янелых ад любові да вёскі, вылушчвалі па аднаму», — напіша Ларыса Геніюш у сваёй «Споведзі». Паўлюку Трусу, як і Максіму Багдановічу, пашчасціла толькі ў тым, што яны сыйшлі маладымі, так што да іх не дацягнулася хцівая рука бязлітасных інквізітараў XX стагоддзя, і яны пакінулі нам і сваю Радасць, і Урачыстасць. Радасцю і Урачыстасцю мы зможам выпраставаць сабе Шлях і рушыць па ім да Новае Літвы. Толькі трэба сабраць новых, дзіўных, тых, якія разумеюць Радасць і Урачыстасць; сабраць і ўз'яднаць Радасцю і Урачыстасцю.

## АДАМ МІЦКЕВІЧ

**ŚNIŁA SIĘ ZIMA…**

*Śniła się zima, ja biegłem w szeregu,*
*Za procesyją pod niebem, po śniegu.*
*Nie wiem, skąd wiemy, że na brzeg Jordanu*
*Idziem, i w górze odgłos: «Chwała Panu,*
*Pokój trzem królom, ludy! do Jordanu!»…*

**СНІЛАСЯ ЗІМА…**

*Меў сон у Дрэздане 1832, марца 23,*
*каторы цёмны і для мяне незразумелы.*
*Устаўшы, запісаў вершам. Зараз,*
*1840, перапісваю для памяці.*

*Снілася зіма, быццам бег я па снезе,*
*За працэсіяй у доўгім шарэзе.*
*Нібыта ідзем мы на бераг Ярдану,*
*І згары пагалоска: «Хвала Пану!*
*Спакой тром каралям, люд! да Ярдану!»*
*Людзі абок мяне йшлі двума радамі,*
*Старцы, кабеты і дзеці у пары.*
*Тыя, што справа, ішлі ў белых строях;*
*Тыя, што злева — ў жалобных апонах,*
*Са свечкамі йшлі і трымалі іх к долу*
*Полымем.*
*Свечкі гарэлі, як золата стрэлаў.*
*А хто без святла йшлі, што па правіцы,*
*Кожны нёс кветкі ў руцэ замест свечаў.*
*Зірнуў я на твары, і шмат мне знаёмых,*
*Злякаўся, бо ўсе, як скала, нерухомы.*
*Потым справа выходзіць асоба адна,*
*Праз заслону свеціцца вочы яе давідна.*
*Стала пры мне. Потым выбег хлапчына*
*І заклінае падаць хоць грашыну*
*Дзеля айца. Даў яму грош, а яна — удвая.*
*Даў яму зноў, яна зноў удвая.*
*Збегліся людзі, мы золата шнарым,*
*Хто з нас дасць болей, дзіўны шукаем.*
*Стыд нам! Ужо далі ўсе, што мелі*
*пакункі.*
*Людзі лаюць хлапца: «Аддай ім,*
*жартунчык!»*
*«Аддам, — кажа хлопец, — ежэлі жалка».*
*Але назад прыняць мы ўжо не хацелі,*
*Постаць жагнала мяне рукой белай.*
*Потым слонца ўзышло, снег не згінуў,*
*Але, як птах белы, скрыдлы развінуў*
*І паляцеў; усё неба адкрылася,*
*А наваколле цёплым блакітам зрабілася.*
*Учуў пах Італіі, руж і язміну,*
*Ружай пахнула гара Палятыну.*
*З'явілася Ева,*
*У белай сукенцы, убраная ў ружы,*
*Як на Альбаньскай гары тая відзежа...*
*Танчаць між ёю адной матылі,*
*Здалося — узносіцца і не кранае зямлі.*
*Пекнасць у твары, як Прамяненне*
*Паньскае,*
*Зрок утапіла ў возера Альбаньскае.*
*Спакойна глядзіць і не рушыць павекаў,*
*Як бы ў тэй глыбі блакітнай, далёкай.*
*Адбітак аблічча свайго назірала,*
*Прад возерам ружы рукой папраўляла,*
*Хацеў прывітаць, але сілы не маю;*
*Памкнуўся я мовіць — не прамаўляю.*
*Але раскоша мая, ах, раскоша сонная!..*
*Хто ж раскажа? — яна мацнейшая*
*ад дзённай,*
*Слязней і мілей, бо ява — жар слонца,*
*А сон — ціхі месяц, лагоднасць.*
*Нарэшце ўзяў за руку яе збоку,*
*Зірнула яна ка мне з сумам у воку,*
*Ціха прамовіў: «Сястра мая,*
*Чуецца шчасце так дзіўна, глыбока*
*Мне ў тваім зроку,*
*Што здаецца мне, ест у касьцеле».*
*Яна мне сказала з усмехам дзіцячым:*
*«Бацькі мае хочуць з іным мяне сватаць,*
*Але я мару ластаўкай лётаць!*
*Маю я скрыдлы, зірні, які птах з мяне!*
*Вось палячу свае пёры паплюхаць у Немне.*
*Аб усіх тваіх прыяцелях ведама мне,*
*іх здарэннях,*
*Усе па касцёлах ляжаць у скляпеннях,*
*Мушу ў лясах і вазёрах блукаці,*
*У дрэў папытаць і на зёлках гадаці.*
*Яны аб табе рэчы дзіўныя ведаюць,*
*Пра ўсё, дзе бываў,*
*што рабіў, апаведуюць».*
*Слухаў, і мне не здавалася цёмнай*
*Мова яе, хоць так дзіўна й таемна.*
*Мне падалося: я сам магу лётаць,*
*І папрасіўся я ўзяць у палёт мяне.*
*Толькі злякаўся, бо хоча на долы ісці,*
*Пра мяне пытаць дрэвы, кусты.*
*І прыпомніў я раптам базэрствы,*
*Хвілі пустоты, запады шаленства.*
*І чулае сэрца на часткі раздзёрта было,*
*Што ані кахання, ні неба не варта яно.*
*Потым убачыў я ластаўку ў лёце,*
*Ляцела за ёй як бы войска чарноты,*
*Сосны і ліпы, чабры і палыны*
*Сведчылі процi мяне мае віны.*
*Прабудзіўся абліччам я к небу,*
*Накрыж рукамі, як бы да пагрэбу.*
*Сон мой быў ціхі. Цяклі яшчэ слёзы*
*Часта па твары, пахнулі свежым*
*Пахам Італіі, пахам язміну*
*І гор Альбанькіх, і руж Палятыну.*

Вершы гэтыя былі пісаны як прыходзілі, без намыслу і паправак.
(Заўвагі Паэты).*

*** Пераклад зроблены Ганнай Матусевіч 13–16.03.00 г. на начных дзяжурствах вартаўніка ў школе №1**

Дык вось адкуль ідуць мой боль і мая трывога! У Міцкевічавым Сне таксама пададзены малюнак зімы, але зусім іншы. Ідзе працэсія па снезе да Ярдану. Працэсія падзелена на правых, Ясных, бо яны йшлі ў белых строях, і левых, Цёмных, бо гэтыя йшлі ў жалобных апонах. І Ясныя, і Цёмныя, пэўна, усе яны шукаюць адказу на пастаўленае спрадвеку перад кожным пытаньне: QUO VADIS? І гэтае шуканне падобнае да засяроджанай працы, але хутчэй да працяглай, зацятай бітвы, дзе адзін бок упарта не прызнае другога, бо твары як скала нерухомы. Нібыта яны не могуць раскідвацца на дробязі, калі прад імі стаіць такое велічнае пытанне! Калі гэта — урачыстасць, дык яна надуманая, вонкавая, чыста фармальная: проста йдзе працэсія з кветкамі ды свечкамі.

Тут ані німа Жывой Урачыстасці Душы, якая проста шугае з Паўлюковага вершу, так што здаецца адна яна й жыве ў ім, з'яўляецца галоўнаю гераінаю гэтага твору. Абодва вершы толькі на пачатку перагукваюцца словамі аб зіме, на гэтым іх фармальнае падабенства і сканчаецца. Пачаўся Урачыстасцю, ёю ж і заканчваецца Паўлюкоў верш, як жыццё ў Максіма: У краіне светлай, дзе я ўміраю… Узор, эталон, да якога нам усім трэба імкнуцца: адыходзячы, знайсці ў сабе сілы выправіць прывітанне тым, хто застаецца. Цераз Міцкевічаў Сон дадзена прароцтва для нашага люду. Паэт нёс на сабе цяжар адказнасці за Літву, паэзія гэтага хрысціянскага містыка фармавала сведамасць Літвінаў, таму Бог яго й выбраў у Носьбіты Духу Нашае Зямлі...

Нарэшце з правага боку выходзіць Жанчына, становіцца ля Паэта, за ёй выбягае хлопчык, які жабруе грошы. І тут ужо знікаюць мёртвыя маскі нерухомасці на тварах, знікае штучная форма працэсіі, пачынаюцца жывыя дзеі жыцця. Так у Міцкевічавым Сне ўсё адбываецца як у жыцці. Уяўленне ёсць наступствыназапашвання досведу з мінулых жыццяў. Але можа быць велічэзнае назапашванне, і ўсё-такі замест уяўлення праявіцца толькі юрлівасць ды раздражнёнасць. І тут трэба сцвердзіць, што не можа ўтварыцца ўяўленне без сэрца. Таму будуць творцамі тыя, хто мудра спалучаюць назапашанні са з'явай агнёў сэрца. І гэтае мудрае спалучэнне прысутнічае ў Нашага Паэта. У знешне грубай форме цёмнага і незразумелага сну Ён здолеў захаваць для нас сакральнасць, святасць, тое, на чым мы цяпер можам паўстаць як нацыя.

Дык вось ад чаго мой боль! Балела сэрца за тых наіўных дзяцей, якія са сваімі прыгожымі, урачыстымі вершамі рынуліся ў вялікі і гэткі драпежны свет, дзе палююць на чысціню і святасць, метадычна, з разлікам і вялікім спрытам адстрэльваюць Красу і Урачыстасць. У вершы супрацьпастаўляюцца мужчынскі і жаночы пачаткі, і жанчына па сваёй ахвярнасці, творчым патэнцыяле выпярэджвае мужчыну. Хлопчык-жабрак правакуе даць яму грошай, і тут пачынаецца нібыта спаборніцтва між Паэтам і Жанчынай за тое, хто болей падасць даёмы.

…Перакладала, расшыфроўвала Міцкевічаў Сон у 2000-м годзе, запершыся ў школе на начных дзяжурствах вартаўніка. Цяпер вось, у 2012-м, папраўляю памылкі, сінтэзую даўнейшыя запісы… Можа стануцца яны літаратураю-думкаю вольнага чалавека… Я спатыкалася аб словы «міласціна», «падачка», «падача», «дачка». Нешта чужароднае, грубае, зняважлівае, двухсэнсоўнае прысутнічае ў іх. А тут жа Сам Адам Міцкевіч, як Сама Духовасць! Вось сам Ён і падказаў мне гэты наватвор. Даёма — гэта дар, ахвяраванне, тое, што чалавек сведама дае меншаму за сябе, і таму ад гэтага духовага дару прыгажэе свет. Але гэтае слова можна зразумець і шырэй: невычэрпны чысты выток, крыніца. Я ўжыла ўласны наватвор, калі тлумачыла Кліч: податель живой воды — даёма жывой вады (верш 327). Але папраўдзе Жанчына не спаборнічае з Паэтам. Проста ёй болей дадзена, таму яна больш аддае жабраку. На развітанне постаць жагнала мяне рукой белай — на далёкую дарогу, на Дабро Агульнае, на Дабро ўсяго нашага народу.

Далей, як наступствы гэтай духовай аддачы-даёмы, паўстаюць змены ў прыродзе:

*Потым слонца ўзышло, снег не згінуў,*
*Але, як птах белы, скрыдлы развінуў*
*І паляцеў; усё неба адкрылася,*
*А наваколле цёплым блакітам зрабілася.*
*Учуў пах Італіі, руж і язміну,*
*Ружай пахнула гара Палятыну.*
*З'явілася Ева…*

Сказана: чалавеку патрэбныя знаёмыя вобразы, тым больш яны патрэбныя Паэту.

Тады, у 2000-м, перакладаючы Верш, я не ведала, што за Імем Евы стаіць канкрэтны вобраз знаёмай Паэта — Гэнрыеты Евы Анквічоўны, ягонай праведніцы па Рыме. Але зноў жа сказана: чым шырэй зразумеем, тым лепш. Жахліва, калі мы, наблізіўшыся да велічэзнай духовай з'явы, даследуем яе не духовым зрокам, не сэрцам, а ўжываем мерку аптэкарскіх вагаў ды бязлітасны скальпель цэнзара, дазваляючы яму адцяць вольную думку, скалечыць ды прыгнобіць яе да ўзроўню натоўпу. Я перакладала Міцкевічаў Сон найперш для сябе і сведамасцяў мне блізкіх. Вобраз Евы, блізкі Адаму Міцкевічу, уяўляўся мне набліжаным да той першабытнай Евы, калі, дзякуючы жаночай інтуіцыі, чалавек прыйшоў да пераадолення стыхійных сілаў прыроды. Чалавек без прадузятасцяў, той, які жыве ў прадчуванні будучыні, папраўдзе ўжо стварае будучыню і тым самым ладкуе наваколны свет. Менавіта гэткім чалавекам і быў Адам Міцкевіч. Ён змог адчыніць і пашырыць сваю сведамасць, змог адукаваць сябе, каб праводзіць самастойную думку; найгалоўнейшае — Ён быў цалкам адданы ідэі вольнасці для свайго люду, для Літвы, таму Бог і абраў яго ў якасці асяродку, на які льга памкнуць плынь. Паэта ахопліваў вір пачуццяў, якія Ён так высока і прыгожа ўмеў выказаць вершам. У вершы «Снілася зіма…» выразна паказаная выперадждальная роля жанчыны, тое, чаму належыць з'явіцца ў будучыні. І тая зямная жанчына, якая вяла паэта па Рыме,ператвараецца ў духовае жаночае аблічча Той, якая вядзе па жыцці…

*І чулае сэрца на часткі раздзёрта было,*
*Што ані кахання, ні неба не варта яно.*

Тут выказаны пачуцці шкадавання, болю аж да слёз, з якімі Паэта прачынаецца на яве. Можа, тут цераз аднаго мужчыну адбываецца ўсведамленне сваёй віны прад жанчынай за спрадвечную зняваргу ды ўціск. Усведамленне віны за ўвесь мужчынскі род. Светабудова ж трымаецца менавіта на раўнавазе двух пачаткаў — мужчынскага і жаночага. Новая эпоха, якую рыхтаваў Адам Міцкевіч, ужо настала, і яна патрабуе новага духовага ўсведамлення.

Новая эпоха павінна выявіць асаблівую пашану Матцы Сусвету, альбо жаночаму пачатку. І як за суворай зімою прыходзіць пекная вясна, гэтак жа натуральна ў нашым грамадстве мусяць адбыцца духовыя змены. Яшчэ наперадзе будзе ўсяго — і маразы, і завірухі-мяцеліцы. І люты папытае, ці добра набыты, і марац шчэ ўкусіць за палец. Яшчэ доўга будуць барукацца зіма з вясною, і мужчыны не захочуць добраахвотна саступіць жанчыне ейнае законнае мейсца, але перашкоды загартуюць сілы, і жанчына, адстойваючы свае касмічныя правы, набудзе веданне сваёй моцы.

**12–21.01.2012**

ВЕРШЫ

# ВЯРТАННЕ Ў 2003-і

Васіль ЗУЁНАК

***На дзесяць год старонку адгарнуць —***
***Як спраўдзіць лад у песеннай арцелі:***
***Якія словы тут яшчэ жывуць,***
***Якія ў вырай ціха адляцелі?..***



## Світальнай музе

***(чытаючы Мандэльштама)***

*Між днём і ноччу, як на грані брытвы,*
*Цыркачкай лёгкай балансуе вечнасць.*
*Давай памолімся, хоць вершы не малітвы,*
*А Мандэльштам не поп з трыкір'ем*
*свечным.*

*І ці ўратуе мудрасць іудзея,*
*На кніжным тле замешаная хітра? —*
*Памолімся аднак, бо ўжо надзелі*
*І мы світальна-сонечную мітру…*

***

*У самым зеніце лета,*
*А мне ўжо крылом*
*Махае вырай — сусвету*
*Майго крыгалом.*

*Цвітуць успамінаў кветкі*
*На лузе маім.*
*Быў водгалас госцем рэдкім,*
*Ды знік назусім, —*

*Як вырак: «Былых не збярэш ты*
*Дарог і слядоў…».*
*Зязюля адлічвае рэшту*
*З пражытых гадоў…*

## Недзе ў цэнтры Еўропы…

*Недзе ў цэнтры Еўропы,*
*Ля балотаў маіх асушаных,*
*Чорны смерч эфіопам*
*Выпівае апошнюю лужыну.*

*Сіпне глоткай сасмяглай —*
*Што яму тая кропелька!..*
*Над канавамі-лагамі —*
*Вясёлкі сухімі кроквамі…*

*Гэткі зруб збудавалі*
*На балоце, каб хатай багатаю*
*Стаўся ён… Ды віхуры на гале*
*Красавання жытоў не сасваталі…*

*Палавеюць на выдмішчах*
*Пяскі афрыканскай Сахарай,*
*І пытае ў мяне: «Ты не сыт яшчэ?..» —*
*Еўропа з абпаленым тварам…*

## Светлай ноччу каляднаю…

*Куст п'янее яленцавы*
*Ў завірушнай гульбе, —*
*Даў Хрыстос індульгенцыю*
*За мяне і цябе.*

*Што грашылі і што яшчэ*
*Награшым на зямлі, —*
*Перад Богам, не тоячы,*
*Мы Хрысту аддалі.*

*Хай прагнозы не радуюць,*
*Стылы свет знелюбеў —*
*Сонца сны вінаградныя*
*Грэх бяруць на сябе.*

*Так Хрыстос запавет даваў*
*Райскай гроне святой:*
*Хто спакусы не ведае,*
*Не пакаецца той…*

*Спакушаемся зорнаю*
*Чысцінёю нябёс,*
*А што ноч нагаворвае —*
*Хай даруе Хрыстос…*

*Хай абноваю светлаю*
*Сёння снежыцца дол.*
*Свет на радасць сусветную*
*Запрашаем за стол!*

*Пэўна ж, тым не абкрадваем*
*Сёння святасць душы:*
*Светлай ноччу каляднаю —*
*Саграшым? Саграшым!..*

***

*Іду ў зямлю і зліваюся з сонцам,*
*Раблюся часцінкаю Бога.*
*Пачынаецца шлях — бясконцасць:*
*Усё — і нічога…*

***

*Ноч высвятляе высокія зоркі,*
*Ахінае нізінныя паплавы.*
*Потым крадзецца да цёплых узгоркаў —*
*Ёсць і на іх у яе правы…*

*Ноч вызваляе з дзённых аковаў.*
*Засынаю… А сэрца, як светлафор,*
*Кіруе рухам аднабаковым —*
*Па кальцавой, —*
*адпачні, шафёр…*

## Да пытання аб народных

*От прыдумалі званне:*
*Хто з народам, хто без?..*
*Зразумець я не ў стане —*
*Як у нетры залез:*

*Ёсць народныя годныя,*
*Ёсць народныя ўгодныя,*
*Ёсць народныя родныя,*
*Ёсць народныя шкодныя,*
*Ёсць народныя*
*Ўзнагародныя,*
*Ёсць народныя*
*Самародныя…*

*От і круці і разгадвай:*
*Дзе народ, а дзе ўлада…*
*Ці, каб свет не цвяліць,*
*Лепш «народным» не быць?..*

## Манета

*Змацавалі каноны*
*Радаслоўную гэту:*
*Гера стала Юнонай,*
*А Юнона — Манетай.*

*Шмат гісторыя знае*
*Цудаў перастварэння, —*
*Гэта наша, зямная,*
*Спроба ўнікнуць старэння.*

*Покуль з Грэцыі Гера*
*Ў Рым дайшла блаславёны,*
*З той жа святасцю й верай*
*Стала зваць Юнонай.*

*Ды не знала багіня,*
*Валадарка сусвету,*
*Што яна не загіне*
*Праз мянушку Манета.*

*Што да нас яна дойдзе*
*З гэтым рымскім найменнем, —*
*Будзе сеяць стагоддзям*
*Залатое праменне.*

*Дзе жрацы штукавалі*
*Грошы ў храме — на ўдзяку —*
*Двор манетным назвалі*
*І манетамі — знакі.*

*Не абрынуўся ў Лету,*
*Забыццю не паддаўся*
*Храм Юноны-Манеты —*
*Культ багіні застаўся.*

*Свет і дзённа і ночна*
*Ёй маліцца гатовы*
*Ў сейфах хітразамочных —*
*Алтарах адмысловых.*

*Ейнай ласкай сагрэты*
*Жрэц шалёных мільёнаў —*
*Той, што лічыць манету —*
*І не чуў пра Юнону…*

## Самому сабе: адказ пытаннем на пытанне

*Дзе вясна наша з маем? — наіўнае ў небе*
*пытанне,*
*Нібы клін жураўліны,*
*смуткуе паглядам тваім.*
*Што табе адказаць на дарозе расстайнай,*
*Мой хаўруснік адзіны,*
*З кім сіротамі мы*
*ў гэтым свеце самотна стаім?..*

*Асыпаецца лісце, агалена сад сірацее —*
*Нібы вырак сутонны,*
*што ўсё адшумела і ўсё адцвіло.*
*І няўжо — аж не верыш —*
*як сад, наша вечнасць пусцее,*
*І няўжо наша ўчора не сёння,*
*а ўчора было?!.*



## Сінец

*Кошка мужу выбадзяла:*
*Ані рыбы, ані сала,*
*Ні смятаны не хачу, —*
*Птушкі скачуць уваччу!..*
*Не сарокі, не вароны*
*І не верабей будзённы, —*
*Мне б на полудзень мясца*
*З маладзенькага сінца…*

*З той злашчаснае пары*
*Кот пяклуецца ў двары,*
*Выцікоўвае і лічыць*
*Душы ў чарадзе сінічай.*

*Толькі мае кот загадку:*
*Трэба выведаць спярша —*
*Дзе жаночая ў тым статку,*
*Дзе мужчынская душа?..*

*Мітусяцца птушкі дробныя —*
*І такія ўсе падобныя!*
*Не змігнуць — такія спрытныя!..*
*І такія апетытныя…*

*Ах ты, доля, доля злая:*
*Кошка ў хату не пускае,*
*Нават выгнала з сянец.*
*На марозе кот гадае:*
*Дзе сініца, дзе сінец?..*
*Замярзае, замярзае…*

*Тут і песеньцы канец…*

## Замочка

*Гаспадар прадаў авёс:*
*Конь упіўся —*
*Заблудзіўся*
*І дадому не давёз…*

## Купля

*Куплялі хакеістаў,*
*Купляюць праграмістаў,*
*А трохі збавяць скупасць,*
*То й душы нашы скупяць…*

## Кармушка

***Апошняя вестка: з 2012-га:***
***«2011 год вызначыўся анамальнымі***
***лютаўскімі (амаль напрадвесні!)***
***маразамі:***
***мінус 35 градусаў па Цэльсію,***
***што наблізілася***
***да «беларускага рэкорда» — мінус 40***
***у 1940-м»***

*Патэльня зімы — і марозны сквар.*
*Жыццё сінічкі — націнкай.*
*Семкі нясу — сланечніка дар, —*
*І ўдзячна голас праціңкаў!..*

*Склікаю ўсіх на крылаты базар, —*
*А можа, парламент? — бо птушкі —*
*Тры партыі — як па чыноўны «навар» —*
*Расселіся ля кармушкі…*

*Партыя сініх — сінічкі:*
*Спрэс*
*Мандаты з нябеснаю сінькай;*
*Ім зелянушкі наперарэз —*
*Мандаты, нібы лісцінкі:*
*Зялёных партыя —*
*На дэ-лі-ка-тэс, —*
*Шугаюць гуртам, не ўроссып;*
*А трэцюю партыю выбраў лес:*
*Тры сацыял-дубаносы…*

*О шарагоўцы птушыных мас,*
*Выбачайце, не я прыдумаў, а час*
*Гэты жарт — «дэпутацкую ношу».*
*Мог бы і я «абмандаціць» вас,*
*Але ж… я зусім не Ярмошын…*

*Я ўсіх вас вітаю, бо ведаю ў твар —*
*Зялёных, з блакітнай пярынкай:*
*Ніхто з нас не госць тут і не гаспадар,*
*Не раб прыроды і не валадар, —*
*Мы проста яе часцінка!..*

АПАВЯДАННЕ

# БЛЯШАНКА «БАЛТЫКІ №3»

Ігар СІДАРУК



Грысь Абібок стаяў ля крамы, дыбаўся туд-сюд з нагі на нагу ды зноў і зноў пералічваў свае апошнія грошы. На гарэлку, халера яе, не хапала. Бракавала і на чарнілка, бо ж, каб вы ў дупу сабе ўчавіліся, з нядаўняе пары танней за сем тысячаў, ну хіба за шэсць шэсцьсот, было не знайсці. Можна было ўрэзаць хоць па піўку, але бутэлечнага, трупацець вам варонаю, у той дзень не было ці яго ўжо высмакталі такія ж аматары лёгка-пеннага хмелю, як Грысь. Праўда, было бляшаначнае, і, пасля чарговых напружаных падлікаў, Абібок шчасліва ўсміхнуўся: ягоных капіталаў у памеры шэсць тысяч пяцьсот дваццаць рублёў хапала роўна на цалюткую бляшанку блакітна-белай «Балтыкі №3».

— Во, Кацька, давай на ўсе! — нядбайна кінуў ён жменю перашкамутаных паперак на прылавак маладой прадавачцы, нібы кідаў цэлы мільён на сукно афігенна-фэшэнебельнага казіно. — «Балтыкі» мне! Трэйцяй!..

Кацька неяк спачувальна-пасмешліва зірканула на Грысіка з-пад ілба, згрэбла грошы, не раўнуючы бы той жа казіновы круп'е фішкі, у касавую скрыню ды паставіла перад ім халаднаватую бляшанку. Грысь выкінуў наперад нягнуткую руку, натапырыў усе пяць пальцаў, на момант замёр, нібы хвацка цэлячыся, і нарэшце ўладна хапянуў шырачэзнай сваёй пяцярнёй балтыйскае ўратаванне. А потым, неяк бычачыся, нібы пакрыўджаны капітанам боцман на самым важнецкім стратэгічным авіяносцы, паволі падаўся з крамы.

На вуліцы Грысь Абібок зрабіў тое, што зрабіў бы любы паважаючы сябе апошні п'янтусідла і зубалдыршчык. Ледзь дакандзёхаўшы на нетрывалых нагах да бліжэйшага кустаўя ды рэзка апусціўшыся худым азадкам у чэзлую траву, ён тузануў за бляшаную клёпачку, прадчуваючы не толькі ротам, але і ўсім ходырным сэрцам хуткую гаркавата-мілотную, ратавальную смакату…

Аднак, калі клёпачка адляцела, калі над ротам перакінулася бляшанка пазначанай трэцім нумарам «Балтыкі», адтуль у прагна разяўлены рот Грыся не пацэдзілася не тое што струменьчыку асаладнага піва, але нават не капнула, не сцякло, не вычавілася ні кроплі. Абібок, спачатку, відаць, не зусім разумеючы, што з ім адбываецца такі подлы абарот, здзіўлена адстараніў бляшанку, няўцямна яе патрос, потым зноў нахіліў нагбом. Ага! фігацень адтуль капала, а не піва.

— Ёпты конь тваю ўсрэнь! — нарэшце здолеў ацаніць такую жорсткую рэчаіснасць Грысь. — Дзе піва?! От, сукі! Ну сволачы! І тут падманулі! От ты!.. Ну, ту… туманскія дрындосы ў мурлотныя вашы дымаходныя праходы!.. — Магчыма, і сам не разумеючы сэнс сваёй трызноты, злосна лаяўся Абібок. — Ці… цік… цікава!.. Хто піва маё высмактаў? Нашы браткі ці бравыя маскельскія рабяты?! Ах жа вы, мармулюкі!..

Грысь, чыё нутро, відаць, проста адмаўлялася верыць, што піва ў бляшацы няма і блізка, усё ляпаў і ляпаў падраным ды збітым кулаком па донцы «Балтыкі №3». Усё ляпаў і ляпаў…, ляпаў і ляпаў…, пакуль раптам з вузкай шчыліны бляшанкі не выпала на траву нешта дробненькае, коўзкае і слізкае, нібы сапля, якая вылятае вонкі, калі нехта спрабуе высмаркацца без насоўкі. Грысь нечакана ўтаропіўся ў гэткае дзела…

А між тым сапля, відаць, была ўсё-такі не сапля. Паколькі, спачатку нерухомая, раптам пачала ціха шавяліцца ды падаваць такія-сякія пазнакі жыцця.

Яшчэ праз хвілю яна жудла прастагнала і, пагражальна павялічыўшыся ў памерах, раптам павярнулася да Грыся:

— О-о! Чалавек! Ну то дзякуй табе!.. — нібы блазнуючы, пакланіўся яму гэты зялёны жывец. — Ты… Ты! О, ты!..

— Ну, я. А што?.. — бы дурны, разляпіў вусны натапыраны Абібок.

— О, каб не ты, сядзець бы мне тут яшчэ тры тысячы тры і яшчэ тры тысячагоддзі!..

— А… а хто ты? — спалохана, наколькі хапала спалоху ў п'янога тубыльца, запытаў Грысь. Пры гэтым ягоныя мазгі нават здолелі падумаць, што так доўга — аж цэлых тры тысячы тры і яшчэ тры тысячагоддзі — «Балтыка №3» не можа захоўвацца ні ў якім разе, бо яе выхлікаюць нашмат раней.

— Я Джын. Джын Юдын, — адказала сапля, якая на паверку аказалася, як бачым, джынам.

— Юда? Не трэба мне ніякіх юдаў! — ікнуў Абібок. — Піва давай!

—Не Юда, а Юдын! — паправіў джын, пры гэтым сам падазрона рыгнуў. — Няма пакуль піва. Выпіў…

— Хто выпіў? Ты што, выпіў маё піва?!

— А што я табе — здохнуць тут мусіў?! — агрызнуўся джын. — Я ж таксама не з вечнага лайна злеплены. Ну то й таксама… жыць хачу!

І тут джын раптам заплакаў. Бо, як аказалася, ён быў таксама п'яны не меней за Абібока.

— Ладна табе! Юдзік! — як мог ласкава звярнуўся да джына ягоны вызваліцель. — Во, цяпер воля табе. Жыві!

— А я табе аддзячу, — гэтак жа нечакана, як і заплакаў, супакоіўся джын. — Я павінен аддзячыць. Я ж — джын!

Джын Юдын да гэтага часу ўжо займеў такі ж рост, як і Грысь Абібок, і нават больш, і цяпер ягоная хісткая пастава грозна ўзвышалася над хмызамі.

— І што, жаданні выконваеш? — дурнавата рагатнуў Грысь.

— Тры. Роўна тры. Маеш права, — і блізка, аднак, не заўважыў ягонай іранічнай падначкі джын.

— Тры жаданні? І ўсё будзе? — і блізка не верыў яму Абібок.

— Будзе. Толькі папрасі. Скажы мне… Так, зараз, пачакай! Зараз успомню… Скажы мне… — напружваў свае мазгі, якія таксама ўсё яшчэ не ахалолі ад алкаголю, джын. — Ага! Успомніў! Так гавары: «Джын Юдын! Адзіны джын, ты адзін, паўстань як дрын, што хачу — зрабі мне мігам, збарадым, дрыб-дыба-дым!».

— Ото, мля, не ўсрацъ-узляцець! — раптам пасур'ёзнеў, нават пасуравеў Абібок. — У мяне што — язык гакаўка?! А як прасцей? «Джын Юдын — зрабі мне дым!». Так нармальна?..

— Нармальна, — толькі махнуў рукою Юдын. — Зраблю і так.

— Зробіш, кажаш? — ужо значна смялей перад джынам Грыська. — Ну то зрабі… а зрабі ты мне перш-наперш так, каб гэтая, во, бляшаначка была з півам вечна!

Джын зірkануў на яго з-пад ілба, нешта марудзіў.

— Што, не зробіш? — падбароддзе Абібока расчаравана паехала ўніз.

— Ды зраблю. Але што сказаць…

— А ё тваю ў срэнь! — пляванyў у чэзлую траву Грысь. — Ну… Джын Юдын — зрабі мне дым!

Пачуўшы гэта, джын неяк страшна ўсміхнуўся, надзьмуўся і… І нічога болей не адбылося.

— Усё, — толькі ціха прамовіў. — Пі сваё піва.

Абібок недаверліва паднёс бляшанку да рота, спачатку ўцягнуў ноздрамі са шчыліны, а потым ягонае адно брыво імкліва торгнулася, і ён, нібы годна нешта ацаніўшы, нарэшце зрабіў першы глыток.

— А ёпп трупацель! Піва! І праўда! Як ты можаш? Не, ну ты што!.. І праўда ані?.. Не скончыцца, значыць?! — усё не мог даць веры такому немагчымадзіўнаму скруту Грысь, калі, лыкнуўшы, адстараніў бляшанку. — А ё-маё! — гучна рыгнуў ды, асмялеўшы, лацьвей прыпаў да яе і прагна, асалодна, бясконца пачаў цадзіць хмелісты піўчык. — Ну ты й покушнік чушыдлы!.. — адначасова і піў, і нешта ў захапленні гугнявіў у бляшанку Грысь, і гэтае нешта азначала, відаць, толькі адно: «Ну ты й фокуснік сучыдлы!».

Ён зноў шчасліва патрос бляшаначку, зноў перакуліў яе над ротам: — Пейше піва пеўнае, будже можда афуфенная! — і піў, і адначасна прамаўляў Абібок, а піўныя струменьчыкі сцякалі па ягоных вуснах, барадзе, шыі. І зноў, адстараняючы, перадыхаючы: — А, блясь тваю ў нюху! Не заканчваецца ж ані, ты глядзі! Ну джын! Ну ты даў! Зрабіў мне піва, зрабіў мне дым! От жа бывае такі шанчык у жызьне! Так ты, значыць, і праўда фантаст?!.

— Які фантаст? — відаць, не зусім зразумеў джын.

— Ну, казачнік, выдумляльшчык, ізабрытацель! Чараўнік там які ці шаман!..

— Я толькі магу выконваць жаданні, — без асаблівага захаплення адказаў джын. І на ўсялякі выпадак удакладніў: — Роўна тры. Чаго хочаш яшчэ, Абібок?

— Чаго яшчэ? — летуценна выскаляючы зубы, прымружыў вочы на сонца Абібок. Пастаяў так хвілю, відаць, перабіраючы ў галаве розныя, што так нечакана перад ім адкрываліся, варыянты. А потым радасна страпянуўся: — А давай ты мне зробіш... бабу новую!

— Якую бабу?

— Ну, жонку! Маладую! — і для большай пэўнасці Грысь патрос «Балтыкай №3», прыемна прыслухоўваючыся, як у бляшаначцы шалёхае, як і шалёхала і хвілю, і дзве таму, несканчальнае пеннае піва.

— Гавары.

— Што — гавары? — не адразу зразумеў джынава слова Грысь.

— Джын Юдын — зрабі мне дым! Так — гавары! Іначай як я табе бабу тваю новую маладую зраблю?! — не надта каб цярпліва растлумачыў яму джын.

— А ёпп трупацель! Ну ніяк ты без дыму свайго не можаш! Добра! Слухай! — Абібок наколькі мог удыхнуў паветра ў худажэзныя грудзі. — Джын Юдын — зрабі мне дым! — раптам выгукнуў рэзка. А потым неяк апасліва ўтаропіўся ў джына: — Ну?..

— Што ну? — спакойна адрэагаваў той. — Ідзі дахаты. Там цябе чакаюць дзіўныя перамены і маладзіца дзіўнае красы.

— Хо! Ты проста як паэта! «Дзіўнае красы» — як той Багдановіч, мля!

— Не буду ж я тваю маладую жонку цёлкай абзываць, — заўважыў на гэта джын.

— А як добрую цялушачку мне падагнаў — дык можаш і цёлкай, — па-панібрацку падміргнуў яму Абібок. — Ладна! Пайду, пагляджу, што там за новы жаночы пол у хаце завёўся. — Абібок і праўда хацеў ужо пайсьці, але раптам спыніўся. — Ага! А як цябе выклікаць… як што?

— А во як, — джын гучна пстрыкнуў сабе па падбароддзі і рэзка ўдарыў кулаком у лоб. — Я адразу і з'яўлюся.

Абібок паспрабаваў паўтарыць жэст джына, але пакуль толькі махнуў рукою. Самога джына побач з хмызамі ўжо не было і блізка.

— Шаманізм нейкі, — прамовіў Грысь Абібок, арыентуючыся ў напрамку свайго жытла ды моцна заціскаючы блакітна-белую «Балтыку №3» у левай руцэ.

***

Дома Абібока чакалі дзіўныя перамены.

А можа, і не зусім дзіўныя, паколькі ён ужо ведаў: ранейшай ягонай бабы там болей не знойдзецца. І гэта — чыстая праўда, паколькі знайшлася такая, што спачатку Грынёк і пра піва сваё забыў, і пра ежу, і пра тое, што іншым разам варта і на вулку выходзіць. Цяпер з ім жыла такая красотная дзіва, што ён шчасліва спяваў і рагатаў не толькі шалымі да гарачачнага збялення начамі, але і праўдзівым днём, і ў іншыя сутачныя часіны, якія, здавалася б, зусім не падыходзяць да гэтага дзела.

Звалі яе Караліна, і была яна жонкаю — ну проста прыкладвай да сэрца ці, калі такое вам падабаецца, да седавак. Хоць сама не курыла, затое не забараняла чвэндзіць у хаце Грысю, за піва ды іншыя суворыя мужчынскія напоі ані не сварылася, абеды-вячэры гатавала ў час ды смачныя, адзенне мыла праз дзень а то і штодзень, ложак сама расцілала ды засцілала. Нават за вушкам яму часала, калі прасіў. А іншым разам і не прасіў — сама ахвоту паказвала, пры гэтым яшчэ і розную пяшчотную дурнотнасць бабскую муркатала.

Карацей, так пры ёй Абібоку зажылося добра-ўежна ды смачна-соладка, так афігіцельна бесклапотна ды ад балды апупенна, што праз які тыдзень ці два Грысь узвыў, а потым гучна пстрыкнуў сабе па падбароддзі ды ўрэзаў кулаком у лоб. Прычым атрымалася гэта ўсё ў яго амаль так, як належыць.

— Давай, джын, прыбірай гэту бабу! — ледзь не зароў ён на Юдына, калі той вокамігам матэрылізаваўся перад ім.

— А што так? — спакойна спытаў джын.

— А так! — злосна адказаў Грысь. — Надта мне з ёю клопатна. Нуда бярэ!..

— То што, былую вярнуць ці як? — не стаў паглыбляцца ў роспыты

джын, відаць, і без таго разумеючы душэўную развярэджаную філасафічнасць Абібока.

— Не трэба мне і былую, — адрэзаў апошні. — Сам буду. Ну іх!

Юдын моўчкі паскроб патыліцу ды вымавіў:

— Ну давай тады трэцяе сваё жаданне.

— Трэцяе? — узбадзёрыўся Грысь. І, нейкую хвілю перабраўшы свае роздумы, зрок: — А зрабі ты мяне багатым! Такім… ну мільёншчыкам там якім, ці што.

— Добра падумаў? — неяк падазрона паглядзеў на яго Юдын.

— Ну! А што, складана табе ці шкада?.. Не пацягнеш — мільёншчыкам?

— Я дык пацягну. Але ты сам глядзі, каб потым не перадумаў.

— Што тут думаць. Рабі давай! — адмашна разрэзаў паветра Абібок усё той жа леваю рукою, якая па-ранейшаму ўладна трымала «Балтыку №3».

— Ну, глядзі. Я папярэдзіў.

— Давай, давай! Рабі давай!

— Не рабі…

— Што — «не рабі»?

— Сказаць што…

— А ёпп трупацель! Джын Юдын — зрабі мне дым! Давай, напхай мне грошай поўныя кішэні! — і Абібок, па звычцы коратка рагатнуўшы, гэтак жа звычна прыпаў да бляшаначкі, якая цяпер не мела права пусцець аніколі.

Джын усміхнуўся, надзьмуўся, гэтым разам яшчэ з нейкай халеры крутануўся вакол сябе ды рэзка выкінуў сваю пароcлую залатою поўсцю руку да цяперашняга свайго ўладара:

— Гатова, браце!..

Грысь гэтак жа падазрона, як калісьці зазіраў у піўную бляшанку, паляпаў па сваіх раптоўна набрынялых кішэнях. А яшчэ праз міг, калі не толькі паляпаў, а, акуратна паставіўшы бляшаначку ля сваіх ног, упароў туды рукі, ягоная падазронасць раптам змянілася на шырачэзную, што травеньская залева, усмешку.

— Оба-на! Ну ты й джыніндла! Скажы яшчэ, што яны ў мяне ніколі не скончацца!

— Ну так, — уся постаць Юдына выказвала скальную заспакоенасць. — А інакш які сэнс?

— Вой, ты! Вой, морда ж ты вумная!.. Ладна, Юдзік! Як гаворыцца, дзякаваць…

— На здароўе, — невядома, як болей — іранічна ці сур'ёзна — адказаў джын. — Магу быць вольны?

— А што з цябе возьмеш? Тры жаданні ты ўжо выканаў.

— Выканаў. Бывай, Абібок.

— Бывай!..

***

…Толькі дарэмна Грысь Абібок думаў, што з джынам развітаўся назаўсёды. Не прайшло… можа, тыдня, а можа, месяца, як ён зноў схацеў неадкладна пабачыць Юдына перад сабою. Схацеў пасля таго, як раскашаваў і шыкаваў сваімі грашыма дзе толькі мог, траціў іх незлічона, перыў у розныя банкаўскія дэпазіты і акцыі, хату наладаваў усялякаю бытавухаю вышэй сэрвантаў, дый самі старыя тыя сэрванты змяніў на такую люксусова-шыкоўную мэблю, што баяўся нават падаць на яе азадкам, а ўсё болей сціпла масціўся на падлозе. А грошы, як і абяцаў джын, не скончаліся, кішэні адцягвалі буйныя купюры і дробная драбната, і мала што было, чаго б не мог купіць сабе Абібок.




Але неяк вечарам Грыня спынілі ля дома трое самых лепшых знаёмцаў — былых сабутэльнічкаў — ды без дай прычыны ўперылі яму так, што пад канец гэтага жорсткага зуба-костка-раздробнага збіцця Абібок ужо і не мог успомніць, дзе ў яго месціцца галава, а дзе тулава. Таму потым, калі ён, ушчэнт збіты, дацёгся да хаты і яму падчас саматужна-горкага лекавання ўжо проста не лез у горла самы шыкоўны і даражэзны каньяк, які толькі прадаваўся ва ўсёй краіне, ён злосна адсунуў пляшку ды пачаў пстрыкаць і пстрыкаць пальцам па падбароддзі ды біць і біць кулаком у лоб, аж пакуль перад ім такі не з'явіўся джын.

— Што яшчэ, Грысь? — запытаў ён, як толькі матэрыялізаваўся. Пры гэтым рабіў выгляд, што і блізка не заўважае збітую морду выклікальшчыка. — Здаецца, нічога болей табе не вінен.

— Ну так, — крыва вымавіў Абібок, які сядзеў нават і крыху не ап'янелы. — Толькі… давай перагуляем апошняе маё жаданне.

— Як гэта, перагуляем? — нібыта і не зразумеў яго адразу джын.

— Ды так! Як быццам ніякіх грошай я ў цябе не прасіў, а… іншае давай што.

— Ну, не! — нарэшце зразумеў, што да чаго, джын. — Так справы не робяцца! Ты загадаў — я зрабіў. Усё! Тры жаданні — усё па-чэснаму.

— Ай! Не правільнае яно! Пра грошы гэтыя… Я не падумаў. Давай яшчэ раз.

— Як гэта — яшчэ? Дамова ёсць дамова!

— Ну давай нібы не было ў нас такой дамовы. Ну джынчык! Ты ж чараўнік — што табе? Адным болей, адным меней. Ну калі ласка, зрабі мне яшчэ!..

— Не, — па-ранейшаму ўпарта не паддаваўся джын.

— Не «не», а так. Я ўсё роўна не адстану, — нэндзіўся Абібок, паступова такі дастаючы сваёй нудотаю позняга вечаровага госця.

— Так, дамаўляемся: я табе гэта апошняе перараблю — і ўсё. Болей нічога не прасі!

— І не буду! — адразу павесялеў Грысь. — Давай, згода! Піць будзеш?

Джын пахмурна паглядзеў на яго і — нечакана пагадзіўся:

— Буду. Налівай… То што рабіць? — спытаў, калі замахнуў вялізны кілішак даражэзнага каньячыдлы.

— А-а!.. — хуценька падсунуў яму талерачку з закуссю Абібок. — Джын Юдын — зрабі мне дым! Зрабі мне так, каб мяне… сабакі не баяліся!

— Якія яшчэ… сабакі? — вырачыў на яго свае вялізныя вочы джын.

— Звычайныя… бляха, сабакі! Я ж калі на двор выходжу — мяне ўсе сабакі баяцца! Разбягаюцца! А мне — крыўдна! Я што, страшнейшы за тых сабак?! Ці брашу на іх як дурны?!

— Ну на́ табе сабакі, — зноў заглыбіўшыся ў сваю звычную філасафічнасць ды смакотна разжоўваючы храстачку ад чырвонарыбіцы, прамовіў Юдын і плюнуў тры разы ў талерку з нейкім марынаваннем. — Усё, не баяцца.

— Праўда?..

— Праўда. Можаш пайсці, праверыць.

— Ну то і пайду!

Грысь так-сяк падняўся з канапы і, не забыўшы прыхапіць з сабою бляшаначку з заўсёдным півам, пацёгся ў двор. Праз які міг са двара пачуўся сабачы брэх, але не злосны і палахлівы, а мілотны й лагодны — амаль чалавечы.

— А-а, сабачушачкі мае чушачкі! — ужо данёсся праўдзівы чалавечы голас Абібока. — І вы мяне не кусі, і я вас не кусь!

Джын якраз наліваў сам сабе, калі дзверы расчыніліся і ў пакой вярнуўся задаволены Грысь:

— Малойца, джын! Бач, як умееш усё, ёпп трупацель! Толькі… нейкае дурное жаданне ў мяне атрымалася. Каб сабакі не баяліся… — лухцень нейкая!

— Як сказаў — так і зрабіў. Будзь здароў, Абібок! — узняў такі ж паўшчэзны, як і першы, кілішак каньяку Юдын.

— Я дык буду здаровы. Але… давай яшчэ адно, га?..

— Што адно?..

— Ну, жаданне яшчэ адно! Гэта, сабачачае, калі можна, спішам. Гаўно!

— Э, не! — нават забыўшы закусіць, катэгарычна заматляў галавою джын. — Ты сказаў — я зрабіў. Нельга болей! І без таго апошняе перайгралі.

— Ну давай і гэта так. Перайграем, значыць. На сур'ёзнае што…

А то!.. — сабакі!

— Не магу, — зноў наліваў сабе джын.

— А ты, Юдынчык, усё ж змажы! Хто цябе з бляшанкі гэтай на свет выпусціў?

— Ну, ты, — пацвердзіў факт Юдын, куляючы чарговы кілішак.

— А калі я, то ты мне лішнюю ласку і зрабі! Удзячнасць, як гаворыцца, лішняй не бывае.

— Ладна, дзядзьку, будзе табе ўдзячнасць, — джын усё болей касеў і таму, відаць, моцна не спрачаўся. — Давай… Гавары… зраблю табе фокус-покус…

— Які покус?! — відаць, не зусім зразумеў усяго жарту моманту Грысь. — Джын Юдын — зрабі мне дым! Хачу… каб музыкам быць, і на чым толькі можна граць!

Джын спачатку вырачыў вочы на гаспадара, потым, аднак, зноў нагнаў на сябе абыякавасці ды… прыўзняўшыся грузным азадкам над канапаю, гучна і смачна пёрнуў, ажно затрэсліся сцены.

— Усё. Грай давай! — гэтак жа абыякава апусціў азадак на канапу джын. — На чым хочаш…

І наш Абібок — напраўдзе зайграў. Усё, што трапляла ў ягоную руку — а ў той дзень геніяльнымі гральнымі інструмантамі для яго сталі толькі старэнькая разламаная гітара, шкляныя кілішкі, іржавая падкоўка на дзвярах ды водаправодны разводны ключ — а потым ужо імгенна агораў і сімфанічныя скрыпкі, барабаны, кларнеты, трамбоны, арганы — усё гэта спявала, гудзела, чылілікала ды бабубохала не раўнуючы як у віртуозніка-майстра ўсіх перамowжна-сімванічных аркестраў.

А потым… Потым зноў было: чыкі-пстрыкі па падпароддзі, біццё кулаком у лоб, спрэчкі да чорных саплёў з упартым джынам, угаворы, пагрозы, падлік дакладна-праўдзівых жаданняў і тых, якія аніяк ліку падлягаць не маглі. І кіраваў, дзякуючы джынавай сіле, наш Грысь Абібок у міністэрыях, і лётаў да Месяца, і на фермерскім хутары разводзіў стравусаў-альбіносаў. Яшчэ быў вядомым пісьменнікам-дэтэктыўшчыкам, вынаходзіў камбайн для ўборкі будучай самасейнай бавоўны на палетках айчыны, грэў голае пуза сярод гімалаеўскае ясноты, і яшчэ з нечым голым меў рэпутацыю (дый канкрэтызацыю) самага лібідовага мужчынскага адорвы, і злізваў з твару зімою гарачы дождж, увесну — цёплую чакаляду, а летам — крупчасты снег. Плаваў у мёдзе, еў з дыяментавай місы, выпісваў трусы з Мадрыду і кальсоны з Венесуэлы, мачыўся ў залаціста-парцалянавы ўнітаз з дыстанцыйным кіраваннем…

І — усё было абы што, неяк не ў жылу, не тое й занадта рознага!

Урэшце, выцер узмакрэлы да чорнай анучы джын гарачы свой пот, сеў насупраць Грынюгі й далей працаваць на яго адмовіўся. Дакладней, не адмовіўся. А сказаў так:

— Выконваю апошняе тваё жаданне — і ўсё, у сраку мяне пацалуй!

— Дый ідзі ты! — слаба агрызнуўся таксама знясілены Грысь. Хвіліну падумаў. Звёў бровы на пераноссі й раптам махнуў рукою: — І праўда — правальвай! Пакінь толькі «Балтыку» мне, і каб піва ў ёй — не сканчалася…

— Не заканчваецца ж і так, — па ўсім было бачна, азадачыўся джын.

— Вось і няхай не заканчваецца! — злосна ашчэрыўся Абібок. — Надакучыла ўсё! Упацеў я, панімаеш?! З цудоўным іспалненнем жаданняў тваіх… А тут — піва! Якую гарэлку закусваць — яшчэ рота раскрываць… А піва, яго проста — глыг! глыг! глыг! І ўсё!!! Ясна?! Усё, правальвай!

І Грысь, як і на пачатку свайго дзіўнага знаёмства з джынам, зноў надоўга прыпаў да белаблакітнай бляшаначкі «Балтыкі №3», хоць піў гэтым разам ужо не так асалодна і заўзята.

А што джын? Як толькі Юдын пакінуў адзінокае жытло Абібока, на яго раптам наляцелі невядомыя людзі ў масках, якія, аднак, прад'явілі нейкія пасведчанні, а потым пацягнулі яго ў пастарунак. Дзе ўшчэнт адбілі яму пашчанкі. У якіх якраз і была ўся джынава сіла…

З тых часоў у нашай краіне болей не бывае ніякіх цудаў. Затое бляшаначнае піва «Балтыка №3» можна прыдбаць практычна ў кожнае краме.

**Верасень, 2011 г.**
**м. Кобрынь**

▸ ВЕРШЫ

# НА ВЕЖЫ

## ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

**Юрась ПАЦЮПА**

***

*Ты кляштар мой і вежа, і турма —*
*без веку я заточаны ў табе*
*штодня гадаць, у чым мая віна.*
*Мінае дзень. Другі. Гадзіна б'е.*

*Над лямпаю бяссоннаю маёй*
*жывых пялёсткаў сцелецца імжа,*
*сцяжыны ўсе пабраліся травой,*
*замкі ўгрампавала мне іржа.*

*А ты спяшайся краскі ў лузе рваць*
*і свет суkenкай жоўтаю дражніць*
*над прорваю дарожнага ірва,*
*пад прорваю нябёснаю у жы-*

*це. П'ю наша прагорклае віно!*
*За радасць ці за боль? А! Ўсё адно…*

***

*Ты рэчка мая, і таму не спыняйся ніколі,*
*вазьму цябе злёгку ў далоні, нібы ў берагі —*
*мне так даспадобы і ўпартыя словы твае*
*і сваволя,*
*і вецер сукенкі тваёй, што заблытаўся ў*
*хвалях тугіх.*



*Я стаў невідзімкай, глядзі, ўжо мяне*
*ахінае празрыстасць,*
*мне вечна цябе даганяць і не помніць сябе —*
*то белым аленем ляцець, то ваўком*
*босым рыскаць,*
*а мо' залатым акунём у віры твае падаць*
*глыбей і глыбей.*

***

*Ты сон. І дажджы за акном, як мана.*
*Засну, ты мяне прыхінеш непрытомнай*
*рукою.*
*Залева грыміць. А сон я гляджу давідна,*
*дый потым, напэўна, ужо не прачнуся*
*ніколі.*

*Усе закаханасці — крохі малыя з аднога*
*стала,*
*дзе вечнае свята, дзе п'юць за цябе*
*кавалеры,*
*дзе мудрыя словы сцякаюць, як мёд,*
*спакваля,*
*дзе слава твая шуміць праз вякі,*
*як залева.*

*Халодныя словы вяснoвага злога*
*дажджу —*
*яны не пра нас, дый славы тваёй*
*не памножаць…*
*Я проста ў абдымках ад слоты*
*цябе ашчаджу,*
*я вочы заплюшчу, каб верыць, што ты*
*засталася з' імною.*

***

*Я дагэтуль цябе не забыўся,*
*і за год мне не стала лягчэй,*
*бо тваіх завушніц лістападам,*
*бо зялёным, як вецер, паглядам,*
*запаволеным рухам плячэй*
*я дагэтуль усмак не напіўся.*

*Ты ідзі. Я цябе прычакаю.*
*Ці гуляй. Ці ў каханні згарай.*
*Мне не трэба ні ласка, ні літасць —*
*нібы цвік, ты мне ў сэрца забіта.*
*Вось ключы. Яны ў пекла і ў рай.*
*...Твае пальцы ў далоні трымаю.*

***

*Трывожна дыхае акно,*
*матыль спалоханы ўлятае,*
*гарбата стыне, і за мной,*
*як шклянка, ноч стаіць пустая.*

*Ці я прысніў? Ці так было?*
*Скакалі конікі ў далоні,*
*азёраў плавілася шкло,*
*і беглі белых хваляў коні,*

*што нават сёння мне чуваць*
*найменшы шолах гэнай ночы,*
*і з цішыні ў душу глядзяць*
*твае егіпецкія вочы.*

***

*Я лёс чытаў з тваіх таемных рунаў,*
*як быццам бы мелодыю цішы,*
*калі язык кранаў вільготных струнаў,*
*то рэха яе чулася ў душы.*
*Ці нам пятнаццаць? Ці крыху за сорак?*
*Вось целы проста перайшлі на «ты»,*
*і ты нарэшце забываеш сорам,*
*гарачыя вуглі глытаюць рты.*
*Ты быццам п'еш, закідаваеш голаў,*
*маім святлом пранятая наскрозь,*
*як толькі што народжаная, голая,*
*і ўлонне праца́ла зямная вось.*
*І целам зацалованым, як хворая,*
*бярэш да дна, да самых горкіх слёз —*
*нам душы ўсіх жанок спяваюць хорам,*
*і час прапаў, кіруе светам лёс.*

***

*Каханая, як хораша згарэць*
*і ўжо зусім нікому не належаць!*
*Пялёсткамі зямлю ўсцілае смерць*
*і лічыць зоры на высокай вежы.*

# БУЛЬКАЕШ ПРА СВАБОДУ

**Зміцер ВІШНЁЎ**

***

*выкідаю абрыдлую працу*
*знішчаю светлыя пачуцці*
*сёння на цягніку я з'язджаю на край свету!*
*туды дзе плёскаюцца бязлітасныя хвалі*
*мора*
*дзе дамы нагадваюць крыгі лёду*
*там я буду лавіць акулу*
*і буду як морж даваць нырца ў марозную*
*раніцу*
*з галавы — прэч!*
*з сэрца — прэч!*
*выкідаю мабільнік у сметніцу*
*сёння — какаінавы начны цягнік!*
*і мая ўлюбёная песня па рэйках!*

***

*мора нагадвае кісель, які астывае…*
*неба — слаёны пірог…*
*грукат хваляў аб замёрзлы бераг…*
*а паветра — вечаровы актэйль…*
*п'еш яго марудна*
*п'еш сваёй прысутнасцю*
*усмоктваеш яго як нешта далікатнае*
*эксклюзіўнае, далікатэснае*
*смакуеш глыткамі*
*адчуваеш напоўніцу ўвесь гэты цуд*

**Вентспілс, 2012**

***

*разважаеш пра жыццё з набітым ротам*
*перагрызаеш мяса курыцы*
*чытаеш нудную латышскую кнігу*
*нібы ты з мора іншай планеты*
*занесены ветрам*
*цябе тут накшталт калонаў трываюць*
*чатыры сцяны літаратурнага дома*
*але ўжо немагчыма спяваць песні*
*хочацца бляваць смехам*
*але ён перамяжоўваецца рыпучым кашлем*
*ты адпіваеш горкага піва*
*адкідваеш нагой чорнага ката*
*і здаецца нешта бліснула*
*погляд плаўна кладзецца на карціну*
*на тую што пыліцца ў белым куце пакоя*
*там яскрава плёскаецца мора*
*чарнее якарнае навальнічнае неба*
*ну, вось ты нарэшце і дайшоў*
*да мора ў Вентспілсе*

**11 лютага 2012**

***

*ну, што ты, пузаты, расплакаўся?*
*не дапамогуць слёзы вярнуць маладосць*
*чорная старасць нібы гнілы яблык —*
*на даляглядзе*
*і вопратка хлопчыка выглядае на тваім целе*
*нібыта закансерваваны інвалід*
*бачыш, пагаліўся налыса —*
*хаваеш залысіны*
*гэты паркет ужо не пабачыць дарагая*
*мэбля*
*што ты хацеў, пузаты?*
*каб гэтая маладая ластаўка*
*упрыгожыла разбомбленае гняздо?*
*ёй жа яшчэ лётаць і лётаць*
*неба крэсліць каметамі*
*а ты хацеў, каб яна стала курыцай*
*спявала пад тваю замагільную дуду*
*не — пузаты — ты спазніўся з жыццём*
*той вагон даўно ў рамонтным ДЭПО*

***

*хвалі хвалі хвалі — грукаюць па небе*
*тралі-валі тралі-валі тралі-валі —*
*цёпла пад пледам*
*бралі бралі бралі куфаль з грогам*
*клалі клалі клалі муфту з залатым рогам*

***

*літаратурны дом, дзе жывуць паэты —*
*накшталт інтэрната*
*ты гатуеш мяса з бульбай*
*а Марэйна разбірае вершы*
*маладых латвійскіх пеўняў*
*мяса шапоча — я цябе ха-чу-у-у-у-у*
*бульба булькоча — з'еш мяне… з'еш*
*і тут жа на кухні малады певень*
*нешта начытвае*



*стараецца… выразна гучыць*
*яго таемны голас*
*мне згадваюцца жарты*
*мастака Жбанава…*
*«калі пампу… не вязіце дахаты…*
*там на кухні катлеты будуць гатаваць»…*
*Паэзію прынеслі на кухню*
*ці засталася яна паэзіяй?*
*Мяса — трэба зрабіць катлеты*

*сядзіш — п'еш сухое французскае*
*запіваеш газаванай вадой —*
*чуеш як там хрупаюць бурбалкі*

***

*ступар падобны да штопара*
*ён выкарыстоўвае тваю галаву*
*замест віннага корка*
*не ідуць караваны радкоў у сшытак*
*нават нешта пакутлівае*
*прытулілася ў душы*
*магчыма кніжкі не тыя чытаеш*
*глядзіш забароненыя тэлевізійныя каналы*
*ці не тыя напоі і ежу ўжываеш*
*спортам не займаешся*
*не з тымі дзяўчатамі знаёмішся*
*можа пакрыўдзіў каго мімаходзь*
*паўз лес свайго пакручастага шляху*
*і стол за якім ты сядзіш*
*нагадвае паліраваную шыбеніцу*
*і пашпарт брыдкага колеру…*
*нібыта прабірка з атрутай*

***

*здаецца прыйшоў шторм…*
*і раптоўна звалілася на зямлю сонца*
*не — гэта Яна прабегла — прычым на*
*адлегласці*
*я заўважыў толькі агеньчык*
*у праграме Skype*
*чалавечак у якім аб'ядналіся*
*некалькі эмацыянальных дзяўчат*
*так і ўяўляю як Яна бяжыць*
*з вялікім чамаданам па Менску*
*прычым бяжыць з хуткасцю аўтамабіля*
*сёння ТУТ праз пяць хвілінаў ТАМ*
*праз пяць хвілінаў зноўку ТУТ*
*здаецца ўсе справы ляснулі*
*калі з'явіўся гэты сонечны шторм*
*так і адчуваю як захісталіся гмахі*
*і падазрона замуркалі каты*
*Яна! Яна! Яна! Пачакай*
*вецер за табой не паспявае!*
*здаецца ўсмешка аніколі не пакідае*
*гэтых шыротаў*
*станоўчыя катастрофы вам забяспечаны*

***

*у крывых люстэрках бегаюць духі*
*колькі не адварочвай і не расколвай*
*аднекуль*
*выпаўзаюць іх бліщчастыя шчупальцы*
*пішчыць фатэль эмоцыямі*

***

*працягні руку ў кірунку сваёй гарачай поўні*
*выпрастай усю неспатоленую энергію*
*няхай перагортваюцца старонкі кнігі*
*і ціха падае пух з вечаровага заспанага неба*
*пакладзі аліўкавую поўню ў скураную торбу*
*і працягвай рушыць па той нязведанай*
*сцяжынцы*
*крыштальныя дрэвы — толькі афарбоўка*
*шляху*
*цягні з сабой не злосць —*
*талмуды суму і радасці*
*цягнік прагрукоча незразумелае:*
*«Піраміды»…*
*штосьці пстрыкне ўнутры —*
*магчыма напярэдадне*
*чакае… пір… мідзіі… памідоры… рапіры…*
*у скрайнім выпадку дастаткова*
*міфічнага чалавека з дрэдамі*

**Вентспілс, 2012**

АПОВЕД

# РЫЖЫ ПАЦУК

Літаратурныя творы ўкраінскага навукоўца, хіміка, педагога, аднаго з першых украінскіх авіятараў Пятра ФРАНКА (28.06.1890 — 1941) невядомыя беларускаму чытачу, за выключэннем, бадай, толькі асобных літаратуразнаўцаў. Ягоныя творы ніводнага разу не перакладаліся на беларускую мову, у адрозненне ад твораў яго славутага бацькі — Івана Франка.

Імя Пятра Франка ў шэрагу іншых імёнаў выдатных нацыянальных дзеячаў вярнулася з забыцця ў часы незалежнасці Украіны. Але з якога забыцця? На гэты конт яго пляменніца, вядомы ўкраінскі мовазнавец і грамадская дзяячка Зяновія Франко трапна заўважыла: «Пятро Франко, асоба далёка не аднамерная, сёння паступова выходзіць з таго, ніяк не людскога, забыцця, бо ў памяці львавянаў ён быў не проста сынам вялікага пісьменніка, але і гістарычнай асобаю, з імем якой увязваліся перыпетыі падзей 20-х і 30-х гадоў, потым уз'яднанне 1939 г. і, нарэшце, таемная расправа, з таго забыцця вымушанага, надзіва алагічнага пры афіцыйнай версіі яго пагібелі пад бамбёжкай. Ды і насамрэч досыць парадаксальна: чалавек загінуў ад фашысцкай бомбы, а яго імя нельга было згадваць нават у музеі яго бацькі, першым дырэктарам якога ён быў»…

Першы зборнік апавяданняў П. Франка «Дядько шкіпер», пераклад апавядання «Рудий щур» з якога прапаноўваю беларускаму чытачу, пазначаны літаратурнымі пошукамі пісьменніка. Творы гэтага зборніка прысвечаны марской тэматыцы, насычаны адпаведнай спецыфічнай лексікай і ў жанрава-тэматычным плане не з'яўляюцца тыповымі для заходнеўкраінскай літаратуры…

**Юрась Кур'яновіч**

**Пятро ФРАНКО**

Вялікая барка «Салавейка» Украінскага чарнаморскага гандлёвага флоту лёгка перасковала з хвалі на хвалю пад добрым ветрам. На бакборце некалькі маракоў праглядалі старыя ветразі.

— Вох! Не тое, што на «Магутным», — наракаў стары Бугшпрыт, — працы ніякай, як адбыў сваю варту, дык вылежвайся на якім хочаш баку.

— Хіба не ўсё адно? — зацікаўлена спытаўся малады юнга.

— Якое там усё адно! — ажно раз'юшыўся Бугшпрыт, востры нос якога стаўся прычынай гэтай мянушкі. — На «Магутным» станеш ля руля — задрамаць можаш: самі ветразі гоняць. А гэта старое пудзіла — толькі глядзі, што на дно пойдзе…

— Кажаце, дзядзьку, на дно… А што ж мы там будзем рабіць? — Хлопчык з такой шчырай заклапочанасцю задаў гэта пытанне, што ўсе разрагаталіся.

— А то ж, — падхапіў Сямён, — ты плаваць не ўмееш, пойдзеш на дно, як сякера.

— Так, сынку, — дадаў годам старэйшы матрос Дзядзенка, — калі карабель тоне ў буру, дык няма паратунку. Хоць у човен сядай, хоць адразу ў мора скокні, усё адно згінеш.

— Ды не, усё брахня, — сказаў стары касавокі Пракоп Дужы. — Я вам скажу, калі карабель мерыцца тануць, то ўсе пацукі вылазяць.

— Святы Госпадзі! — ускрыкнуў юнга. — Гэта ж калі яны ўсе павылазяць, то нас падчыстую з косткамі з'ядуць.

— Не ў час нагадаў, — прабурчаў Бугшпрыт, — я, ведаеце, сёння ажно дзесяць пацукоў бачыў.

— Ну, ты сказаў! Дык я іх цэлымі копамі ў сподзе карабля таўку, дый ніяк не вытаўку.

— Гэта ўжо нас так купцы ў Растове абдаравалі. Ці не з усёй прыстані пацукоў нам прыгналі, — прабурчаў Пракоп.

— Калі б пшаніцу туркам перадаць, то можа й пацукоў прагонім, — прамовіў Дзядзенка.

— А ці не можна іх вытруціць? — дадаў нясмела юнга.

Ягоная нясмеласць усё заахвочвала маракоў, асабліва гняўлівага Пракопа, насядаць на няшчаснага хлопца. Гэтак і цяпер Пракоп не вытрымаў, каб не пакпіць: «Ах ты, небарака, хіба ж ты не ведаеш, што калі пацукам атруты падсыпаць, дык яны ж у пшаніцу пазаносяць!..». Стары гаварыў бы далей, але пачулася восем склянак, і марак з арлінага гнязда гукнуў:

— Свяцільні гараць добра, дзядзьку шкіпер.

— Змяняй гняздо і бяры рулявое кола, — адазваўся густым басам шкіпер.

Сямён пабег да галоўнай мачты і пачаў лезці па драбінах уверх, а Пракоп павольна падаўся на чардак. Калі праходзіў паўз дзверы кухні, пачуўся лёгенькі дзын, быццам ад добра нацягнутай струны, потым цяжкі ўдар, нібыта хтосьці ўпаў на памост, пасля гнеўны выгук, а пад канец мяккі тупат, які маракі ў першую хвіліну не маглі б сабе патлумачыць, калі б ураз на памост не паліўся струмень святла і ў праёме не з'явілася худая і дробная постаць кухара. Кухар заўважыў групку маракоў і з незвычайным спакоем запытаў: «А які гэта пацук патрапіў у пастку?», але не скрануўся, каб дапамагчы мараку вылезці з-пад цяжкіх дзвярэй.

— А гэй, Пракоп, ці ты п'яны? — гукнуў шкіпер. — Чаму не ідзеш да руля?

Але Пракоп не адказваў. Маракі падышлі бліжэй і ўбачылі, як Пракоп торгаўся ў сетцы. Сталёвыя драты, з якіх пабудавалі пастку, трымалі моцна, і найдужэйшы з маракоў не мог іх разарваць. Да дзвярэй падышоў шкіпер і ўжо зноў хацеў крыкнуць на Пракопа, але кухар прамовіў супакойліва: «Вы не гневайцеся, дзядзьку шкіпер, Пракоп хаця і хоча, але не можа. Ён заматаўся ў пастцы на пацукоў, якую сам дапамагаў ставіць».

З-пад дзвярэй прагучаў голас Пракопа: «І ўбачыце, дзядзьку шкіпер, што я іх усіх вылаўлю». <...>

«Каб хутчэй у Адэсу, — уздыхалі маракі, — тады ўжо ўсім пацукам будзе амінь». Вецер, як на тое, не спяшаўся спаўняць жаданні, хоць і паліў шкіпер лампаду перад абразом св. Міколы. <...>

Поўня зазірнула ў ілюмінатар і разбудзіла шкіпера. Лёгкі ветрык роўна пхаў барку. Карабельны хранометр паказваў поўнач. Шкіпер выйшаў, каб падыхаць свежым паветрам. Ноч была ясная і цудоўная. Ветразі поўныя, хаця вецер не гайдаў карабель. Каля штурвала нерухома, нібыта каменная статуя, стаяў Пракоп. Агонь яго люлькі тлеў, быццам светлячок. За караблём працягнулася дарожка.

Дзядзьку здзівіла поўная цішыня. Звычайна дзяжурныя гутараць паміж сабою, калі-нікалі пачуецца рогат ды жарты, зайграе чароўная жалейка ці нават хтосьці завядзе песню або танцуе. А цяпер ціха, хоць мак сей. Што гэта такое? Дзядзька ціхенька зайшоў басанож на памост і, памятаючы пра здрадніцкія дзверы ў кухню, падаўся на бакборт блізу выратавальнай лодкі. У ясным ззянні месяца памост выглядаў таямніча, куды ні зірні — бачныя былі вечкі скрынак з-пад сухароў, падпёртыя з аднаго боку палкамі. Палкі, наколькі шкіпер мог угледзець, былі прывязаны дратамі да ... Вочы шкіпера пабеглі ў напрамку дратоў, што металічна блішчалі ажно да кармы, дзе з-за борта выглядалі галовы маракоў, якія трымалі драты ў руках, як вуды. Каля кожнага тырчала дзяржальна. Шкіпер заўважыў, што каля кожнага дзяржальна звісаў важкі пучок цвікоў. Пад кожным вечкам ляжалі надзвычай прывабныя рэчы: кавалкі хлеба, шматкі сала і нават каштоўны цукар. Няцяжка было здагадацца, што гэта былі пасткі. Скрозь прыадчыненыя дзверы блішчэлі вочы кухара. Ураз прыкмеціў шкіпер на памосце велізэзнага рыжага пацука. У людскім разуменні ён паводзіўся дужа бессаромна: хадзіў зусім спакойна між прынадамі, чухаў лапкаю за каркам, ставаў на заднія лапкі і нюхаў ва ўсе бакі. Здавалася, ён кпіць з тых лютых ворагаў і тых усіх няздарных людскіх хітрыкаў. Раптам пацук, мабыць, захацеў зрабіць прыемнае людзям ды пачаў забягаць пад пасткі. Драты пачалі дрыжаць, але пакуль ніхто не адважваўся пацягнуць, бо рухі пацука былі надта хуткія і нечаканыя. Ды вось пацук амаль што спыніўся пад найвышэйшай пасткай. Шкіпер адчуваў, што цяпер вырашыцца. У паветры завісла скрайняе напружанне. Яшчэ секунда, і… дзверы кухні адчыніліся, і ў паветры свіснуў пучок цвікоў. Аднак кухар не разлічыў добра адлегласць. Не дастаў да пацука. Усе пасткі самі сабой зачыніліся, і ў адзін момант усе маракі стаялі ўжо каля кухара ды лаялі яго апошнімі словамі.

— І чаго ты з сваімі цвікамі як Піліп з канапель вырваўся?

— Хіба ж гэта твая пастка была? — дапытваўся ўладальнік пасткі.

— Эх, не вытрываў, — з вялікай пагардай сплюнуў скрозь зубы Бугшпрыт.

Прыгнечаны кухар знік за дзвярыма, і памост паволі супакоіўся.

На другі дзень прыемны пах даносіўся з прыстанку музы кулінарнай справы.

— А я вам кажу, — азваўся Сямён пасля рэкагнасцыроўкі вакол кухні, — што гэта кухар хоча выправіць учарашнюю няўдачу і напёк нам мядовікаў.

Гэта пацвердзіў нос Бугшпрыта, і ніхто больш не сумняваўся. Але абед прыйшоў і мінуў, а мядовікаў не было, вячэра прыйшла і мінула, а мядовікаў — ні знаку. Нос Бугшпрыта выцягнуўся яшчэ даўжэй, наколькі гэта было мажліва. Пасля васьмі склянак змена заўважыла на памосце малыя галачкі, рассыпаныя дзе толькі можна. Гэта былі крошкі мядовікаў. Калі маракі выказвалі сваё абурэнне, адчыніліся дзверы, і кухар прамовіў:

— Пацукі вельмі любяць мядовікі. Гэтыя шматочкі атручаныя. Каштаваць не раю. — І знік у сваім свяцілішчы.

І паляванне ішло сваім цягам з яшчэ большым запалам. Уся палуба была пакрыта драпінамі ды плямамі. Усе пасткі працавалі механічна. Загінулі ўсе пацукі — толькі рыжага пацука не ўдавалася злавіць.

Забабонны Пракоп пачаў нават хрысціцца, убачыўшы рыжага пацука: «Каб ён толькі на нас ніякай бяды не навёў!». Але якой бяды — пра гэта не хацеў казаць.

Шкіпер зразумеў, што далей так працягвацца не можа. Склікаў усю каманду і сказаў:

— Я ведаю, што вы не дужа вялікія шкоднікі, але ўсё-такі палуба мае зашмат дзірак. Пэўна, што ў гэтым вінаваты пацук. Хто яго заб'е, атрымае рубель і тры дні берагавых у Адэсе. Дык вось ідзіце і лавіце, а насамперш не разбурайце «Салавейку».

З той хвіліны каманда ператварылася ў гончых сабак. Пра сон не было і гаворкі. Усе палявалі. Пасткі давялі да незвычайнай дасканаласці. Але пацук не трапляўся. Урэшце людзі вырашылі, што пацук больш кемлівы за іх усіх, але ўсё-ткі імкнуліся як-небудзь перахітрыць пацука.

Тры дні дзьмуў моцны вецер, карабель гойдала і кідала, вялікія пенныя хвалі залівалі памост, пасткі давялося схаваць. Трэба было скручваць і настаўляць ветразі, працы хапала на ўсе рукі, і каманда забылася пра пацука. Пацук больш не паказваўся. Можа, змыла яго якой хваляй у мора? Паказалася Адэса. Шкіпер стаяў на капітанскім масціку. З прыстані выплыў маленькі параходзік і ўзяў «Салавейку» на буксір. Нібыта люлька, пыхкала машына параходзіка, і бераг хутка набліжаўся. Згарнулі ўсе ветразі. Да каменнага мола заставалася яшчэ некалькі сажняў. Раптам з кухні пачуўся страшны крык. Дзверы саскочылі з завесаў, і на памосце з'явіўся кухар са сваім страшным «скарпіёнам» у руках. Перад ім бег велізэзны рыжы пацук.

Усе пакінулі свае месцы. Хто што меў, хапаў у рукі і бег біць ненавіснага пацука. Пацук умомант узлез на мачту і пабег па першай рэі. За ім кінуліся ўсе: ратунку пацуку не было. Там мусіў загінуць. Наперадзе быў кухар. Толькі Пракоп не ўдзельнічаў у паляванні: стаяў з канатам у руках і паглядаў угору. Шкіпер дарэмна свістаў і крычаў магутным басам. Ніхто яго не слухаў. Бываюць такія хвіліны, што загады проста не даходзяць да слыху. Натоўп на набярэжнай таксама зацікавіўся незвычайным відовішчам: уся каманда бегла за адным пацуком, які стаў сабе на самым канцы рэі на заднія лапкі і глядзеў адным вокам, ці далёка яшчэ яго пераследнікі. Другім вокам меў цалкам штосьці іншае на думцы.

— Бі яго! Бі! — крычалі маракі, што стаялі ззаду кухара.

— Бі яго! — крычалі маракі на беразе. Параходзік выдаў працяглы свіст. Яго задача была выканана: барка прыстала да берага.

Кухара трошкі падвяла нага, але ўсё адно прычыніў шкоду страшэнны ўдар. Не трапіў па пацуку, але цэлы пучок цвікоў пацэліў Пракопу, які цвёрда выконваў свой абавязак, акурат у плечы. Адначасна закрычаў увесь «Салавейка», крычала ўся набярэжная, а Пракоп роў.

Пацук спакойна плыў да берага.

**Пераклаў з украінскай**
**Юрась Кур'яновіч**



Пятро Франко з жонкай Вольгай і дачкой Верай

ДАКУМЕНТЫ

# «ЛІЧЫЦЬ ПАЖАДАНЫМ...»

## (ЯК ПАЎСТАЎ АРГКАМІТЭТ САЮЗА САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР)

Анатоль СІДАРЭВІЧ

**80 год таму, 23 красавіка 1932 года, была прынятая пастанова Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». Праз 34 дні пастанову «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР» прыняў Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі.**

### АБ ПЕРАБУДОВЕ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ БССР

**Пастанова ЦК КП(б)Б**

*1. ЦК КП(б)Б адзначае сваячасовасьць і вялізарнае палітычнае значэньне пастановы ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка г. г. аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый, якая будзе садзейнічаць яшчэ большаму аб'яднаньню шырокіх колаў савецкіх пісьменьнікаў і мастакоў вакол камуністычнай партыі, яшчэ большай мабілізацыі на актыўны ўдзел у пабудове бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва, на стварэньне літаратурна-мастацкіх твораў, вартых нашай вялікай эпохі.*

*2. ЦК канстатуе, што пралетарскія літаратурна-мастацкія арганізацыі, у тым ліку і БелАПП, якія на пэўным этапе, калі ў літаратуры быў яшчэ значны ўплыў чужых элемэнтаў, што асабліва ажывіліся ў першыя гады НЭП'у, а кадры пралетарскай літаратуры былі яшчэ слабыя, адыгралі станоўчую ролю ў сэнсе ўмацаваньня пазыцый пралетарскіх пісьменьнікаў. „У сучасны момант, калі пасьпелі ўжо вырасьці кадры пралетарскай літаратуры і мастацтва, выявіліся новыя пісьменьнікі, мастакі з заводаў, фабрык, калгасаў, рамкі існуючых пралетарскіх літаратурна-мастацкіх арганізацый (ВОАПП, РАПП, РАПМ і інш.) становяцца ўжо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці".*

*ЦК КП(б)Б пастанаўляе:*

*1. Ліквідаваць Беларускую Асацыяцыю Пралетарскіх Пісьменьнікаў (БелАПП).*

*2. Правесьці арганізацыю Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР, які павінен аб'яднаць усіх пісьменьнікаў, што стаяць на пляцформе савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць ў сацыялістычным будаўніцтве.*

*Усе пісьменьніцкія арганізацыі падначаліць аргкамітэту. Перадаць у распараджэньне аргкамітэту літаратурныя часопісі.*

*Культпропу ЦК забясьпечыць шырокую прапрацоўку пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый, дамогшыся максымальнай мабілізацыі ўсяго фронту літаратуры і мастацтва на вырашэньне задач сацыялістычнага будаўніцтва.*

*27 мая 1932 году.* **ЦК КП(б)Б**

### Пастанова Сакратарыяту Беларускай Асацыяцыі Пралетарскіх Пісьменьнікаў

Беларуская Асацыяцыя Пралетарскіх Пісьменьнікаў, якая ўзьнікла пад кіраўніцтвам КП(б)Б у той час, калі ў літаратуры Савецкай Беларусі быў яшчэ значны ўплыў варожых элемэнтаў, змагаючыся за генэральную лінію партыі ў літаратуры, здолела выявіць і выхаваць рад пралетарскіх паэтаў і пісьменьнікаў, стаўшы ідэйна-вядучай арганізацыяй савецкай літаратуры БССР.

На даным этапе рамкі БелАПП сталі вузкімі і перашкаджаюць разьвіцьцю савецкай літаратуры. Замест мабілізацыі ўсіх савецкіх пісьменьнікаў вакол задач сацыялістычнага будаўніцтва, Беларуская Асацыяцыя Пралетарскіх Пісьменьнікаў, ня здолеўшы правесьці карэнную перабудову сваёй работы ў адпаведнасьці з апошнімі дырэктывамі партыі, была адарвана ад значных груп пісьменьнікаў, якія спачуваюць сацыялістычнаму будаўніцтву, культывавала гуртковую замкнутасьць і абасобленасьць, мела элементы групоўшчыны ў арганізацыі, што ў выніку аддаляла яе ад палітычных задач сучаснасьці.

Гістарычныя пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб перабудове літаратурна - мастацкіх арганізацый, ліквідуючы асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў з мэтай аб'яднаньня ўсіх пісьменьнікаў, якія надтрымліваюць пляцформу савецкай улады і імкнуцца прымаць удзел у сацыялістычным будаўніцтве, у адзіны саюз савецкіх пісьменьнікаў, маюць глыбока палітычнае значэньне для росквіту савецкай літаратуры і зьяўляюцца вялікім пачаткам новага этапу ў змаганьні за Магнітабуды ў літаратуры.

Творчы ўздым і энтузіязм, якімі спатканы гэтыя гістарычныя пастановы шырокімі коламі савецкіх пісьменьнікаў БССР, сьведчаць аб неабходнасьці іменна такой карэннай рэарганізацыі літаратурна - мастацкага фронту.

На падставе гэтага сакратарыят БелАПП абвяшчае Беларускую Асацыяцыю Пралетарскіх Пісьменьнікаў **ліквідаванай.** Часопісь «Маладняк», сродкі і маемасьць асацыяцыі сакратарыят БелАПП перадае аргкамітэту Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР.

Літаратурныя гурткі на фабрыках і заводах, арганізаваныя БелАПП, працягваюць сваю работу пад кіраўніцтвам аргкамітэту.

**САКРАТАРЫЯТ БелАПП:**
**М. Лынькоў, П. Галавач, Андрэй Александровіч, Р. Мурашка, К. Дунец, Іլары Барашка, Л. Бэндэ, Я. Ліманоўскі, Ітхін, Гараўскі, Швэйдэль.**

1 чэрвеня, 1932 г.

### Два падыходы

Калі пастанова ЦК УсеКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый з'явілася ў друку, людзі, якія стаміліся ад хамскіх паводзін асобных «пралетарскіх» пісьменнікаў і вульгарнай «пралетарскай» крытыкі, уздыхнулі з палёгкай, бо ім у вочы кінуўся перадусім першы пункт тае пастановы: ліквідаваць асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў. Некаторыя нават падумалі, што вяртаецца палітыка бальшавіцкай партыі ў галіне літаратуры і мастацтва перыяду новай эканамічнай палітыкі (1921–1928).

Пісьменнікі добра памяталі пастанову ЦК ад 18 чэрвеня 1925 года «Аб палітыцы партыі ў галіне мастацкай літаратуры», якую рэдагавалі Анатоль Луначарскі і Мікалай Бухарын. У тым дакуменце гаварылася, што партыя не можа дапусціць манаполію на літаратурна-выдавецкую дзейнасць якой-небудзь групы ці літаратурнай арганізацыі. У Беларусі гэта дало магчымасць заснаваць — побач з «Маладняком» — іншыя літаратурна-мастацкія згуртаванні: «Полымя», «Узвышша», кароткачасовыя Беларускую літаратурна-мастацкую камуну і «Пробліск».

Пастанова 1925-га прадпісвала партыйным інстанцыям і пісьменнікам тактоўнае і беражлівае стаўленне да гэтак званых папутнікаў, а крытыцы — тактоўнасць і цярпімасць у дачыненні да ўсіх літаратурных праслоек, «якія могуць пайсці з пралетарыятам». Асабліва падкрэслівалася, што марксісцкая літаратурная крытыка павінна пазбавіцца тону «літаратурнай каманды», а таксама паўпісьменнай і самазадаволенай камуністычнай фанабэрыі.

Пастанова была неблагая, але яна не адпавядала намерам сталінскай фракцыі ў партыі. У культ узводзілася славутая бальшавіцкая непрымірымасць, загучаў тэзіс пра абвастрэнне класавай барацьбы па меры набліжэння да сацыялізму. Пазбаўляючыся апазіцыі ў самой партыі, Сталін і яго хаўруснікі ўзмацнялі наступ на іншадумства ў грамадстве і ў літаратуры. Першым іх крокам было стварэнне ў 1928 г. Усесаюзнага аб'яднання асацыяцыяў пралетарскіх пісьменнікаў (УААПП). Але раней былі створаны асацыяцыі ў саюзных рэспубліках. У БССР гэта Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), якая паўстала на базе «Маладняка». І усё ж Сталіну спатрэбілася яшчэ амаль чатыры гады, каб уласнаручна адрэдагаваць новую пастанову, значна карацейшую за пастанову 1925 г.

### «Трэба правучыць гэтую публіку...»

Некаторыя гісторыкі лічаць, што цяжкія часы для беларускай літаратуры насталі ў 1930-м, але вось я гартаю свае выпіскі з газет 1929-га і бачу, што нападкам у «Звяздзе» былі паддадзены Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Алесь Дудар, Валеры Маракоў, Тодар Кляшторны (гэтых чатырох крытыкаваў сакратар ЦК КП(б)Б Барыс Стасевіч, якога не задавальняла апалітычная лірыка). Нейкі Д. Мірончык «паласкаў» імёны Уладзіміра Дубоўкі і Алеся Дудара. Сакратару звяздоўскай партячэйкі Янку Чалядзінскаму не падабаўся часопіс «Полымя». Не быў абыдзены ўвагай і Міхась Зарэцкі. Яму дасталося за «праваўхілісцкую хлусьню» ў «Падарожжы на новую зямлю». Перш з нагоды выхаду гэтае кніжкі была надрукавана рэзалюцыя агульнага сходу камсамольскай ячэйкі імя Беларускай ваеннай акругі на Мар'інскім балотным масіве, а потым з'явіўся водгук «Сьпявак кулацкага суму», падпісаны нейкім Л. Якаўлевым. Сапраўдны пераслед быў учынены камуністу Зміцеру Жылуновічу. Калі за яго ў ліку іншых заступіўся беспартыйны Максім Гарэцкі, дасталося і Гарэцкаму. Пад агонь трапіў Антон Адамовіч. А праз два дні з'явіўся артыкул «супроць буржуазнай ідэалёгіі ва «Узвышшы»».

Гэта павярхоўны агляд публікацыяў толькі ў «Звяздзе». А можна ж паказаць доўгі шэраг публікацыяў у іншых выданнях. Напрыклад, газета «Рабочий», называючы ў ліку іншых выдатных людзей Язэпа Лёсіка і Вацлава Ластоўскага, 29 верасня 1929 г. вынесла вердыкт: «Советской Белоруссии они пока принесли только вред».

Тое, што тварылася ў 1929-м, было падрыхтоўкай сапраўднага пагрому маладой беларускай літаратуры, учыненага ў 1930-м. За краты трапілі, паводле маіх падлікаў не менш як 22 паэты, празаікі і літаратуразнаўцы, у тым ліку Антон Адамовіч, Адам Бабарэка, Максім Гарэцкі, Уладзімір Дубоўка, Язэп Дыла, Уладзімір Жылка, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Язэп Пушча, Уладзіслаў Чаржынскі.

Арышты Язэпа Лёсіка, Сцяпана Некрашэвіча, Максіма Гарэцкага, самагубства Усевалада Ігнатоўскага прывялі да таго, што школы засталіся без навучальных дапаможнікаў па беларускай мове, гісторыі Беларусі і беларускай літаратуры. У сакавіку 1932 г. пра гэта на пленуме ЦК КП(б)Б гаварыў старшыня праўлення Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі Алесь Некрашэвіч.

На тым жа пленуме народны камісар асветы БССР Антон Платун канстатаваў: «У пэрыяд пасьля разгрому нац. дэмакратызму... прыкладна паўтары гады амаль ня мелі рукапісаў мастацкай літаратуры, займаліся амаль выключна перакладаньнем».

Антон Платун памыляўся: у 1930-м разгром так званага нацыянал-дэмакратызму не скончыўся. У 1930-м ён толькі пачаўся.

Распачынаючы ў 1930 годзе масавы тэрор, Сталін і яго людзі ў БССР кіраваліся запаветам Леніна: "Надо... проучить эту публику так, чтобы на несколько десятков лет ни о каком сопротивлении они не смели и думать».

Пасля масавых арыштаў і высылак 1930-га і пачатку 1931-га гг. ужо справай тэхнікі было знішчэнне «Узвышша». Дарма Кандрат Крапіва дакладваў пра тое, што ««Узвышша» на новым шляху», дарма Пятро Глебка адхрышчваўся ад Адама Бабарэкі, назваўшы яго творчасць нацдэмаўшчынай, замаскаванай марксісцкай фразай, дарма на старонкі слаўнага часопіса «Узвышша» пусцілі Лукаша Бэндэ — усё адно на апошніх старонках апошняга нумара часопіса Змітрок Бядуля, Пятро Глебка, Сяргей Дарожны, Лукаш Калюга, Тодар Кляшторны, Кандрат Крапіва, Максім Лужанін, Андрэй Мрый і Кузьма Чорны мусілі апублікаваць уласную пастанову аб роспуску літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша» і паведаміць, што ў сувязі з гэтым часопіс у 1932 годзе выдавацца не будзе.

### На змену ідэі пралетарскай літаратуры — ідэя літаратуры савецкай

Ствараючы асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў у рэспубліках і УААПП, сталіністы праводзілі свайго роду эксперымент. Праз тры гады яны маглі пераканацца: многія таленавітыя літаратары праігнаравалі гэтыя згуртаванні.

Ідэолагі руху пралетарскіх пісьменнікаў, прымітыўна разумеючы марксізм, спадзяваліся, што ўмацаванню пазіцыяў пралетарскай літаратуры дапаможа прызыў у яе рабочых-ударнікаў. Гартаючы зборнічкі «Ударнікі» (1931, 1932 і 1934 гг.), сярод аўтараў іх я знайшоў хіба тры імені, якія пра нешта ды гавораць: Міколы Бацюшкова, пра лёс якога мы нічога не ведаем, расстралянага ў 1937-м Васіля Леанідава ды Міхася Калачынскага, які ў 1934-м апублікаваў свой верш «пад маркай» калгасніка. Ды яшчэ імя журналіста Сцяпана Нортмана. Зрэшты, ужо цытаваны наркам А. Платун вымушаны быў прызнаць на пленуме ЦК КП(б)Б, што ў БССР «заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру прайшоў не зусім арганізавана».

Не даў плёну і прызыў у літаратуру чырвонаармейцаў-ударнікаў. Беларускае літаратурнае аб'яднанне Чырвонай Арміі і

Флоту (БелЛАЧАФ) не апраўдала ўскладзеных на яго спадзяванняў. Сярод аўтараў зборніка «БелЛАЧАФ» (1931) мы сустракаем тры невядомыя імені: А. Шчарбакова, С. Богуша і дэмабілізаванага байца Івана (Янкі) Гуцава, з якім сустрэнемся таксама ў зборніку «Ударнікі» за 1934 г. Астатнія імёны нам вядомыя добра: Міхась Чарот, Пятрусь Броўка, Платон Галавач ды іншыя. Бадай, тое ж можна сказаць і пра зборнік габрэйскай секцыі БелЛАЧАФ «Ройтэ армэй» (1932), у якім свае творы змясцілі Ізі Харык, Зэлік Аксельрод, Лейб Талалай, Элье Каган, Мойшэ Кульбак ды іншыя вядомыя літаратары.

Аб'яднанне ж пралетарска-сялянскіх пісьменнікаў (БАПКП; было і такое) і наогул не цягнула нікога за вушы ў літаратуру. Часопіс «Беларусь калгасная» (1932) пад рэдакцыяй Рыгора Мурашкі рабіў як сапраўды літаратурна-мастацкае выданне.

Акрамя прызыву ў літаратуру рабочых-ударнікаў і чырвонаармейцаў-ударнікаў, умацаваць пазіцыі пралетарскай літаратуры спадзяваліся ўвядзеннем работніцкай цэнзуры. Вось як гэтую ідэю агучваў А. Платун: «На Украіне кніжка пісьменьніка ня будзе мець ходу, калі гэтая кніжка ня ўхвалена праф[саюзнымі] арг[аніза]цыямі». І тут жа наркам прызнаваўся: «У нас, на вялікі жаль, прафарганізацыі слаба займаюцца гэтай справай».

Недзе ў другой палавіне 1931 г. кіраўніцтва УсеКП(б) прыйшло да высновы, што стварыць чыста пралетарскую літаратуру немагчыма. Замест лозунгу «Даеш пралетарскую літаратуру!» у парадак дня было пастаўлена пытанне аб стварэнні савецкай літаратуры — сацыялістычнай паводле зместу і нацыянальнай паводле формы. Гэтую ідэю парторганы прадыктавалі «Узвышшу», калі яго змусілі прыняць пастанову аб самароспуску. Вось як ідэя гучала ў канцы 1931-га: «Лічыць пажаданым утварэнне ў БССР літаратурнай арганізацыі тыпу саюзу савецкіх пісьменнікаў, якая б па магчымасці ахапіла ўсіх папутнікаў БССР і, забяспечаная належным партыйным кіраўніцтвам, змагла б шырока разгарнуць працу па перавыхаванню папутнікаў з мэтай набліжэння іх да пралетарскай літаратуры».

Канчатковая ідэю Саюза савецкіх пісьменнікаў (ССП) сфармулюе Сталін у пастанове ЦК УсеКП(б) ад 23 красавіка 1932 г.

## Сутнасць задумы

Задума была простая: «аб'яднаць усіх пісьменнікаў, якія падтрымліваюць платформу Савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве, у адзіны саюз савецкіх пісьменнікаў з камуністычнай фракцыяй у ім».

Гэта толькі напісана так: платформа савецкай улады, камуністычная фракцыя. Усе даўно ўжо ведалі, што савецкая ўлада — гэта ўлада партыі, а партыя — гэта яе ЦК, і нават не сам ЦК, а сакратарыят на чале са Сталіным. Усе даўно ўжо ведалі, што платформа савецкай улады — гэта платформа УсеКП(б), а платформа УсеКП(б) — гэта платформа сакратарыята.

Пісьменнікі-папутнікі (беспартыйныя, лаяльныя і не зусім лаяльныя) павінны ўступіць у новую пісьменніцкую арганізацыю і безумоўна прыняць уладу партыі над сабою. Хто адважыцца сказаць, што ён супраць савецкай улады і не падтрымлівае яе платформу? Масавы тэрор 1930-га паказаў, што ў бальшавікоў ёсць людзі, здольныя вязаць, страляць і сячы сваіх братоў па класу і па крыві.

Цяпер не пісьменнікі будуць выбіраць сабе арганізацыю, а партыйнае кіраўніцтва арганізацыі будзе выбіраць пісьменнікаў у сябры ССП. Не рабочыя ў асобе прафсаюзных босаў будуць ацэньваць вартасць твораў, а самі пісьменнікі пад кіраўніцтвам партыйнай фракцыі стануць памочнікамі Галоўліта (цэнзуры) і палітрэдактараў у выдавецтвах.

За падтрымку бальшавіцкай партыі і за жаданне ўдзельнічаць у так званым сацыялістычным будаўніцтве пісьменнікам прадугледжаны бонусы, а за непадтрымку, за нежаданнне... 1930 г. паказаў, што чакае нязгодных.

## НЭПу не будзе

Практычныя захады дзеля ажыццяўлення задумы парторганы пачалі задоўга да публікацыі пастановы ЦК УсеКП(б). Хоць фармальна літаратурнае згуртаванне «Полымя» не было распушчана, ад пачатку 1932 года быў спынены выпуск аднайменнага часопіса. Засталіся белаппаўскі «Маладняк» і «Беларусь калгасная». Затое для больш аператыўнага ўмяшання ў літаратурны працэс і кіравання ім з канца лютага пачала выходзіць газета «Літаратура і мастацтва», у рэдкалегіі якой панавалі «пралетарскія» пісьменнікі.

Пастанову ЦК УсеКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый належала падтрымаць адпаведнымі пастановамі Цэнтральных Камітэтаў кампартый у нацыянальных рэспубліках і, натуральна, ухвальнымі артыкуламі ў газетах. Аднак у БССР нешта марудзілі. Артыкул Міхася Лынькова, Платона Галавача і Хацкеля Дунца «На новым этапе» з'явіўся ў «Звяздзе» толькі 26 траўня 1932 г. — назаўтра пасля публікацыі ў «ЛіМе» складу арганізацыйнага камітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў РСФСР. Праўда, значна раней, 9 траўня, у Доме пісьменніка адбыўся сход, «прысвечаны абгаварэнню гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый». З дакладам, як паведамляе ў № 5 часопіс «Беларусь калгасная», выступіў Міхась Лынькоў. Ён развеяў мары некаторых пісьменнікаў пра новы нэп у галіне літаратуры: «Трэба рашуча ўдарыць, — зазначыў т. Лынькоў, — па шкодных думках і настроях, якія расцэньваюць пастанову ЦК УсеКП(б) як удар па пралетарскай літаратуры».

У тым, што ўдару не будзе, мог пераканацца кожны, хто прачытаў «ЛіМ» за 25 траўня. Сярод 25 сябраў аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў РСФСР можна сустрэць прозвішчы мала каму вядомых Беразоўскага, Жыгі, Замойскага, Чумандрына, затое няма Міхаіла Булгакава, Барыса Пастарнака, Барыса Пільняка, Андрэя Платонава і Міхаіла Шолахава ды іншых майстроў слова. Не было і «савецкага графа» Аляксея Талстога. Ганаровым старшынёй аргкамітэта абвясцілі Максіма Горкага, фактычным жа кіраўніком стаў рэдактар «Известий» Іван Гронскі.

### Першае пасяджэньне аргкамітэту БССП

1 чэрвеня адбылося першае пасяджэньне аргкамітэту Беларускага Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў, створанага літаратурнымі арганізацыямі БССР у сувязі з пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый.

На пасяджэньні вырашан рад арганізацыйных пытаньняў.

Прэзыдыум аргкамітэту выбран у складзе т. т.: Клімковіча (старшыня), М. Лынькова (адказны сакратар), К. Чорнага, А. Александровіча і Х. Дунца. Кандыдаты—т. т. Гараўскі і Швэйдэль.

Дэлегацыя аргкамітэту Ўсесаюзнага Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў вылучана ў складзе т. т. М. Лынькова, К. Чорнага, А. Александровіча і І. Харыка.

Створаны камісіі: па друку — у складзе т. т. М. Лынькова, Я. Ліманоўскага і І. Харыка; па масавай рабоце — у складзе т. т. П. Галавача, П. Швэйдэля, А. Александровіча, Крапівы і Юдэльсона; па сацыяльна-бытавых пытаньнях—у складзе т. т. І. Гурскага, Іл. Барашкі, Л. Бэндэ, К. Чорнага, Кульбака і Нёманскага.

Пастаноўлена, што пытаньнямі ўкамплектаваньня апарату і сродкамі павінен заняцца прэзыдыум

Даручана камісіі масавай работы ў самы кароткі тэрмін прадставіць у прэзыдыум плян папулярызацыі і растлумачэньня апошніх пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб перабудове літаратурна - мастацкіх арганізацый на пэрыфэрыі, у філіялах БелАПП, ЛАЧАФ і БАПКП і літаратурных гурткох. Аргсакратаром арганізацыйнага камітэту выбран Іл. Барашка.

## Без нашаніўцаў, або Як выбіралі аргкамітэт ССП БССР

Як паведаміў 25 траўня 1932 г. «ЛіМ», арганізацыйны камітэт для падрыхтоўкі пісьменніцкага з'езда ды кіраўніцтва (фармальна распушчанымі) літаратурнымі арганізацыямі вырашылі стварыць літаратурныя арганізацыі Расіі (РАПП, ЛАЧАФ ды інш.). Пад паведамленнем стаяць і подпісы ўпаўнаважаных пісьменнікаў. Такое ўражанне, што расійскія літаратары самі да гэтага дадумаліся, бо ў пастанове ЦК УсеКП(б) аргкамітэт не згадваецца. Затое ў пастанове ЦК КП(б)Б аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый напісана: «Усе пісьменніцкія арганізацыі падначаліць аргкамітэту. Перадаць у распараджэньне аргкамітэту літаратурныя часопісі».

Прынятая 27 траўня 1932 г. пастанова ЦК КП(б)Б была апублікавана ў «Звяздзе». Калі пастанову ЦК УсеКП(б) прымала палітбюро, дык пастанову ЦК КП(б)Б прыняло нават не бюро Цэнтральнага Камітэта, а сакратарыят, бо палітыне было тэхнічнае і не патрабавала шырэйшага абмеркавання.

Пастанову ЦК КП(б)Б апублікавалі 4 чэрвеня, а на тры дні раней, 1 чэрвеня, БелАПП прыняла пастанову аб яе самаліквідацыі. Тады ж, 1 чэрвеня, адбылося і пасяджэнне арганізацыйнага камітэта Беларускага саюза савецкіх пісьменнікаў (так першачаткова думалі яго назваць).

Калі быў і кім створаны аргкамітэт? З паведамлення ў 5-й кніжцы «Беларусі калгаснай» вынікае, што выбралі яго самі пісьменнікі на сваім сходзе. Пад паведамленнем пра гэта стаяць прозвішчы прадстаўнікоў БелАППа, БелЛАЧАФ і БелАПСП (кідаецца ў вочы, што адсутнічаюць подпісы прадстаўнікоў «Полымя»). Аднак у гэтым паведамленні толькі частка праўды. Насамрэч пісьменнікі не выбіралі аргкамітэт, а падымалі рукі за яго выбранне, бо яшчэ 27 траўня аргкамітэт ССП БССР быў выбраны сакратарыятам ЦК КП(б)Б. У пункце 2 апублікаванага тэкста пастановы ЦК кампартыі Беларусі адсутнічае абзац з пералікам сябраў аргкамітэта. Між тым гісторыку вельмі цікава пачытаць пратакол пасяджэння сакратарыята ЦК, а ў пратаколе — нават не саму пастанову, а надрукаваны на машыцы праект гэтага дакумента.

Праект напісаны па-расійску. Сакратарыяту ЦК прапаноўвалася для правядзення работы па падрыхтоўцы Усебеларускага з'езда савецкіх пісьменнікаў «выделить организационный комитет в следующем составе». На пасаду старшыні аргкамітэта прапаноўвалася кандыдатура Ільлі Гурскага (яго прозвішча ўпісана чарнілам замест нечытэльнага прозвішча, якое таксама пачыналася на літару Г). Над прозвішчам Гурскага чыёйсьці рукою ўпісана: Клімковіч ці Гурскі. Потым пад нумарам 2 зноў ідзе прозвішча Гурскага як кандыдата на пасаду адказнага сакратара, але яно зноў выкасавана. Далей памяняная нумарацыя. І ўжо пад другім, а не трэцім нумарам чытаем прозвішча Міхася Лынькова (у праекце надрукавана «Лынков»). За Лыньковым ідуць кандыдатуры Андрэя Александровіча, Кузьмы Чорнага (над прозвішчам крыжык), Платона Галавача, Якуба Коласа (псеўданім выкасаваны алоўкам, над ім крыжык), Ізі Харыка, Вільгельма Гараўскага (польскі пралетарскі пісьменнік), Лукаша Бэндэ, Янкі Нёманскага, Янкі Ліманоўскага, Мойшэ Кульбака (над прозвішчам крыжык), П. Швейдэля (рабочы-ўдарнік; над прозвішчам крыжык). Далей упісана і закрэслена прозвішча Арона Юдэльсона. За гэтым закрэсленым прозвішчам пад нумарам 14 упісана прозвішча Хацкеля Дунца (габрэйска-беларускі аўтар, рэдактар «ЛіМа»), пад нумарам 15 — зноў кандыдатура А. Юдэльсона (над прозвішчам крыжык), пад нумарам 17 — кандыдатура Цішкі Гартнага (прозвішча выкасавана, над ім крыжык). Нарэшце, ад рукі дапісана: Крапіва.

У чыставіку пастановы сакратарыята ЦК КПБ чытаем: «Для правядзеньня працы па падрыхтоўцы Усебеларускага Зьезду Савецкіх Пісьменьнікаў выдзяліць арганізаваны (!) камітэт у наступным складзе:

1) Клімковіч — старшыня, 2) Лынькоў — адказны сакратар, 3) Гурскі, 4) Александровіч, 5) Кузьма Чорны, 6) Галавач, 7) Харык, 8) Гараўскі, 9) Бендэ, 10) Нёманскі, 11) Ліманоўскі, 12) Кульбак, 13) Швэйдэль, 14) Дунец, 15) Юдэльсон, 16) Крапіва».

Дакладна ў такім складзе аргкамітэт і быў «выбраны» на сходзе пісьменнікаў. Якуб Колас і Цішка Гартны ў яго не трапілі, а кандыдатуры Янкі Купалы, Змітрака Бядулі ды іншых нашаніўцаў нават не разглядаліся.

У апублікаваным паведамленні напісана, што аргкамітэт на сваім пасяджэнні 1 чэрвеня вылучыў у склад аргкамітэта ССП СССР дэлегацыю ў складзе М. Лынькова, К. Чорнага, А. Александровіча і І. Харыка. Насамрэч прадстаўнікоў беларускіх пісьменнікаў ва ўсесаюзны аргкамітэт вылучыў сакратарыят ЦК КП(б)Б. У пратаколе ад 27 траўня можна прачытаць такі абзац: «Дэлегатамі ад БССР у Ўсесаюзны Аргкамітэт Саюза Савецкіх Пісьменьнікаў лічыць неабходным накіраваць т.т.: 1) Лынькова — адказны сакратар, 2) Кузьму Чорнага, 3) Харыка, 4) Александровіча». Як бачым, у паведамленні пра пасяджэнне аргкамітэта ССП БССР часткова памяняны парадак прозвішчаў, і не больш.

Што маем у выніку? З 16 сябраў аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР дванаццаць сябраў, у тым ліку і партыйны апаратчык М. Клімковіч, былі выхадцамі з БелАППа, два (Кузьма Чорны і Кандрат Крапіва) уваходзілі раней ва «Узвышша», а адзін (Янка Нёманскі) узначальваў згуртаванне «Полымя». (Не магу сказаць, ці ўваходзіў у БелАПП П. Швэйдэль).

Такая штучная перавага былых белаппаўцаў, якія панавалі ў рэдакцыях часопісаў і «ЛіМа», не магла не спарадзіць канфліктную сітуацыю ў пісьменніцкім асяроддзі. І канфлікт выбухнуў. Але перш чым з'явіўся славуты ліст пятнаццаці пісьменнікаў, жарсці разгарэліся вакол асобы Янкі Купалы, а дакладней — вакол яго 50-гадовага юбілею. Пытанне стаяла так: адзначаць ці не адзначаць?..

▶ ЗГАДКІ

# ЖЫЦЦЯДАЙНАЯ СІЛА

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

**Кажуць, што нашае зямное жыццё — гэта вібрацыя малекул нежывой матэрыі ў нейкай адмысловай, унікальнай частаце. Прыслухаўшыся да мернага стуку свайго сэрца, пачынаеш разумець, што нешта ў гэтым і насамрэч ёсць. А яшчэ — калі чуеш добрую песню, ці добрую музыку.**



Ці не ў іх і хаваецца разгадка таямніцы нашага жыцця? Нездарма шматлікія пакаленні нашых балта-славянскіх продкаў так беражліва ставіліся да сваіх песняў. Але сёння, на жаль, песня імкліва губляе сваю ранейшую сакральную вартасць...

Калі зірнуць звонку на сённяшні стан песні, то ён, напэўна, не выкліча нейкіх хваляванняў. Толькі за год Беларусь стварае столькі новых песняў, колькі іх, бадай што, не выдаткоўвала ўся чалавечая супольнасць якія-небудзь пару стагоддзяў таму. Ды і шматлікія іх ручаіны з усяго свету імкліва зліваюцца сёння ў сапраўдны песенны «акіян». Але лёс песні ў шматграннай мазаіцы быцця ёсць вельмі ўжо яркім, нават знакавым фрагментам, каб на яго не зважаць.

Як вядома, нашыя песня, музыка на працягу ўсёй эвалюцыі заўсёды была побач з намі — і ў святы, і ў будні, і ў спакойныя часы, і ў часы ліхалецця і нягодаў. Яны — і ля вытокаў нараджэння новага жыцця, яны ж у ім — і завяршальны акорд. Для большасці нашых продкаў песня многія стагоддзі была ледзь не адзіным промнікам у змрочных лабірынтах быцця. За многія стагоддзі беларусамі-ліцвінамі назапашаны глыбокі пласт музычна-песенных здабыткаў, якія ёсць сапраўдным нашым духоўным скарбам.

З самага ранняга дзяцінства песня ярка і ўпэўнена асвятляла і маё ўласнае існаванне. Мне вельмі пашанцавала з ёю ў тым маім ужо далёкім дзяцінстве. Яе чароўная сіла не магла не ўплываць на фарміраванне маёй душы і асобы. Думаю, што і на канчатковы выбар прафесіі... А ўсё гэтае багацце я меў найперш дзякуючы маёй матулі — Анастасіі Маркаўне, украінцы родам з Харкаўшчыны — краю, што як і Беларусь, месціцца на перакрыжаванні стратэгічных гандлёвых і міграцыйных шляхоў.

У Беларусь матуля трапіла ў цяжкія пасляваенныя 40-я гады, ратуючыся ад татальнага голаду, тут і знайшла свой лёс у асобе майго бацькі Сямёна Федаравіча — беларуса з Капыльшчыны. Маючы рэдкай прыгажосці голас, матуля — пявуння ад Бога — шчодра дарыла нам, сваім дзецям, цудоўныя песні. Ніадрэнны голас меў і бацька...

Калі мне споўнілася гадкі тры, бацька забраў да сябе на выхаванне сірату-пляменніцу — дачку загінулага ў першыя ж дні вайны брата. Міла, ці як мы ўсе яе звалі — Мілка — таксама была яшчэ той пявунняй! Разам з мамай яны даволі хутка зладзілі своеасаблівы дамашні ансамбль беларуска-ўкраінскай песні, заспяваўшы на два галасы, ды як! Спявалі амаль штодзённа, як правіла па вечарох. Апроч Мілкі прысутнічалі і мы — трое дзетак — у якасці слухачоў. І здзяйснялася сапраўднае Чарадзейства! Песні былі такой прыгажосці, такой душэўнасці, такой энергетычнай напоўненасці, што аж дух захоплівала. Дасюль памятаю суровы загад злой мачыхі свайму падкаблучніку-мужу: «...а сваіх маленькіх дзетак / павесь на вяроўцы!...». І рахманы беларус, хоць і пакутуючы, той загад мусіў выконваць!..

У тыя часы нашыя землякі, хоць і былі шмат бяднейшыя, але адрозна ад нас сённяшніх, нярэдка хадзілі адзін да аднаго ў госці — яшчэ існавалі рэшткі такой даўнейшай культуры. «Госці» тыя хоць і не адрозніваліся багаццем стала і кухні, але былі надзвычай вясёлымі і сардэчнымі. Без чаркі, зразумела, не абыходзілася, але яна ў тыя часы не іграла дамінуючай ролі, а была хутчэй фонам. За сталом шмат і дасціпна жартавалі. Дзесьці пасля другой-трэцяй чарак за сталом пачыналі спяваць. І вось тут — перад збочнай публікай — матуля і Мілка дасягалі ў сваім песенным майстэрстве проста фантастычных вышыняў! Асабліва кранальным было выкананне матуляй пры дапамозе Мілкі «Тополі» на словы геніяльнага украінскага «Кабзара». Але неўзабаве пявунні зачыналі вясёлую песню, і многія з гасцей пускаліся і ў плясы!

Спявалі ў асноўным беларускія (іх тады было безліч!) і ўкраінскія песні, былі і расійскія, але значна менш. Пасля такіх вось «гасцей» народ разыходзіўся не толькі ў настроі, але і амаль працвераэўшы — гэта быў адзін з цудадзейных эфектаў песні! Людзі быццам маладзелі пасля песеннай вечарыны!

Ужо ў сталым узросце я даведаўся, што падчас спявання ў арганізме чалавека адбываецца актыўнае стварэнне атамарнага кіслароду, які ёсць самым магутным натуральным антыаксідантам!

Ну а потым... Потым наша вёска пачала паціху паміраць, а з ёю і песня. Яна яшчэ нейкі час прысутнічала за сталом. Але паступова пачаў усталёўвацца зусім іншы лад. Забаўляльныя функцыі стала браць на сябе тэхніка, і беларусы ў большасці сваёй пераставалі спяваць не толькі за сталом і ў гасцях, але і ўвогуле. Энергетыка застолляў станавілася ўсё бяднейшай. І людзі стараліся кампенсаваць адсутнасць натуральнай радасці павелічэннем дозы спіртовых напояў. Такім чынам паступова не песня, а чарка стала дамінаваць за сталамі беларусаў.

Але Бог паслаў Беларусі Уладзіміра Мулявіна — расійскага хлопца са Свярдлоўска. Вось жа дзіва: мы самі не маглі ці не хацелі бачыць сакральнага багацця сваіх скарбаў, а збочны, чужы Беларусі чалавек убачыў яго сходу! І не толькі ўбачыў, але і здолеў удыхнуць у яго зусім новае дыханне! Ды такое, што нашую песню як след ацанілі нарэшце ва ўсім свеце! Але ў нялёгкія часы рэформ і такога унікума, як Мулявін, жыццё практычна загнала ў кут...

Як распавядаў адзін знаёмы мастак — сябра Мулявіна — у сярэдзіне 90-х Мулявін стварыў выдатнейшую песню на словы Багдановіча «Пагоня» і прэзентаваў яе на адным з канцэртаў. Якое ж было яго здзіўленне, калі яна была болей чым халадна сустрэтая саноўнай публікай — зачынаўся зусім іншы палітычны час. «Дык ім нават «Пагоня» сёння не патрэбна!» — з горыччу паскардзіўся ён сябру...

Мулявінскі дар адлюстраваўся і на мне асабіста... Напачатку 80-х гадоў я з сям'ёй і сябрамі адпачываў пад Адэсай. Мясцовая паўкрымінальная эліта, якая штовечар збіралася на пасядзелкі акурат на тэрыторыі нашага пансіянату, выпадкова пачуўшы ў маім выкананні пад гітару «песняроўскую» «Алесю», потым два тыдні запар садзіла мяне за свой вячэрні стол, каб я спяваў «што-небудзь беларускае, з «Песняроў»»...

У нашай мінскай кампані імгненна зніклі праблемы з харчаваннем і вадой, якія былі дасюль з-за нашага сціплага адпускнога бюджэту. Яшчэ б адзін такі тыдзень, і я, напэўна, капітальна падсеў бы на выдатнае маладое віно, што ракой ліпося, каб «прамачыць» маё пеўчае горла!..

Пэўную порцыю аптымізму наконт лёсу нашай песні далі канец 80-х —пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі пачыналася новая хваля нацыянальнага адраджэння. Я тады, павярнуўшы сваё жыццё на 180 градусаў, паступіў на вячэрні беларускі філфак і працаваў у адной школе настаўнікам. І тут лёс зусім нечакана падкінуў мне сюрпрыз у абліччы паэта Міхася Скоблы, які запрасіў мяне на працу ў вядомы часопіс «Роднае слова», які ўзначальваў вялікі руплівец беларушчыны Міхась Шавыркін. А паколькі ён быў яшчэ і вялікім аматарам беларускай песні, то такімі ж былі і ўсе супрацоўнікі рэдакцыі. Спрацаваў наш традыцыйны патэрналізм — як «бацька», так і мы!

Нашыя рэдакцыйныя пасядзелкі (зразумела, не ў рабочы час!), дзе мы шмат спявалі, сталі сапраўдным клубам беларускай песні, дзе бруіла надзвыя жыццядайная атмасфера. Спявалі практычна ўсе, нават тыя, хто не меў голасу і слыху! На тыя «роднасловаўскія» сустрэчы стараліся патрапіць розныя людзі, і не абы якія: рэдактары іншых выданняў, вядомыя паэты і пісьменнікі, літаратуразнаўцы, артысты, тэлевядучыя, нават замежныя госці, словам беларуская эліта! Нярэдкім госцем быў вядомы оперны спявак Віктар Скарабагатаў, які не пагарджаў часам і свой непаўторны бас «уплесці» ў нашую, можа, і не зусім дасканалую, гармонію.

Але ўсё добрае рана ці позна канчаецца... Так было і з «Родным словам»...

Хто ведае, магчыма, такія вось асяродкі, такія вось клубы роднай песні і маглі б стаць у нашай дашчэнту здэнацыяналізаванай атмасферы своеасаблівымі выспачкамі рэальнага адраджэння не толькі беларускай песні, але і мовы, культуры, т.б нашага новага нацыянальнага адраджэння. Іншая справа, што Шавыркіных сёння зусім няшмат...

Калісьці стварацць песні мелі права (і юрыдычнае, і чалавечае!) выключна сябры Саюза кампазітараў, а сёння іх не піша хіба толькі агалцелы музафоб. Як вынік, на вачах імкліва дэградуе меладычная канва песняў. Плагіят стаў сёння ледзь не нормай. Прычым ім не пагарджаюць нават вядомыя выканаўцы. Але яшчэ больш сумная сітуацыя з тэкстамі. Якраз слухаючы іх, выразна пачынаеш разумець, куды нас нясе плынь сучаснай песні.

Да прыкладу, у адной перадНавагоднай перадачы на першым канале радыё, якое транслюецца праз радыёкропку на ўсю краіну, слухачоў віншавалі галоўныя зоркі эстрады — спачатку словам, а потым і песняй. І песні былі яшчэ тыя! Адна «зорка» заклікала слухачоў «сойти с ума», другая — «сорваться и вниз — последний каприз!» і г.д., і т.п. Даволі цікавыя атрымаліся «пажаданні» напярэдадні свята!.. Між тым мала хто сёння не ведае, што прамоўленае слова абавязкова так ці інакш матэрыялізуецца. А тут такія вось «устаноўкі». І гэта пры тым, што ў нас адзін з самых высокіх у Еўропе ўзроўняў суіцыдальнасці і далёка не самы суцяшальны ўзровень псіхічных захворванняў!..

Вядома, сёння моцна засмечаная і ўся наша паўсядзённая мова. Да прыкладу, ёсць цэлыя катэгорыі людзей, якія карыстаюцца выключна ненарматыўнай лексікай. Але што датычыць песні, то з яе словы не толькі не выкінеш, але ад яе, асабліва той, што тыражуецца СМІ, сёння шмат чаго залежыць.

Песня сёння ўсё больш становіцца прадуктам бізнэсу, адным з шэраговых тавараў спажывецкага рынку. А калі так, то і стаўленне да яе як да тавара — абы прадаць! Адзін мой сябра паэт В., напісаўшы неяк удалыя вершы, прапанаваў кіраўніку аднаго з вядомых у краіне калектываў напісаць песню. На што той спакойна адказаў: «Платите, и будет песня!»

Песенны бізнэс ужо даўно стаў адным з самых прыбытковых. Сёння ў свеце існуе безліч усемагчымых конкурсаў-праглядаў, якія як гіганцкая мясарубка, паглынаюць у сябе мільёны маладых людзей, што прагнуць публічнай славы. Вяршыня яе — так званыя фінішныя конкурсы накшталт Еўрабачання, якія ўжо даўно не ёсць уласна музычнымі. Самае непрыемнае, калі ў гэтыя сумніўныя гульні ўцягваюць яшчэ зусім малых дзяцей, якіх для гэтага спецыяльна гадамі літаральна дрэсіруюць...

І адным з самых выразных вынікаў бізнэс-падыходу да сучаснай песні ёсць паступовае выцясненне з поля зроку песні беларускамоўнай. Яна даўно ўжо стала «не фарматам» на большасці радыёстанцый. І з вялікай цяжкасцю выжывае, дзякуючы хутчэй выпадку і асобным таленавітым творцам, а не нейкай сістэме. Сумна было чуць па радыё выказванне адной нашай «зоркі», што маўляў, добрых беларускамоўных тэкстаў вельмі мала!..

Зразумела адно: у свеце наша песня ніколі не будзе паспяхова прэзентавацца друганымі «калькамі» маскоўскага шоў-бізнеса. Прыкладам жа ўсім ім хай будзе нечуваны ў свой час поспех украінскай спявачкі Русланы на Еўрабачанні, дзякуючы найперш менавіта нацыянальнаму духоўнаму стрыжню сваёй творчасці. Толькі такі шлях можа быць цікавым у свеце, асабліва тады, калі па ім ідуць таленавітыя і яркія людзі.

А яны ў нас ёсць. Раю паслухаць, да прыкладу, дыск «Барды свабоды», створаны высілкамі Змітра Бартосіка і калектыву рэдакцыі «Радыё Свабода». Сярод некалькіх сотняў (!) выканаўцаў нямала выдатных узораў сучаснай нацыянальнай песні, а, значыць, і нацыянальнай культуры. Я ўжо не кажу пра тых кампазітараў, спевакоў, хто па ранейшаму прафесійна працягвае сваё «стаянне» за нашую беларускую душу.

▸ **КРАЯЗНАЎСТВА**

# ДА ЗАБЫТАГА БЕЛАРУСКАГА АЛІМПУ

Аляксей ДУБРОЎСКІ

**Краязнаўца, аўтар некалькіх сотняў артыкулаў, прысвечаных праблемам экалогіі і гісторыі, фатограф Аляксей ДУБРОЎСКІ адышоў у іншы свет напрыканцы мінулага года. Ён рашуча асуджаў меліярацыю Палесся, у часы перабудовы падтрымаў Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне», з 1990 па 1999 гады быў дэпутатам Пінскага гарсавета. Спадар Аляксей быў і аўтарам «новачасаўскай» «Літаратурнай Беларусі», якая сёння друкуе адзін з яго апошніх артыкулаў…**

Мы — сведкі глабальных турыстычных «раскрутак» многіх краін. Усе прыкладваюць велізарныя высілкі, каб прыцягнуць турыстычныя даляры. У нас жа ў гэтым плане… Хоць маем унікальны прыродны і гістарычны патэнцыял.

Возьмем Грэцыю. Турысты стагоддзямі валам туды валяць — паглядзець гісторыю. Алімп, Дэльфы... Цікавасць да старажытных багоў і прадракальнікаў узрастае ва ўсім свеце. А Беларусь — у застаялым камунізме, яшчэ горш, чым у паганстве.

Тым не менш, беларусам трэба ведаць свае свяцілішчы, якія дазволілі захавацца нам як народу і нацыі. Няўжо мы горш грэкаў?

…Жылі людзі, у нешта верылі, мелі сваіх багоў. На жаль, расійска-савецкая ідэалогія не давала ходу нашай, ды і сваёй дахрысціянскай гісторыі. Аб тым перыядзе паняцце маюць толькі вузкія адмыслоўцы ды скрупулёзныя краязнаўцы. Каб пісаць аб беларускім Алімпе, неабходнай умовай з'яўляецца крытычная кропка, у якой сходзяцца некалькі акалічнасцяў.

Маю выснову аб наяўнасці на тэрыторыі Беларусі Святой гары, і не адной, дзе больш 1000 гадоў назад жылі жрацы (Багі) і аракулы, мацуюць наступныя звесткі:

1. Фільм аб грэцкіх Дэльфах з доказамі адмысловых геалагічных умоў пад храмам аракула;
2. Вывучэнне навуковай літаратуры аб паганскіх помніках Беларусі і грэцкім Алімпе;
3. Паездка па месцах іх размяшчэння ў Беларусі;
4. Азнаямленне з тапанімікай, рэльефам, рачной сеткай меркаванага месца знаходжання Беларускага Алімпу і Дэльфаў.

Сабраныя, здавалася б, разнастайныя звесткі хораша леглі ў адно доказнае рэчышча…

Месца гэтае знаходзіцца на мяжы Валожынскага і Маладзечанскага раёнаў блізу вёсак Дуброва і Агароднікі — на Дзявочай гары. У даўнія часы на гэтай тэрыторыі пражывалі балтыйскія плямёны са сваімі багамі, якія, перайначыўшыся ў назвах, але не ў сутнасці, перайшлі з славянскі пантэон. У летувіскай мове «dievas» — бог. Нядзіўна, што ў беларускай тапаніміцы ёсць шмат назваў са словам «дзівы», «дзева». Згаданая вышэй гара — гара багоў? Але чаму тут?

Пашукаем доказы. Гэта самая высокая гара на вялікую акругу — 298,5 метраў у Балтыйскай сістэме вышынь, 40 метраў узвышаецца над навакольнай мясцовасцю, мае форму плато, памерам 200х200 м, размясцілася на Галоўным Еўрапейскім водападзеле. Побач з ёй бярэ пачатак Заходняя Бярэзіна...

У 1987 годзе Дзявочай гарой зацікавіліся нашыя гісторыкі, але толькі як месцам пахавання старажытных людзей. Пад кіраўніцтвам археолага Э.Зайкоўскага на гары было выяўлена каля 25 старажытных курганоў з пахаваннямі і рэчамі, характэрнымі для балтыйскіх плямёнаў (яцвягаў) IX—XII стагоддзяў, а таксама культурны пласт, але без наяўнасці бытавых прадметаў. Па звестках мясцовых жыхароў, тут яшчэ ў 50-ыя гады XX ст. праводзілася свята Купалле, паліліся вогнішчы, як і ў далёкія паганскія часы. Гэта было паганскае капішча. Магчыма, там размяшчаўся і храм…

Фільм аб грэцкіх Дэльфах заканчваўся эксперыментам. Галоўным элементам яго быў транс аракула. Што яго выклікала? Аказваецца, храм знаходзіўся над тэктанічным разломам, па якім цёк ручаюк з адмысловым хімічным складам вады, з якой вылучаўся наркатычны газ. Пакой быў невялікі з адтулінай у падлозе, праз яго і паступаў наркотык. А далей — справа тэхнікі.



Фота аўтара

Гара багоў



Яцвяжскі курган на Гары багоў




Вуліца Дзявочая гара ў вёсцы Дуброва

Ля падножжа нашай гары таксама ёсць тры крыніцы. І…, каб канчаткова здзівіць нашым Алімпам чытача, стаўлю кропку над «І». Узяў тэктанічную карту Беларусі ды, як і меркаваў, усё да гэтага і зводзілася: гара размясцілася на вялікім тэктанічным разломе пад назвай Ашмянскі, урэзаным у крышталічны чахол Зямлі. Гутарка пра разломы адмысловая. Скажу толькі, што яны да сёння «дыхаюць», хоць ім і мільёны гадоў. Мы гэтаму былі сведкамі ў красавіку 1986-га ў Чарнобылі. Станцыя таксама стаяла на разломе…

Каб усё напісанае прачуць, трэба самому пабываць на Гары багоў і, як заведзена ў маёй краязнаўчай практыцы — усе сур'ёзныя здагадкі правяраць на месцы. Таму ў дарогу збіраўся нядоўга. Гара недалёка ад Купалаўскай Вязынкі. Вось і гэты вялікі чалавек зямлі беларускай не выпадкова нарадзіўся побач са святой гарой! І назоў вёскі Дуброва гаворыць аб тым, што тут у святым дубовым гаі знаходзіўся пантэон асаў-багоў. А назвы вёсак у акрузе — гэта ж кангламерат народаў: Татары, Крывічы, Венды... Маючы шмат сяброў, не склала цяжкасцяў дамовіцца — і з імі патрапіць на Святую гару. За адзін дзень паспеў крутнуцца з Пінска ў Дуброва і назад, пагаварыць з жыхарамі вёскі і стаць з Вячаславам Макаўчуком першымі, пасля доўгага шматвяковага перапынку, паломнікамі на гэтае святое месца.

Першапачаткова азнаёміліся з самой вёскай. Як і многія, яна набыла за гады бальшавізму жахлівы выгляд. Вакол рэзрух. Шмат кінутых хат. Стаяць у бяздзейнасці стары бровар, каменны млын, яшчэ нейкія развалiны бачныя з зараснікаў, старая школа з калонамі таксама ззяе пустымі вокнамі, і зусім маркотны выгляд мае касцёл. Яго выкарыстоўвалі пад склад угнаенняў, а потым і зусім камсамольцы спалілі. Без даху, але сцены цэлыя, усярэдзіне — калоны разам з дрэвамі. На сцяне вісіць жалезны пагнуты крыж. Ці хрысціяне жывуць у гэтай вёсцы? Калі і язычнікі, то ўсё роўна да культуры трэба ставіцца не так...

Нашым гідам па гісторыі акругі быў былы завуч школы, цяпер пенсіянер, Віктар Уладзіміравіч Корсак. Пачалі гутарку з легендаў аб гары. Заўважу, што легенду ў розных варыяцыях ведаюць многія жыхары вёскі. Жыла тут калісьці прыгожая самалюбная дзяўчына. Кахалі яе два хлопцы. І яны ёй падабаліся. Каб вызначыцца з жаніхом, яна паставіла ім умову: хто першы закоціць велізарны камень на гару — таму яна і дастанецца. У першага сэрца спынілася на паўдарогі, у другога — на гары. Так яна і не выйшла замуж. Пасля гэтага жыхары штогод наведвалі гару, неслі ахвяры, вадзілі маркотныя карагоды. У іншай версіі легенды вяскоўцы пакаралі дзяўчыну за бессардэчнасць і жывой закапалі на гары. Аб тым нам ужо расказала Валянціна Уладзіміраўна Кавалеўская. Жыве яна недалёка ад гары на вуліцы Дзявочая гара...

У гэтай легендзе відавочна адлюстраваныя адгалоскі паганскіх часоў. Калі сюды дайшлі славяне, яны варварскія традыцыі язычнікаў, у тым ліку і аб чалавечых ахвярапрынашэннях, «згладзілі» — і ператварылі ў казку аб сумным каханні.

Яшчэ адзін парадокс гэтага месца. Усе мы ведаем, што на раённым узроўні раней кіравалі ды і кіруюць розныя прыблуды, абсалютна недасведчаныя ў гісторыі і асаблівасцях культуры раённых вёсак. Калі вызначалі мяжу Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў — правялі мяжу паміж агародамі вёскі Дуброва і побач з Гарой багоў. Так вёска і гара апынуліся ў розных раёнах. Генетычна звязаную з гарой вёску штучна «адрэзалі», і народ тым незадаволены.

Валянціна Уладзіміраўна ўспамінала, што ў 50-ыя гады гара была «ажыўленай». Расла на ёй толькі ляшчына, было шмат сцяжынак, уладкоўвалі там язычніцкія святы тыпу Купалы.

Да самой гары мы з Вячаславам даехаць не змаглі. Пакінулі аўто на вуліцы Дзявочая гара і з паўкіламетра прайшліся пешшу. Гара сапраўды выклікае давер. Рэзка ўзвышаецца над навакольнай мясцовасцю, з амаль стромымі схіламі, парасла маладым лесам, у асноўным, клёнамі, вельмі шмат рэдкай і лекавай травы, у тым ліку і папараці. Большасць курганоў абкладзеныя камянямі, як і было прынята ў балтыйскіх плямёнаў. Вакол іх бачныя невялікія раўкі. Некаторыя курганы раскапаныя археолагамі. Па гары раскіданыя асобныя вялікія камяні. Але ляжаў тут калісьці велізарны Адамаў камень, яго апісанне памятае Валянціна Уладзіміраўна. З заходняга боку бачны земляны вал, характэрны для старажытных гарадзішчаў і капішчаў...

Патрэбен час, каб дэталёва абследаваць гэтую гару і зрабіць яе месцам паломніцтва да забытай культуры нашых далёкіх продкаў. Чаму б ёй не быць нашым Алімпам? Побач Мінск, Вязынка з Янам Дамінікавічам Луцэвічам. І, мабыць, нездарма ён стаў Янкам Купалам. Дарэчы, каталіцкі прыход вёскі Вязынка быў тут, у Дуброве. А бацькі Купалы былі каталікамі…

Калі на гары расчысціць краявідныя пляцоўкі на чатыры бакі свету, мы ўбачым з яе — найперш сімвалічна — усю Беларусь. Месцы тут найпрыгожыя, і гэта ж — у цэнтры нашай краіны.

## КАЛЕЙДАСКОП

# 50 КРОН — ЗА ПРАЧЫТАНУЮ КНІГУ

Так заахвочваюць дзяцей чытаць кнігі ў Чэхіі. Школьнікам плацяць па 50 крон за кожную прачытаную кнігу, пасля чаго дзеці праходзяць тэст на сайце праекта «Чытанне дапамагае». І калі ўсе адказы правільныя, кампутар пералічвае на імя школьніка сумленна зробленыя кроны.

Праўда, грошы — віртуальныя. Аднак дзеці ўжо «начыталі» больш за 11 мільёнаў крон (амаль 4,5 мільярда беларускіх рублёў)! Выдаткаваць гэтыя грошы маладыя чытачы могуць толькі на дабрачыннасць.

Нагодай для гэтай мецэнацкай акцыі стала вывучэнне школьнай статыстыкі, якая паказала, што большасць дзяцей у Чэхіі выдатна ведаюць матэматыку, але пры гэтым займаюць адно з апошніх месцаў у Еўропе па чытанні кніг.

На сайце акцыі ўжо зарэгістравана 90 тысячаў чэшскіх дзяцей. Кожны з тых, хто перавёў свае сумленна «начытаныя» грошы на дабрачыннасць, атрымліваюць зваротныя лісты ад тых адрасатаў, каму яны пасылалі свае электронныя кроны. «Такім чынам дзеці бачаць, што іх чытанне сапраўды дапамагае не толькі асабістаму духоўнаму развіццю, але і прыносіць матэрыяльную дапамогу», — адзначае аўтар праекта Марцін Раман.

# ВЕРШЫ Ў ТРАЛЕЙБУСАХ

З 1 чэрвеня пасажыры мурманскіх тралейбусаў (Расія) будуць слухаць вершы, расказаныя школьнікамі. Незвычайная акцыя была прымеркавана да Дня абароны дзяцей.

Праслухаць запісы вершаў, якія дэкламуюцца школьнікамі ад 7 да 10 гадоў, можна ў тралейбусах галоўных гарадскіх маршрутаў.

# ЗАЙМАЙСЯ ЧЫТАННЕМ!




У новай расійскай кампаніі сацыяльнай рэкламы «Займайся чытаннем» класікі літаратуры Пушкін, Гогаль і Талстой паўсталі ў якасці спартовых трэнераў. Кампанія была распрацавана рэкламным агенцтвам SLAVA па замове Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях і Саюза кнігагандляроў Расіі.

Відэаролік кампаніі (ёсць у Сеціве) збіраюцца дэманстраваць у эфіры расійскіх федэральных тэлеканалаў, а рэкламныя постары плануюць размяшчаць па ўсёй Маскве.

У музычным кліпе, запісаным для кампаніі, гучыць музыка групы «Вітаміны» пры ўдзеле маладога рэпера Fike. Кліп адрасаваны найперш юнакам, бо, па словах дырэктара праекта Дзяніса Лапшынава, «у іх праблем з чытаннем больш, чым у дзяўчат». Менавіта таму ў кліпе гучыць фраза «Будзь мужчынам».

На рэкламных постарах, распрацаваных для кампаніі, Аляксандр Пушкін у спартовым касцюме з эмблемай дуэльных пісталетаў і са свістком у роце заклікае моладзь: «Пачынаць з невялікіх тэкстаў, паступова павялічваючы нагрузку».

Антон Чэхаў у касцюме з эмблемай чайкі і секундамерам у руцэ абяцае: «Тры падыходы па сем старонак штодня, і вынік будзе заўважаны праз тыдзень».

«Спартыўны» Леў Талстой заклікае: «Не здавайся, на 500-й старонцы адкрыецца другое дыханне».

# «ЛЕНІНГРАДСКІ АРХІЎ» БРОДСКАГА

У будынку Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (РНБ) адкрылася выстава «Ленінградскі архіў Іосіфа Бродскага (1958-1972)». Экспазіцыя прымеркаваная да 40-годдзя з моманту вымушанага ад'езда паэта з СССР.

У РНБ дэманструюцца матэрыялы з асабістага архіва, які са згоды паэта паступіў у бібліятэку ў 1990-х гадах. На выставе прадстаўлены дакументы, частку з якіх раней не бачылі нават даследчыкі. Грамадству дэманструюцца рукапісы, пераклады, фатаграфіі, дзіцячыя сшыткі і дзённікі Бродскага. У адной са школьных характарыстык будучага паэта, напрыклад, гаворыцца: «Хлопчык добра малюе, шмат чытае, выканаўчы». На выставе ёсць і лісты, напісаныя Бродскім яшчэ ў дзяцінстве.

Асобная частка экспазіцыі адведзена пад нататнікі з чарнавікамі і чыставікамі вершаў. Каля 90 працэнтаў зместу сшыткаў дагэтуль не апублікавана. Душапрыказчыца паэта Эн Шэлберг распавяла, што Іосіф Бродскі не любіў свае раннія вершы, таму і яна выступае супраць іх выдання.

У фондзе РНБ таксама захоўваюцца каля двух дзясяткаў скрынак з асабістымі лістамі і дзённікамі паэта, якія ён папрасіў не публікаваць на працягу 50 гадоў пасля яго смерці.

Уваход на выставу ажыццяўляецца па запісе. Бібліятэка арганізавала выставу пры ўдзеле Фонда стварэння Музея Іосіфа Бродскага, а таксама Музея Ганны Ахматавай.

## ПРЭМІІ

# АСТРЫД ЛІНДГРЭН...

**Сёлета Міжнародная літаратурная прэмія Астрыд Ліндгрэн прысуджана пісьменніку з Нідэрландаў Гуусу Куйеру (Guus Kuijer).**

Ён нарадзіўся ў 1942 годзе і сваю першую кнігу як дзіцячы пісьменнік апублікаваў у 1975-м. Творы Куйера перакладзены на многія мовы, сярод якіх шведская, нямецкая, японская, італьянская і ангельская.

Міжнародная літаратурная прэмія памяці Астрыд Ліндгрэн была заснавана шведскім урадам у 2002 годзе пасля смерці вядомай пісьменніцы дзеля таго, каб садзейнічаць развіццю дзіцячай і юнацкай літаратуры. Сума грашовай узнагароды складае 5 мільёнаў шведскіх крон (500 тысяч еўра). Цырымонія ўручэння прэміі адбылася 28 траўня ў Стакгольме.

# МАКСІМА ГОРКАГА...

**На Капры былі абвешчаны лаўрэаты Літаратурнай прэміі імя Максіма Горкага.**

Штогод гэтая прэмія ўручаецца італьянскім і расійскім перакладчыкам і пісьменнікам. Сёлета ў намінацыі «Перакладчыкі» пераможцам стала Ірына Заслаўская, якая зрабіла пераклад рамана П'ера Паола Пазаліні «Шпана», а ў намінацыі «Пісьменнікі» — Вольга Слаўнікава за раман «Несмяротны».

Міжнароднае журы ўзначальвалі Віктар Ерафееў і Джавані Больола.

На думку Больола, раман Вольгі Слаўнікавай паказвае з дапамогай гратэску кантраснасць савецкага мінулага і постсавецкай рэчаіснасці.

# ВІКТАРА АСТАФ'ЕВА...

**Названы лаўрэаты Літаратурнай прэміі Фонда імя Віктара Астаф'ева.**

У намінацыі «Паэзія» ім стаў Ігар Кузняцоў (г. Кемерава) за дынамізм і экспансіўнасць паэтычнай падборкі «Гульня на хуткасць». У намінацыі «Проза» — Андрэй Белазераў (г. Абакан) за ўдумлівасць і грунтоўнасць аповесці «Людзі да запатрабавання». У намінацыі «Ранні дэбют» — Даніїл Лебедзеў (г. Новасібірск) за свежасць погляду паэтычнай падборкі «У карабельным бары».

Журы конкурса склалі лаўрэаты прэміі мінулых гадоў, каардынатарам выступіў эксперт Фонда Астаф'ева паэт Антон Нячаеў. У конкурсе ўдзельнічала больш за паўтары тысячы тэкстаў аўтараў з усіх расійскіх рэгіёнаў, а таксама краінаў блізкага і далёкага замежжа.

Літаратурная прэмія заснавана дабрачынным Фондам імя В. П. Астаф'ева (г. Краснаярск) з мэтай увекавечвання памяці вядомага рускага пісьменніка, а таксама для сцвярджэння тых літаратурных традыцый, якія ён развіваў на працягу ўсяго свайго творчага жыцця.

Прэмія ўручаецца рэгулярна па выніках каляндарнага года на аснове конкурсу, задача якога — выяўленне і падтрымка найбольш таленавітых маладых пісьменнікаў. Удзел у конкурсе можа прыняць літаратар не старэй 40 гадоў.

# НАЙЛЕПШЫ БРЫТАНСКІ ГУМАР

**Брытанскі пісьменнік-фантаст Тэры Пратчэтт атрымаў прэмію імя Вудхаўза, якая ўручаецца за лепшы гумарыстычны твор, напісаны аўтарам з Вялікабрытаніі. Як паведаміла «The Guardian», журы ўручыла прэмію Пратчэтту за яго раман «Разбурэнне» («Snuff»).**

Гэты раман стаў 39-м у серыі, прысвечанай Плоскаму свету (дзеянне разгортваецца на планеце, якая мае форму дыска). Галоўны герой Пратчэтта, паліцэйскі Сэм Вайс, з'язджае за горад адпачыць, але там адбываецца забойства...

Менавіта цыкл пра Плоскі свет прынёс Пратчэтту вядомасць. Кнігі з гэтай серыі разышліся накладам каля 50 мільёнаў асобнікаў. Тэры Пратчэтт з'яўляецца рыцарам ордэна Брытанскай імперыі.

Прэмія імя Вудхаўза ўручаецца з 2000 года. У 2010-м, напрыклад, яе атрымаў брытанскі пісьменнік, лаўрэат «Букера», Іэн Макьюэн. Прэміяй Вудхаўза адзначылі яго твор «Сонечны».

# ЛІТАРАТУРНЫ «ORANGE»

**Брытанская прэмія «Orange» за лепшы раман на ангельскай мове, напісаны жанчынай, у 2012 годзе была ўручана Мадлен Мілер (Madeline Miller). На сайце прэміі паведамляецца, што журы адзначыла яе дэбютны раман «Песня Ахіла».**




Раман распавядае пра адносіны Патрокла і Ахіла, прычым, як адзначыла BBC News, у творы ёсць гомасэксуальны падтэкст. Журы адзначыла, што Мілер — арыгінальны, вынаходлівы і жыццесцвярджальны аўтар. Па словах старшыні журы Джааны Тролап, Гамер мог бы ганарыцца Мілер.

Мадлен Мілер стала чацвёртай амерыканкай, якая атрымала прэмію «Orange».

Лаўрэат прэміі, якая ўручалася ўжо 17 разоў, атрымае грашовы прыз у памеры каля 50 тысячаў даляраў ЗША.

# НОС: «РАСІЙСКІ НОН-ФІКШН XX СТАГОДДЗЯ»

**У Тэатры Нацый была ўручана прэмія НОС. Гэта не рэгулярная прэмія: год назад НОС уручаў прэмію па расійскай прозе 1973 года.**

Многія мастацкія тэксты не ўкладваюцца ў разрад белетрыстыкі («мастацкай прозы»). У лонг-лісце, сярод іншых, былі тэксты Святланы Алексіевіч, Юрыя Алешы, Іосіфа Бродскага, Івана Буніна, Зінаіды Гіпіус, Міхаіла Зошчанкі, Уладзіміра Набокава, Канстанціна Паустоўскага, Аляксандра Салжаніцына, Даніїла Хармса, Лідзіі Чукоўскай, Валерыя Шаламава, Віктара Шклоўскага.

«Перамагла» Л. Я. Гінзбург.

Нон-фікшн — занадта агульнае паняцце, да таго ж, паводле выказванняў членаў журы конкурса, высветлілася, што яны схільныя лічыць, што галоўнае — не ў мастацкім фармаце, а ў выкладзе асабістых гісторый, сведчанняў часу, сацыяльнай сітуацыі...

# РАСІЙСКІ «НАЦБЭСТ»

**Лаўрэатам расійскай прэміі «Нацыянальны бэстсэлер» у 2012 годзе стаў Аляксандр Церахаў.**

Як паведаміла «РІА Навіны», пісьменнік атрымаў прэмію ў памеры 250 тысячаў расійскіх рублёў за раман «Немцы», які распавядае пра жыццё сталічных чыноўнікаў.

Сам А. Церахаў на цырымоніі ўручэння прэміі (адбывалася ў Санкт-Пецярбурзе) не прысутнічаў, бо знаходзіўся на кніжным кірмашы ў Нью-Ёрку. Узнагароду за пераможцу атрымаў пісьменнік Леанід Юзэфовіч.

За раман «Немцы» аддалі свае галасы чацвёра з шасці членаў журы. Яшчэ па адным галасе атрымалі кнігі Ганны Старобінец і Сяргея Носава.

Штогадовая расійская прэмія «Нацыянальны бэстсэлер» упершыню была ўручана ў 2001 годзе. Летась лаўрэатам «Нацбэста» быў Дмітрый Быкаў.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў novostiliteratury.ru, «Інтэрфакс-Расія», bigbook.ru, litmuseyon.ru, «The Guardian», lenta.ru, polit.ru і lit-bel.org.**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 6 ліпеня, пятніца

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Расія- Украіна). 1-я серыя.
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Журналісцкае расследаванне. «Паміж небам і зямлёй».
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна).
**12.10** Серыял «Маргоша».
**14.00** Драматычны серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША). 2-я серыя.
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Камандзіроўка.
**21.55** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Расія - Украіна). 1-я серыя.
**23.00** Ток-шоў «Не толькі жанчына ведае».
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Містычны трылер «Ззянне» (ЗША).

### АНТ

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Праграма «Дэтэктар хлусні».
**12.10** Шматсерыйны фільм «Жаночы доктар».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Фабрыка зорак. Расія-Украіна». Фінал.
**22.45** Прэм'ера. Фільм «Без мужчын».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**09.00** Фільм «Шчыт Айчыны» (Беларусь, 2007 г.).
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «На спіне ў чорнага ката» (Беларусь, 2008 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.50** «Еўрапейскі покерны тур».
**00.35** «Пантэра». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футболу.
**09.45** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**10.45** Ясі і худзей.
**11.25** Школа рамонту.
**12.35** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.10** Страсці па культуры.
**13.50** Дакументальны фільм «Янка Купала».
**14.20** Народная драма «Раскіданае гняздо» («Беларусьфільм»).
**15.50** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**16.40** Жансавет.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Драматычны серыял «Вар'яты-3» .
**18.55** Камедыя «Бітва Мэры Кэй» (ЗША - Канада).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.20** Прэм'ера. Трылер «Лофт» (Бельгія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Тэлесерыял «Пончык Люся».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** «Крывое люстэрка».
**22.20** Фільм «Альпініст» (2008 г.).
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** Фільм «Заселеная выспа» (2009 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Таямнічая Расія».
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вочная стаўка.
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Прафесія-рэпарцёр.
**18.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзалы-3».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «НС - Надзвычайная сітуацыя».
**23.05** Прэм'ера. «Ахтунг, русіш!».
**00.05** Дэтэктыўны трылер «Гульні патрыётаў».

### EUROSPORT

**09.30** Спартовы шлях. Часопіс.
**09.35** Снукер 6-Reds. Чэмпіянат свету. Тайланд. 1/4 фіналу.
**11.00** Снукер 6-Reds. Чэмпіянат свету. Тайланд. 1/2 фіналу.
**13.00** Весь дык так!!!
**13.30** Фітнэс. Часопіс.
**13.45** Разам у Лондан. Алімпійскі часопіс.
**14.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 5.
**15.00, 01.30** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 6.
**18.30** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 19 гадоў. Францыя - Харватыя.
**20.00** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 19 гадоў. Партугалія - Іспанія.
**22.00** Бокс. Bigger's better. Баі ў цяжкай вазе.
**00.00** Аўтаспорт. Ралі IRC. Сан-Марына. Дзень 1.
**00.30** Самыя моцныя людзі планеты. Сербія.
**02.30** Тэхнічны перапынак.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 5 серыя.
**08.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.40** «Час гонару», серыял: 20 серыя.
**09.30** «Тэра постсаветыка. Расія пасля выбараў», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.10** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.35** «Ілля Сін – граем Сіна», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**10.55** Паляванне на дзівосы.
**11.15** «Дэфект», тэлесерыял: 5 серыя.
**12.10** «Днюка», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**12.55** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 5 серыя.
**13.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.00** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 1 серыя.
**14.50** «Тэра постсаветыка. Расія пасля выбараў», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**15.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавўчая праграма).
**15.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.55** «Ілля Сін – граем Сіна», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**16.15** Паляванне на дзівосы (спазнавальчая праграма).
**16.35** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 3.
**17.10** «Кароль-вінароб», серыял: 3 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 5 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Людзі старой веры», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавўчая праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах.
**20.35** «Апантаныя», дак. цыкл.
**20.45** Гарадзенская вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Кіпіць Няміга», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**22.00** «Два Месяцы», маст. фільм, 1993 г., Польшча.
**00.15** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**00.35** Аб'ектыў.
**01.00** «Дэтэрмінатар», серыял: 4 серыя.
**01.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 7 ліпеня, субота

### Беларусь 1

**06.50** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.50** Слова мітрапаліта Філарэта.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.10** Камедыя «За запалкамі» (СССР-Фінляндыя).
**14.05** Мультфільм.
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Сямейная меладрама «Мужыкі» (СССР).
**17.20** Тэлефільм АТН з цыклу «Зямля беларуская».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Камедыйная меладрама «Каханы па найманні» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**22.50** Дзень спорту.
**23.00** Крымінальны баявік «Саўдзельнік» (ЗША).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.10** «Смешарыкі. ПІН-код».
**11.40** Фільм «Кватарантка».
**13.25** «Цені знікаюць апоўдні». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Зорка» на гадзіну».
**17.20** «Вяпрук» Шматсерыйны фільм.
**19.25** АНТ прадстаўляе: «Абмен жонкамі».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Жорсткія гульні». Новы сезон.

### СТВ

**06.30** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.20** «Далёкія сваякі».
**07.45** «Салдаты-14». Серыял.
**09.20** «Я - вандроўца».
**09.45** «Чыстая праца».
**10.35** «Мінск і мінчане».
**11.10** Фільм «На спіне ў чорнага ката» (Беларусь, 2008 г.).
**12.50** «Прыгоды дылетанта».
**13.25** Фільм «Цешча» (СССР, 1973 г.).
**14.45** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Гучная справа».
**17.35** Фільм «Наш чалавек у Сан-Рэма» (СССР, 1990 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Белыя росы» (СССР, 1983 г.).
**21.50** «Зорны рынг». Лепшае.
**22.50** «Пантэра». Серыял. Заключныя серыі.

### Беларусь 2

**08.05** Дабравест.
**08.30** Мір вашай хаце.
**08.40** Камедыя «Паўлінка» («Беларусьфільм»).
**10.05** Пра мастацтва.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.20** Школа рамонту.
**12.25** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.30** Наперад у мінулае.
**14.05** Беларуская кухня.
**14.40** Анімацыйны фільм «Дзікая сямейка Торнберы» (ЗША).
**16.25** «Футбол. Чэмпіянат свету-2014».
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. «Шахцёр» - БАТЭ. Прамая трансляцыя.
**18.55** Славянскі базар.
**19.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.10** Дэтэктыўны трылер «І прыйшоў павук» (ЗША - Германія - Канада).
**00.00** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ

**07.00** «Крывое люстэрка».
**08.40** Фільм «Альпініст». 2008 г.
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** Фільм «Варажба на барановаі лапатцы».
**13.30** «У свеце жывёл».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў».
**14.50** «Канферансье на ўсе часы».
**15.50** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.20** Фільм «Доўгая дарога да сабе».
**18.00** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Цёмныя воды» (2011 г.).
**00.00** Фільм «Паўночнае ззянне» (2001 г.).

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** Выратавальнікі.
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны паядынак.
**11.55** Кватэрнае пытанне.
**13.00** Сёння.
**13.30** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».
**15.10** «Развод па-руску».
**16.00** «Пракурорская праверка».
**17.05** Вочная стаўка.
**18.00** «Увага, вышук!».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** «Самыя гучныя рускія сенсацыі».
**22.00** Ты не паверыш!
**22.50** Прэм'ера. Вострасюжэтны фільм з цыклу «Важняк».
**00.30** Серыял «Гадзіна Волкава».

### EUROSPORT

**09.30** Фітнэс. Часопіс.
**09.45** Аўтаспорт. Ралі IRC. Сан-Марына. Дзень 1.
**10.15** Снукер 6-Reds. Чэмпіянат свету. Тайланд. 1/2 фіналу.
**12.15** Футбол. Чэмпіянат Еўропы да 19 гадоў. Партугалія - Іспанія.
**13.45** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 6.
**15.00** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 7.
**18.30** Весь дык так!!!
**19.00** Плаванне. Парыж. Дзень 2.
**21.00** Байцоўскі клуб. Татальны накаўт.
**22.00** Баявыя мастацтвы. Румынія.
**23.50** Карціна дня. Часопіс.
**23.55** Спартовы шлях. Часопіс.
**00.00** Аўтаспорт. Ралі IRC. Сан-Марына. Дзень 1.
**00.30** Аўтаспорт. Ралі Шаўковы шлях. Этап 1.
**00.45** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 7.
**02.00** Плаванне. Парыж. Дзень 2.
**03.00** Тэхнічны перапынак.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.50** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 9 серыя.
**08.15** «Мой родны горад», серыял: 9 серыя.
**08.40** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**09.00** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.20** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 5 серыя.
**10.50** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 5 серыя.
**11.40** Англійская для дзяцей.
**11.45** Казкі для дзетак.
**12.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 9 серыя.
**12.35** Беларускія лёсы: «Людзі старой веры», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**13.00** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**13.25** «Дэтэрмінатар», серыял: 4 серыя.
**14.10** «Кіпіць Няміга», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**14.45** «Два Месяцы», маст. фільм, 1993 г., Польшча.
**17.00** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 2 серыя.
**17.45** Гарадзенская вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Дэфект», тэлесерыял: 5 серыя.
**19.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.40** Побач з намі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Браты-ворагі», дак. серыял: 4 серыя.
**21.45** Суботні сеанс: «Прынцэсы», маст. фільм, 2005 г., Іспанія.
**23.40** Аб'ектыў.
**23.55** «Арол: крымінальная сага», серыял: 9 серыя.
**00.55** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 8 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Існасць.
**07.20** Камедыя «За запалкамі».
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН з цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія). .
**10.55** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**11.25** Мультфільм «Рыкі-Цікі-Таві». .
**12.10** Медычныя таямніцы.
**13.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.05** Час Саюза.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Мультфільм.
**16.00** Камедыя «Ты - мне, я - табе» (СССР).
**17.40** Каробка перадач.
**18.15** Суперлато.
**19.05** Рамантычная камедыя «Добры дзень Вам!» (Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** «Александрыя збірае сяброў». Свята «Купалле».
**00.55** «Адвечная песня-2».

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** Прэм'ера. «Карэн Шахназараў. Жыццё кароткае!».
**12.45** Фільм «Кур'ер».
**14.20** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Жаночыя мары пра далёкія краіны». Шматсерыйны фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** Святочны канцэрт.
**23.05** «Yesterday live».
**00.00** «На ўсё дзеля кахання».

### ТВ

**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік» прадстаўляе: самае смешнае.
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** Фільм «Белыя росы» (СССР, 1983 г.).
**12.40** «Дарагая перадача».
**13.05** «Добры дзень, доктар».
**13.40** Фільм «Давай пажэнімся» (СССР, 1982 г.).



**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Ваўкі» (Беларусь, 2009 г.).
**22.40** «Пякельная кухня». Працяг.
**23.55** Фільм «Інсайт» (Беларусь, 2009 г.).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.15** Размова са святаром.
**07.25** Прыступкі Веры.
**07.40** Таямніца душы.
**08.05** Лірычная камедыя «Звычайны цуд» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**10.45** Тэлебарометр.
**10.55** Школа рамонту.
**12.00** Вышэй за дах.
**12.35** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.45** Бухта капітанаў.
**14.25** Мультфільм.
**16.10** «Футбол. Чэмпіянат свету-2014».
**16.40** Лірычная камедыя «Звычайны цуд» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.10** Камедыйны баявік «Смокінг» (ЗША).
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Спорт-кадр.
**22.25** Біяграфічная меладрама «Несмяротная ўмілаваная» (Вялікабрытанія - ЗША).
**00.25** Шоў «Суперінтуіцыя».

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Уся Расія».
**07.15** Мультфільмы.
**07.50** Фільм «Цёмныя воды» (2011 г.).
**11.00** Весткі.
**11.15** «Сам сабе рэжысёр».
**12.00** «Смехапанарама».
**12.30** Фільм «Сяброўка мая».
**14.00** Весткі.
**14.15** «У агнядышнай лаве кахання. Святлана Святлічная».
**15.15** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.50** Фільм «Аднойчы дваццаць гадоў пасля».
**17.25** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**19.15** «Рассмяшы коміка».
**20.00** Весткі тыдня.
**21.05** Фільм «Лясун. Працяг гісторыі» (2010 г.).

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**08.50** Іх норавы.
**09.25** Ямо дома!
**10.00** Сёння.
**10.15** «Жаночы погляд».
**11.05** Дачны адказ.
**12.10** «Крамлёўскія пахаванні».
**13.00** Сёння.
**13.30** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».
**15.10** «Развод па-руску».
**16.00** «Пракурорская праверка».
**17.05** І зноў добры дзень!
**18.00** «Бывае ж такое!».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** Чыстасардэчнае прызнанне.
**21.45** «Таемны шоў-бізнэс».
**22.45** Прэм'ера. Вострасюжэтны фільм з цыклу «Важняк».
**00.25** Фільм «Нячысцік».

### EUROSPORT

**09.30, 11.45** Вось дык так!!!
**09.45** Аўтаспорт. Ралі Шаўковы шлях. Этап 1.
**10.00** Аўтаспорт. Серыя GP3. Заезд 1.
**10.30** Аўтаспорт. Серыя GP3. Заезд 2.
**11.00, 13.30** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 7.
**12.45** Аўтаспорт. Суперкубак Паршэ.
**14.00, 00.30** Веласпорт. Тур дэ Франс. Этап 8.
**18.30, 01.30** Снукер 6-Reds. Чэмпіянат свету. Тайланд. Фінал.
**20.30** Бокс. Bigger's better. Баі ў цяжкай вазе.
**22.00** Бокс. Матч за тытул IBF у другой сярэдняй вазе.
**23.55** Карціна дня. Часопіс.
**00.00, 02.15** Матаспартыўны часопіс.
**00.15** Аўтаспорт. Ралі Шаўковы шлях. Этап 2.
**02.30** Тэхнічны перапынак.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак.
**07.45** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 10 серыя.
**08.15** «Мой родны горад», серыял: 10 серыя.
**08.40** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.50** Побач з намі.
**09.10** «Дэфект», тэлесерыял: 5 серыя.
**10.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 2 серыя.
**11.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.45** Англійская для дзяцей.
**11.50** Казкі для дзетак.
**12.15** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 10 серыя.
**12.45** «Арол: крымінальная сага», серыял: 9 серыя.
**13.45** «Браты-ворагі», дак. серыял: 4 серыя.
**14.15** Аўтастопам праз Еўропу.
**14.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**14.45** «Прынцэсы», маст. фільм, 2005 г., Іспанія.
**16.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.45** Форум (ток-шоў).
**17.35** «CIA: таемныя войны», 2008 г., Францыя: фільм 2, «Страчаныя ілюзіі».
**18.15** «Каралева Бона», тэлесерыял: 5 серыя.
**19.20** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**19.50** Англійская для дзяцей.
**19.55** Калыханка для самых маленькіх.
**20.05** «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 2 серыя, «Марцін Лютэр Кінг. Смерць у Мэмфісе».
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Дабранач», маст. фільм, 2007 г., ЗША.
**23.40** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.20** «Арол: крымінальная сага», серыял: 10 серыя.
**01.15** «Бульбаны», мультсерыял.

ЕЎРА–2012

# ПА ТОЙ БОК СТАДЫЁНУ

Алег НОВІКАЎ

**Як і трэба было чакаць, палітыкі не змаглі абыйсці ўвагай такую значную для грамадства падзею, як чэмпіянат Еўропы. Прапануем падборку самых арыгінальных спроб стрыгчы купоны на футболе.**




Напярэдадні турніру маладзевае і вельмі радыкальнае крыло партыі Зялёных пачало кампанію «Патрыятызм? Дзякуй, не трэба». Яе аўтары заклікалі немцаў не быць ахвярамі патрыятычнага ўгару, звязанага з выступамі нямецкай зборнай па футболу. На думку Зялёных, вулічны тлум фанатаў, захопленых выступамі нямецкай зборнай, — не што іншае, як напады пагромшчыкаў Трэцяга Рэйху. Маладыя Зялёныя заклікалі як мінімум не выкарыстоўваць дзяржаўныя сцягі. Такі падыход выклікаў рашучы пратэст кансерватараў, у тым ліку дэпутатаў Бундэстага. Супраць маладых радыкалаў выступілі і дарослыя Зялёныя. Яны заклікалі маладняк разумець розніцу паміж футбольным патрыятызмам і нацыяналізмам. Таксама яны нагадалі, што цяперашні чорна-чырвона-жоўты афіцыйны сцяг Германіі быў забаронены ў часы нацыстаў.

* * *

Расійскае інтэрнэт-выданне «Однако» вядомага каментатара-пуцініста Міхаіла Лявонцьева зрабіла глабальныя высновы з эпізоду матчу Украіна—Англія, калі венгерскія арбітры не залічылі гол падапечных Алега Блахіна ў браму англічан. У прыватнасці, сайт піша: «Пачынаючы з 1991 года, гэта значыць з моманту абвяшчэння незалежнасці, ва Украіне не слабеюць спробы інтэграваца ў еўрапейскую супольнасць. Але ці чакаюць Украіну ў Еўропе? Лепшы адказ на яго далі ўчора венгерскія суддзі. Што з таго, што вы — гаспадары турніру? Папіналі мячык у групе — і хопіць з вас. Не халопская справа — у чвэрцьфінале гуляць. Там гуляе эліта. А вы — другі гатунак, быдла, генетычнае смецце, якое ўвойдзе ў Еўропу адразу пасля Турцыі». Далей самае нечаканае: «Гэты еўратурнір паказаў: нам неабходна арганізоўваць свой чэмпіянат, аднак не Еўропы, а Еўразіі. Для гэтага Украіна павінна ўвайсці ў Еўразійскі саюз».

* * *

Чэмпіянат раскалоў жаночую супольнасць Польшчы і Украіны. Адна фракцыя, як група ФЕМЕН, спрабуе сарваць турнір, паколькі бачыць у ім прамоцыю сэкс-паслуг. Другая, наадварот, уключылася ў рух фанатаў. Асобнае месца займае пазіцыя Агнешкі Косіняк-Камыш — жонкі польскага міністра працы. Падчас знаходжання на стадыёне яна трапіла ў аб'ектыў камер і настолькі спадабалася публіцы, што яе назвалі Міс Еўра–2012. Між тым, у Польшчы ўжо ёсць Міс Еўра–2012. Гэта Наталля Сівец, якая рэгулярна ходзіць на матчы ў сукенцы з глыбокім дэкальтэ. Цяпер жанчыны змагаюцца за тое, хто з іх сапраўдная Міс Еўра–2012, ад чаго, відавочна, будзе ўскосна залежыць рэйтынг кабінету Дональда Туска.

* * *

Генеральная пракуратура Украіны павінна распачаць крымінальную справу супраць прэзідэнта УЕФА Мішэля Плаціні, а таксама брыгады футбольных арбітраў, якія судзілі матч Украіна—Англія ў рамках Еўра–2012 і не залічылі гол, забіты ўкраінцамі. Пра гэта з трыбуны Вярхоўнай Рады заявіў дэпутат Юры Кармазін. Па меркаванні Кармазіна, дзеянні арбітраў «прынеслі значную шкоду міжнароднаму аўтарытэту Украіны». Дэпутат лічыць, што суддзі і Плаціні не залічылі гол, забіты Украінай, наўмысна, паколькі мелі карупцыйную цікавасць. Ён таксама лічыць, што, незалежна ад дзеянняў праваахоўнікаў, суддзі і прэзідэнт УЕФА павінны быць абвешчаны персонамі нонграта і не прысутнічаць на фінале Еўра–2012.

* * *

Легіёнава — горад-спадарожнік Варшавы — апошнім часам у Польшчы называлі «наша Грэцыя». Такі выраз дапамагаў лепш праілюстраваць ступень дэградацыі мясцовай эканомікі. Быццам, у адказ на падобныя шпількі, па закліку мясцовай улады, жыхары Легіёнава ў час турніру Еўра–2012 пачалі калектыўна балець за зборную Грэцыі. Прычым рабілі гэта не проста перад экранамі тэлевізараў. Людзі ўпрыгожылі свае дамы фарбамі нацыянальнага сцягу Грэцыі, у мясцовых кафэ гатуюць грэчаскія стравы. У выніку турысты, зацікаўленыя незвычайным каларытам Легіёнава, пачалі рабіць тут прыпынак, дапамагаючы такім чынам эканамічнаму адраджэнню краю. Падобны феномен адбыўся ў Апаленіцы, што пад Познанню. Гэты 10-тысячны горад цалкам стаў на бок партугальскай зборнай. Калі ў Польшчы гаворка ідзе пра большыя культурныя кантакты, то ва Украіне справа зайшла яшчэ далей. Куратар гуманітарнай палітыкі ў адміністрацыі прэзідэнта Ганна Герман наступным чынам бачыць пазітыў ад футболу: «Вы гэта ўбачыце. Завяжуцца кантакты, шмат украінскіх дзяўчат выйдуць замуж за еўрапейцаў, хлопцы ажэняцца з еўрапейскімі дзяўчатамі. Адбудзецца такое добрае змешванне ўкраінскай крыві з еўрапейскай. Гэта таксама дасць карысць».

* * *

Незвычайныя наступствы мела кампанія па дэманізацыі Данбасу, якую праводзяць украінскія аранжавыя. Данбас у матэрыялах падаецца як рэгіён крыміналу і люмпенаў, з асяроддзя якіх і з'явіўся цяперашні прэзідэнт Віктар Януковіч. У такім брутальным выглядзе Данбас пачалі падаваць і заходнія СМІ. Магчыма, таму вялікую папулярнасць маюць зараз сярод турыстаў ва Украіне майкі з англамоўным надпісам: «Я нічога не баюся. Я быў у Данецку». Колькасць прададзеных маек ужо перайшла за 10 тысяч. Сярод іншых папулярных сувеніраў — бюсты Сталіна, што не вельмі падабаецца нацыяналістам. «Бюст Сталіна на памяць пра краіну, дзе ён забіў мільёны? Гэта здзек!» — піша адзін з іх. «Як вядома, Сталін прызнаны ўкраінскім судом вінаватым у генацыдзе ўкраінцаў — арганізацыі Галадамору 1932–1933 гадоў. Тым не менш, вытворца сувенірнай прадукцыі Вісарыёнавічаў — украінскі». Аднак самы незвычайны сувенір з Еўра–2012 прывязуць некалькі шведскіх фанатаў. Яны так напіліся таннай украінскай гарэлкі, што іх забрала хуткая, і пасля вяртання турыстаў у прытомнасць выдала ім даведку аб алкагольнай інтаксікацыі, як смяецца прэса, — сувенір на ўсё жыццё. Вяртаючыся да аранжавых. Апазіцыя ўсё ж таксама атрымала нейкі бонус ад Еўра–2012. 5-тысячны марш прыхільнікаў зборнай Швецыі па цэнтры Кіева шмат хто з далёкіх ад спорту абывацеляў успрыняў як маніфестацыю апазіцыі. Справа ў тым, што нацыянальныя фарбы Швецыі — жоўта-блакітныя, як і фарбы ўкраінскага сцяга, якія часта можна бачыць на акцыях праціўнікаў Януковіча.



* * *

Цікава ставяцца да Еўра–2012 лідары розных канфесій. Так, патрыярх Філарэт — лідар Украінскай Праваслаўнай Царквы (Кіеўскі патрыярхат) — папярэдзіў фанатаў, што яны ўпадаюць у грахоўны стан, паколькі паддаюцца псіхозу і не могуць валодаць сабою. А вось польскі кансерватыўны партал Polonia Christiana, наадварот, прысвяціў вялікі артыкул футбалістам, якія носяць крыжыкі. Сярод іх, дарэчы, героі польскай футбольнай зборнай Роберт Левандоўскі і Якуб Блашчыкоўскі. На думку аўтара матэрыялу, тыя, хто не саромецца Хрыста, атрымліваюць ад яго дапамогу. Напрыклад, аўтар звярнуў увагу на тое, што перад тым, як грэкі няўдала прабілі штрафны ўдар палякам, запасны варатар шчыра маліўся за варотамі. А вось галандскія пратэстанты, назіраючы за рытуальнай экспрэсіяй балельшчыкаў, баяцца, што футбол пачаў замяняць людзям рэлігію. Яны нават узгадалі, што ў антычнай Грэцыі малітвы паганскім багам таксама адбываліся на стадыёнах.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Прэм'ер Мядзведзеў прапанаваў, каб Расія, Беларусь і Казахстан перайшлі на адзіную валюту. У той жа дзень прэзідэнт Беларусі заявіў, што да канца года сярэдняя зарплата ў Беларусі павінна зноў — як і напярэдадні крызісу — вырасці да 500 долараў. Паколькі лічыць Лукашэнку ідыётам, не здольным вынесці простых урокаў з нядаўніх падзей, не даводзіцца, то прыходзіш да высновы, што адначасовасць заяў не выпадковая і на выхадзе сярэдняй зарплаты ў Беларусі на крызісны ўзровень у 500 долараў яна павінна перайсці на расійскі рубель».

**«Финансовая газета» (Расія)**

Лукашэнка ніколі не хацеў стварэння партыйнай сістэмы. Нават лаяльнаму праекту «Белая Русь» не дазваляюць пакуль ператварыцца ў партыю ўлады. Гэта сведчыць пра тое, як працуе яго сістэма. Ён асцерагаецца стварэння нават магчымасці зліцця бюракратычных інтарэсаў і фармавання лобі для наменклатурнай прыватызацыі. «Парламенцкія выбары» патрэбныя яму толькі для падтрымання рытуалу ўдзелу, а таксама для таго, каб паказаць бяссілле сваіх апанентаў. Гэта не сапраўдны парламент і гэта не сапраўдная барацьба паміж уладай і апазіцыяй.

**«New Eastern Europe» (Польшча)**

Ёсць алігархі і ў Беларусі, хоць сітуацыя там адрозніваецца ад украінскай і беларускай. Усе яны — «людзі Лукашэнкі», паколькі ў гэтай краіне па-іншаму быць і не можа, а некаторыя эксперты і каментатары даказваюць, што галоўны беларускі алігарх — гэта сам прэзідэнт. У адрозненне ад названых краін, у невялікіх сярэднеазіяцкіх рэспубліках былога СССР магчымасцяў для фармавання сапраўдных алігархаў не было.

**«Rzeczpospolita» (Польшча)**

Уласцівасць перамоў з ім (Лукашэнкам) у тым, што «бацька» заўсёды свядома даводзіць сітуацыю да вельмі крызіснага стану, «выносіць смецце на вуліцу», а потым ужо згаджаецца на па іншаму агучаныя прапановы Масквы. У сутнасці такі ж шантаж мы бачым і ў выпадку з валютным саюзам. Для Масквы было б лягчэй абгаварыць з Лукашэнкам умовы павелічэння датацыя для беларускай эканомікі, што вельмі ёй неабходна з прычыны крызісу, спаду вытворчасці і росту коштаў. Пры гэтым лагічна было б абмеркаванне паэтапнага ўвядзення валютнага саюзу на базе Мытнага саюзу. Гэта значыць, што ў канчатковым выніку, хутчэй за ўсё, скончыцца «купляй» згоды Лукашэнкі.

**«Политком» (Украіна)**

Пра тое, якім будзе гэты аўтатандэм (МАЗ і КАМАЗ), пакуль не бяруцца меркаваць нават эксперты. Са слоў Лукашэнкі вядома толькі тое, што складзецца ён на парытэтнай аснове 50 на 50. Пры гэтым развагі беларускага прэзідэнта пра кошт пытання паказваюць на тое, што парытэт гэты будзе вельмі ўмоўным. Пра які роўны ўдзел бакоў можна казаць, калі адзін, па-сутнасці, купляе другі? Дарэчы, набыццё Расіяй «Белтрансгаза» таксама пачыналася са схемы 50 на 50. Некалькі гадоў пакут, скандалаў, цяжкіх перамоў — і цяпер труба ў поўным распараджэнні Масквы.

**«Голос России» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. ЗВАЛЬНЯЮЦЬ ЗА АДСУТНАСЦЬ ПАРТРЭТА ЯНУКОВІЧА

У Палтаўскай вобласці дырэктара школы звольнілі за адмову павесіць партрэт Януковіча. Так, прынамсі, сцвярджае цяпер ужо былы дырэктар адной з сельскіх школ Міргарадскага раёна Палтаўскай вобласці Анатоль Карбан. Па яго словах, чыноўнікі з райадміністрацыі патрабавалі, каб ён павесіў партрэт Януковіча ў школе. Настаўнік ім тлумачыў, што, паводле Канстытуцыі, партрэт прэзідэнта не належыць да сімвалаў дзяржавы. З гэтага ўсё і пачалося. У выніку найшлі зачэпку — маўляў, тэмпература ў класах увосень знізілася да 10–12 градусаў цяпла. Хаця менавіта з гэтай нагоды дырэктар сам неаднаразова звяртаўся ў адміністрацыю раёна і прасіў не адключаць ацяпленне. Тым не менш, 29 мая адбылося пасяджэнне выканкама сяла, які пастанавіў разарваць з Карбанам працоўны кантракт. Між тым, самі ўлады прызнаюць, што прычына фармальная. Папросту наяўнасць партрэта гаранта — гэта індыкатар таго, што школьны дырэктар — сапраўдны гаспадар. У іншым выпадку атрымліваецца, што ў яго нават грошай на партрэт няма.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. ЗАРЭГІСТРАВАНА ПЕРШАЯ ПАРТЫЯ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ

Цэнз Мініюста Расійскай Федэрацыі прайшоў «Расійскі агульнанародны саюз» Сяргея Бабурына. Да 2007 года ён называўся «Народный воляй». На выбарах 2003 года партыя ў складзе блока «Родина» прайшла ў Дзярждуму, а Бабурын нават стаў намеснікам старшыні парламента. У выбарах 2007 года партыя не змагла ўдзельнічаць — ЦВК адмовілася зарэгістраваць яе кандыдатаў. Пасля гэтага партыя, фактычна, спыніла існаванне. У 2011 годзе партыя Бабурына была рэанімаваная. Сваёй галоўнай мэтай арганізацыя лічыць «аднаўленне трывалага дзяржаўнага саюза трох славянскіх дзяржаў-рэспублік былога СССР — Расійскай Федэрацыі, Беларусі і Украіны, з яснай перспектывай далейшага перарастання дадзенага аб'яднання ў адзіную славянскую дзяржаву — Расійскі Саюз». Палітолагі мяркуюць, што ў гэтай арганізацыі няма палітычных перспектыў, а рэгістрацыя пройдзена паспяхова толькі з-за былога статусу Бабурына. Адначасова з рэгістрацыяй «Расійскага агульнанароднага саюза» было адмоўлена ў рэгістрацыі шматлікім іншым нацыяналістычным партыям.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. ПАМЁР ГЕРОЙ ЧОРНАЙ РАСЫ



У ЗША ва ўзросце 47 гадоў памёр Родні Кінг — чарнаскуры жыхар Лос-Анжэлеса, якога 3 сакавіка 1993 года на вуліцы брутальна збілі белыя паліцэйскія. Пасля збіцця лекарам спатрэбілася 5-гадзінная аперацыі, каб выратаваць Родні ад смерці. Нейкі мінак зняў сцэну збіцця на відэа. Магчыма, тая стужка ніколі не з'явілася б у СМІ, калі б яго самога не абвінавацілі ў збіцці Кінга. Абураны сведка гвалту пераслаў стужку ў СМІ. І пачалося. Кадры збіцця Родні выклікалі самы вялікі гарадскі бунт у гісторыі Злучаных Штатаў. У выніку было забіта 53 асобы, паранена больш за 2 тысячы, 3 тысячы крамаў былі абрабаваныя. У Лос-Анжэлес давялося ўвесці нацыянальную гвардыю. У выніку двух з чатырох паліцэйскіх, якія збівалі Кінга, асудзілі. Застаецца дадаць, што сам Кінг стаў героем чорнай расы і жыў са шматлікіх інтэрв'ю. Апошнія гады жыцця ён правёў у спажыванні алкаголю і наркотыкаў. Дарэчы, Кінг памёр у басейне. Паліцыя пакуль не каментуе версіі пра тое, што Родні маглі забіць.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### АБХАЗІЯ. ЗА ГРУЗІНСКУЮ СІМВОЛІКУ — ДЭПАРТАЦЫЯ!

Грузінская прэса піша пра незвычайны выпадак у Абхазіі, якую ў Тбілісі, як вядома, лічаць часткай сваёй тэрыторыі. Школьніца з нейкай вёскі падчас экскурсіі ў славуты манастыр Новы Афон намалявала грузінскі сцяг і прыпісала пад ім: «Мы вернемся!». Учынак дзяўчынкі так разлаваў абхазскіх службоўцаў, што яе — вучаніцу 11-га класа — выклікалі на допыт у мясцовыя праваахоўныя органы, а яе бацькоў пасадзілі пад хатні арышт. Кажуць, што сям'і школьніцы нават пагражае дэпартацыя. Па словах грузінскага боку, гэта не першы выпадак пераследу ў Абхазіі за выкарыстанне грузінскай сімволікі (абхазская служба бяспекі строга сочыць за тым, каб у самаабвешчанай рэспубліцы не выкарыстоўвалі грузінскія дзяржаўныя сімвалы), аднак да пагрозы дэпартацыі справа ніколі не даходзіла.

**Паводле грузінскай прэсы**

КІНО

# СУПЕРЗЛОДЗЕІ СУПРАЦЬ СУПЕРГЕРОЯЎ

**Алег НОВІКАЎ**

**Гэтым летам Галівуд парадуе нас новымі прыгодамі супергерояў — Чалавека-Павука і Бэтмэна. Але ж якія супергероі без суперзлодзеяў?**

Як вядома, жанр пра прыгоды супергерояў нарадзіўся ў 1938 годзе. Аўтары часопісу коміксаў «Action Comics» прыдумалі Супермэна — чалавека з планеты Крыптон, якога вырашылі паставіць на службу чалавецтву.

І толькі праз год бацькі першага супергероя зразумелі, што яму патрэбны адэкватныя праціўнікі ў выглядзе суперзлодзеяў. Канцэпт негатыўнага супергероя быў выпрацаваны дастаткова хутка. Паколькі станоўчы герой мае фантастычныя здольнасці, то антыгерой ведае, як тыя здольнасці можна нейтралізаваць. Зрабіць гэта ён можа за кошт парытэтнай фізічнай сілы або з дапамогаю свайго генію.

Першым ворагам супергероя стаў прафесар Ультра-Уманітэ (Ultra-Humanite), або папросту Ультра. Ён быў намаляваны як поўная супрацьлегласць моцнаму атлетычнаму Супермэну — маленькі і пляшывы. Фізічныя і эстэтычныя недахопы Ультра кампенсаваў мазгавой працай. Ён распрацоўваў каварныя схемы ліквідацыі Супермэна, што павінна было пракласці яму шлях да захопу ўлады над планетай. У дадатак Ультра — сацыяпат, садыст, які атрымлівае задавальненне ад забойства сваіх ахвяр.

Тэма суперзлодзея адразу прыжылася ў свеце коміксаў. Пасля Ультра ў Супермэна з'явіліся новыя ворагі. Усяго за часы існавання сагі пра Супермэна яму давялося змагацца з прыкладна дзвюма сотнямі разнастайных нягоднікаў. А яшчэ сваіх ворагаў маюць Бэтмэн, Чалавек-Павук, Капітан Амерыка.

Увогуле, культуролагі аспрэчваюць у мастакоў з «Action Comics» права называцца вынаходнікамі суперзлодзей. Элементы паводзін і ход думкі Ультра характэрныя для шматлікіх герояў мас-культуры, якія былі створаныя раней. Гэта, перш за ўсё, гэта прафесар Марыярці Артура Конан-Дойла і Фантамас, прыдуманы французскімі пісьменнікамі Марсэлем Аленам і П'ерам Сувестрам.

У народнай культуры вельмі шмат сюжэтаў супрацьстаяння герояў, якія жывуць па дыяметральных маральных прынцыпах.

Акрамя таго, за год да стварэння фігуры Ультра Галівуд падараваў гледачам фільм «The Fighting Devil Dogs», дзе фігуры The Lightning — асоба, якая марыць захапіць свет пры дапамозе электрычнай суперзброі. Дарэчы, гэты The Lightning знешне вельмі падобны на Дарта Вейдэра з «Зорных войнаў». Некаторыя кінакрытыкі нават кажуць, што рэжысёр Джордж Лукас, калі




ствараў «Зорныя войны», запазычыў вобраз Вейдэра ў аўтараў амаль забытага цяпер фільму «The Fighting Devil Dogs».

У 1940-я гады героі коміксаў пачалі станавіцца экраннымі персанажамі. Праўда, не абавязкова на стварэнне суперзлодзеяў кіношнікаў натхнялі коміксы. Так, стваральнікамі серыялу пра прыгоды Джэймса Бонда быў самастойна распрацаваны вобраз Эрнста Блофельда, кіраўніка злачыннай сеткі СПЕКТР, якая, як і трэба было чакаць, намагаецца падпарадкаваць сабе ўвесь свет. Фішкамі Блофельда сталі белая ангорская котка, якую ён увесь час трымае на руках, і шнар на твары. Блофельд аказаўся настолькі папулярным, што даў імпульс стварэнню цэлай лігі яго кінаклонаў, у тым ліку камічных. Гаворка пра Доктара Зло з трылогіі «Осцін Паўэрс».

Таксама на здымках Блофельда ў кіно быў прыдуманы прыём — для большай інтрыгі і сімвалізму не паказваць твар злодзея. Гэта часткова выкарыстоўваецца і ў серыяле пра Гары Потэра. Галоўны антаганіст героя — Валан-дэ-Морт — з'яўляецца на экране дастаткова рэдка. Часцей мы чуем яго голас. Дарэчы, Чорны лорд таксама, безумоўна, адзін з самых вядомых суперзлодзеяў нашага часу.

Аднак вернемся да Блофельда. З-за апісанага прыёму ролю гэтага суперзлодзея маглі гуляць розныя акторы. Усяго за час існавання «Бандыяны» лідара СПЕКТР увасаблялі чатыры акторы. Яшчэ ў некалькі фільмах рэжысёры абышліся ўвогуле без актораў. Кінааператар рабіў фокус на той самай ангорскай котцы, якую гладзіла нейкая рука, або на шнары. Гэтай мікрасцэны было дастаткова, каб аўдыторыя зразумела — перад намі той самы галоўны вораг агента 007.

Таксама няма ў гісторыі кіно актора, што атаясамліваецца з вобразам прафесара Марыярці, вобраз якога заўсёды запатрабаваны, дзякуючы ўсё новым і новым экранізацыям пригод вялікага дэтэктыва Шэрлака Холмса. У розныя часы ролю «мозга крымінальнага свету» (так характарызуе Марыярці Шэрлак Холмс) выконвалі розныя акторы, у тым ліку такія славутыя, як Лоўрэнс Альв'е або Рычард Роксбург. Аднак стварыць хрэстаматыйны партрэт прафесара дасюль у ніводнага актора не атрымалася. Хаця фільмаў пра супрацьстаянне Холмса і Марыярці зроблена больш за 20. Гэта без уліку серыялаў.

Доўгі час «падвешаным» на экране заставаўся і вобраз Джокера з гісторыі пра Бэтмэна. Партрэт псіхапата-інтэлектуала з садысцкім пачуццём гумару спрабавалі раскрыць шмат разоў. Аднак сапраўдны Джокер — гэта, безумоўна, Джокер у фільме «Чорны рыцар» (2008) у выкананні Хіта Леджэра.

Леджэр падаў свайго героя як псіхапата-забойцу з вельмі складанай матывацыяй, і пры гэтым надзвычай цікавай і загадкавай асобай. Аўтар рэцэнзіі ў часопісе «Entertainment Weekly» адзначаў: «Кожны вялікі герой павінен мець вялікага злодзея. І ў 2008 годзе Бэтмэн Крысціяна Бэла (выканаўца ролі Бэтмэна) знайшоў яго. Гэта, безумоўна, Джокер Хіта Леджэра». Выданне падкрэслівала, што Леджэру «ўдалося ўвесці Джокера ад вобраза бытавога псіха ў даследчыкі тэрыторыі «псіха» самога Бэтмэна». На жаль, як вядома, роля Джокера аказалася для Хіта Леджэра апошняй. Ён памёр да прэм'еры. За ролю Джокера актор пасмяротна атрымаў прэмію «Оскар». Ніколі раней Кінаакадэмія не ўшаноўвала суперзлодзея. Увогуле, дзякуючы Леджэру Джокер, па апытаннях часопіса, стаў самым папулярным у гісторыі суперзлодзеем.

Прыклад Джокера Леджэра сведчыць, што вобразы суперзлодзеяў могуць выходзіць за рамкі прымітыўных амплуа, прыдуманых калісьці ў рэдакцыі «Action Comics». Аказваецца, раскрыць матрыцу зла на экране — справа, вартая самых выдатных актораў. Так, славуты актор Энтані Хопкінс, пабачыўшы «Чорнага рыцара», прапанаваў стваральнікам Бэтмэна зняць серыю пра Чалавека-Пінгвіна, у ролі якога ён бачыць сябе. Магчыма, Хопкінса зацікавіў унутраны свет чалавека — нашчадка багатай сям'і, ад якога з-за вырадлівасці бацькі вырашылі пазбавіцца, скінуўшы калыску ў раку, дзе яго і выратоўваюць пінгвіны. Дзіця вырастае і вяртаецца ў свет людзей, каб помсціць. Роля, калі ўдумацца, сапраўды цягне на «Оскара».

А магчыма, «Оскар» чакае не выканаўцу ролі Пінгвіна, а тых, хто ўвасобіць іншых суперзлодзеяў. У коміксавай культуры, адкуль Галівуд чэрпае сюжэты, іх сапраўды мноства. Гэта Зялёны Гоблін, доктар Актопулус, Магнета і г. д. Ёсць і жанчыны-суперзлодзейкі, напрыклад, Памела Лілен, вядомая як Атрутны Плюшч, або Містык — мутантка з сіняй скурай, якая здольная пераўвасабляцца.

Ну а гэтым летам нам давядзецца пазнаёміцца з такімі нягоднікамі, як доктар Курт Конарс, які можа ператварацца ў яшчара, і Бэйнам — ахвяра эксперыменту, што надаў яму вялікую моц. Першы будзе змагацца з Чалавекам-Павуком. Ну а Бэйн не будзе даваць спакойнага жыцця Бэтмэну.

ЦІКАВА

# ЛІКВІДНАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

Алег НОВІКАЎ

**У жніўні ў Германіі адбудзецца прэзентацыя кампутарнай сістэмы «Liquid Feedback», якая можа цалкам змяніць наша ўяўленне пра мадэль дэмакратыі.**



«Liquid Feedback 2.0» — праграма, чымсьці падобная на сацыяльную сетку Facebook або «ВКонтакте». Яна павінна вырашыць галоўную праблему дэмакратычнай сістэмы — забяспечыць кожнаму грамадзяніну права прыняць непасрэдны ўдзел у вырашэнні той ці іншай праблемы.

Кожны ўладальнік акаўнта ў «Liquid Feedback 2.0» можа напісаць любую прапанову. Іншыя юзеры могуць рэагаваць на «законапраект» — падтрымаць яго або прагаласаваць супраць. Такім чынам, пісаць законы і галасаваць за іх з дапамогай гэтай тэхналогіі можа кожны з нас, не надаючы гэта права дэпутату, які часта галасуе бескантрольна. Дэпутату ў такой сістэме застаецца толькі быць мадэратам дэбатаў і пасля галасавання на форуме агучыць думку сваіх выбаршчыкаў.

Важны момант у гісторыі з «Liquid Feedback 2.0» палягае ў тым, што гэта праграма — не проста цацка для прасунутых праграмістаў. У сістэмы ёсць лобі. Гэта нямецкая Партыя піратаў, якая за апошні год правярвалася ў тры зямельных парламента і мае някепскія шансы стварыць сваю фракцыю ў Бундэстагу пасля выбараў у наступным годзе.

З самага пачатку існавання партыя марыць замяніць цяперашнюю прадстаўнічую дэмакратыю на ліквідную дэмакратыю — так яны называюць новую мадэль народнага прадстаўніцтва. Пляцоўкай для эксперыменту стала сама партыя. На цяперашні час на платформе «Liquid Feedback» спрабуюць працаваць некаторыя рэгіянальныя секцыі Партыі піратаў.

Праўда, пакуль практычны вынік эксперыменту дастаткова сціплы, пра што сведчыць статыстыка: зараз у шэрагах нямецкай Партыі піратаў 30 тысяч чалавек, аднак толькі тры з паловай тысячы зарэгістраваліся ў сетцы «Liquid Feedback».

Самі сябры Партыі піратаў кажуць, што праблема палягае ў некаторых тэхнічных момантах. Цяперашняй версіі сістэмы патрэбна шмат часу, каб зарэгістраваць новага карыстальніка. Акрамя таго, каб навучыцца ёй карыстацца, таксама патрэбны час. Адсюль вынікае неабходнасць спецыяльных курсаў. Ёсць думка і пра тое, што «Liquid Feedback» дазваляе спецслужбам лепш ідэнтыфікаваць радыкалаўапазіцыянераў.

Наяўнасць праблем прызнае і аўтар «Liquid Feedback 2.0» — Марцін Хаас — прафесар лінгвістыкі з Бамберга, нефармальны лідар Партыі піратаў. Менавіта яму два гады таму прыйшла ідэя стварэння новай версіі «Liquid Feedback». Яна павінна стаць тэхнічнай прыладай, якую можна будзе прапанаваць для дэмакратычнага прыняцця рашэнняў у межах, большых за рамкі адной партыі.

Хаця сама праграма з'явіцца толькі ў жніўні, ужо зараз хапае скептыкаў, якія лічаць «Liquid Feedback 2.0» фантомам. Каб ліквідная або базісная дэмакратыя сапраўды працавала, трэба забяспечыць усіх грамадзян кампутарамі і інтэрнэтам. На першы погляд, гэта няцяжка. Відавочна, што імклівы прагрэс у сферы камунікацыі хутка дазволіць кожнаму ўладальніку мабільнага тэлефона мець доступ да інтэрнэту. Аднак у дадатак неабходна асобная сістэма індывідуальнага пропуску на сайт для галасавання. Ініцыятары прапануюць надаваць кожнаму паўнагадоваму грамадзяніну разам з пашпартам пароль на рэсурс. Пакуль гэта гучыць вельмі экзатычна, асабліва з улікам таго, як часта ўзломваюць паролі доступу.

Прыхільнікі традыцыйнай дэмакратычнай мадэлі прыняцця рашэнняў справядліва кажуць пра праблему кворуму пры ліквіднай дэмакратыі. Наколькі цікава ўсім грамадзянам вузкая тэма, якую вымушаны разглядаць прафесійны парламент? Таму, магчыма, законапраект, які тычыцца спецыфічнай праблематыкі, з-за адсутнасці жадаючых галасаваць ніколі не атрымае патрэбнай колькасці галасоў. Дарэчы, некаторыя партыйныя рашэнні ў рэгіёнах з-за адсутнасці кворуму на «Liquid Feedback 2.0» прымаліся 1,6 працэнта галасоў сяброў партыі.

Ёсць яшчэ праблема кантролю падліку галасоў. Як вядома, у Казахстане на некаторых выбарчых участках можна галасаваць праз кампутары. Сістэма віртуальнага галасавання існуе прыкладна з 2005 года, аднак гэта ніяк не паўплывала на характар казахскіх выбараў. Больш таго, кампутарнае галасаванне зрабіла працэс галасавання яшчэ больш непразрыстым, паколькі ўсе дадзеныя адразу ідуць на цэнтральны кампутар, код доступу да якога маюць выключна лаяльныя ўладзе сябры ЦВК.

Брытанскі часопіс «Economist» правёў спецыяльнае апытанне экспертаў наконт таго, ці магчыма электроннае кіраванне грамадствам. Толькі 10 працэнтаў вераць, што такая мадэль будзе эфектыўна працаваць.

Як піша нямецкая прэса, вера ў цудадзейны софт можа аказацца бомбай для Партыі піратаў. Пакуль яна рабіла піяр галоўным чынам на пратэстах супраць спроб цэнзуры ў сеціве. Фактычна, выбух інтарэсу да пірацкага праекту ў ФРГ адбыўся на фоне скандалу вакол ваяўнічых планаў Урсулы фон дэр Лейен — міністра па справах сям'і ў папярэднім кабінеце Ангелы Меркель.

У 2009 годзе яна прапанавала блакаваць сайты, якія ўтрымліваюць кантэнт з дзіцячым порна. Шмат хто з карыстальнікаў пабачыў тут замах на свабоду ў інтэрнэце. Менавіта на хвалі кампаніі супраць «Цэнзурулы» — так юзеры празвалі фраў фон дэр Лейен — Партыя піратаў зрабіла неверагодны скачок у рэйтынгах з 0,9 працэнта два гады таму да цяперашніх 7–8. Адзін час за яе гатовыя былі галасаваць нават 13 працэнтаў нямецкага электарату.

Пасля таго, як міністры Ангелы Меркель адмовіліся ад ідэі маралізацыі інтэрнэту, тэма «Liquid Feedback 2.0» аказалася вельмі зручнай. Менавіта са спасылкай на неэфектыўнасць існуючай сістэмы прадстаўніцтва некаторыя піраты адмаўляюцца ўдзельнічаць у рознага кшталту палітычных ток-шоў або казаць нешта падчас парламенцкіх дэбатаў. Так, у пачатку чэрвеня партыя выступіла супраць прапанаванага федэральным урадам механізму фінансавай стабілізацыі (ESM) са спасылкай на кепскі софт. Быццам, адсутнасць адпаведнага софту не дазваляе партыі прымаць правільныя (прынятыя на аснове базіснай дэмакратыі) рашэнні адносна ESM.

З іншага боку, нельга разглядаць ліквідную дэмакратыю як нейкую ўтопію. Магчыма, на ўзроўні ўсяго грамадства яна не спрацуе. Аднак пад уплывам цяперашніх дэбатаў некаторыя грамадзянскія ініцыятывы перайшлі на «Liquid Feedback». Гэта ж зрабілі некаторыя дэпутаты, якім важна ведаць пазіцыю выбаршчыкаў. У любым выпадку, прагрэс у гэтым накірунку заўважны.

Магчыма, на папярэднім этапе нямецкім піратам варта пацікавіцца распрацоўкамі іспанскай левай арганізацыі «Дэмакратыя зараз». Іспанцы прапанавалі, каб у новым парламенце быў створаны інстытут віртуальнага дэпутата, які б галасаваў за той ці іншы законапраект адпаведна вынікам мікра-рэферэндуму ў інтэрнэце. Прычым яго голас будзе ўлічвацца, калі ў плебісцыце прыме ўдзел колькасць юзераў, роўная колькасці выбаршчыкаў на сярэднім выбарчым участку.

А ўвогуле, магчыма, скептычныя прагнозы наконт магчымасцяў «Liquid Feedback 2.0» робяцца занадта рана. Лепш дачакацца прэзентацыі новай платформы. Яна адбудзецца 11 жніўня.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### КАЦЯ КІПІНГ



Суstаршыня нямецкай партыі «Левыя» прапанавала свой цікавы план выхаду з крызісу. Сутнасць яго простая: усе грамадзяне ФРГ, якія атрымліваюць штомесяц больш за 40 тысяч еўра, павінны плаціць з сумы, якая перавышае ліміт, стоадсоткавы падатак з даходаў. Іншымі словамі, усё, што зарабляецца больш за тых 40 тысяч, пойдзе ў казну. Па словах Кіпінг, нават самаму капрызнаму багачу 40 тысяч еўра на месяц цалкам дастаткова, каб не толькі пажыць у сваё задавальненне, аднак і адкласці нешта на чорны дзень. Калі нехта атрымлівае больш за тую магічную лічбу, то ён, як лічыць Каця, абавязкова ўкладзе грошы ў біржавыя спекуляцыі, якія толькі садзейнічаюць стагнацыі нямецкай эканомікі. Увогуле, буржуіны павінны быць вельмі ўдзячнымі Каці за такі гуманны падыход. Яе французскі калега — лідар Фронту Левых Жан-Луі Міленшон, — калі быў кандыдатам у прэзідэнты, абяцаў у выпадку перамогі ўвесці 100-працэнтны падатак на штомесячны прыбытак больш за 30 тысяч еўра.

### СІЛЬВІА БЕРЛУСКОНІ



Здавалася, толькі ўчора Сільвіа пакінуў вялікую палітыку. Немалую ролю ў гэтым адыграла серыя карупцыйных і сэксуальных скандалаў. Яшчэ не закончыліся судовыя працэсы. Але Берлусконі плануе зноў пайсці ва ўладу. Італія шакаваная яго заявай пра тое, што ён будзе ўдзельнічаць у наступных выбарах. «Я дасюль застаюся тут», — сказаў Берлусконі падчас адной з імпрэзаў. Аўдыторыя сустрэла заяву з вялікім энтузіязмам, а гэта сведчыць, што шансы ў Сільвіа някепскія. Зараз на партыйным полі Італіі — поўная анархія, пра што сведчыць высокая папулярнасць партыі «Пяць зорак», якой кіруе комік Беппе. У такой сітуацыі народ можа ўзгадаць стабільныя часы Берлусконі, пры якім, нягледзячы на сэкс-скандалы з удзелам прэм'ера, у краіне была стабільнасць. Між іншым, не выключана, што на тое, каб застацца ў палітыцы, Сільвіа натхніў Уладзімір Пуцін. Гэта адзіны з еўрапейскіх палітыкаў, які апошнім часам пагаджаўся публічна сустракацца з такім супярэчлівым чалавекам, як Берлусконі.

### РУСТАМ МІНІХАНАЎ

Прэзідэнт Рэспублікі Татарстан упарта не жадае адмаўляцца ад статусу прэзідэнта, хаця гэтага патрабуе федэральны закон ад 29 снежня 2010 года. Адпаведна яму, кіраўнікі суб'ектаў федэрацыі не могуць называцца прэзідэнтамі. Аднак татары супраць. «У прынцыпе, ніякіх падстаў уніфікаваць усё няма. Усё ж у нас — федэратыўная рэспубліка, а не ўнітарная дзяржава», — кажуць татарскія дэпутаты ў Дзярждуме. У Крамлі, аднак, думаюць інакш. Прэса цытуе аднаго з маскоўскіх чыноўнікаў, які кажа: «Чапляючыся за цяперашні асаблівы статус сваёй вышэйшай службовай асобы, татарская этнакратыя тым самым стварае для сябе плацдарм для далейшага наступу на федэральны цэнтр». Яшчэ адзін аргумент цэнтра: прэзідэнтам называе сябе таксама і башкірскі лідар Рустэм Хамітаў, аднак, паводле чутак, апошні ўжо гатовы называцца больш сціпла. Прэса піша, што Масква паставіла перад паўнамоцным прадстаўніком у Прыволжскай федэральнай акрузе архізадачу: у самы бліжэйшы час вырашыць праблему перайменавання пасады кіраўніка Татарстана.



ТРАГЕДЫЯ

# МАРШ СМЕРЦІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**З 22-м чэрвеня звязаны яшчэ адзін трагічны эпізод беларускай гісторыі. Гаворка ідзе пра эвакуацыю зняволеных з турмаў заходніх абласцей БССР, якая абярнулася страшнай трагедыяй для многіх тысяч людзей. Адзін з найбольш жорсткіх эпізодаў той драмы разгарнуўся ў беларускім горадзе Глыбокае.**

…Ужо ў кастрычніку 1939 года савецкія ўлады стварылі ў будынку сярэднявечнага манастыра базыльянаў у Беразвеччы турму. Асноўны кантынгент зняволеных у ёй складалі былыя грамадзяне II Рэчы Паспалітай, сярод якіх было шмат афіцэраў Войска польскага, паліцэйскіх, святароў, землеўласнікаў, настаўнікаў. У Беразвецкі манастыр трапілі ў асноўным жыхары Глыбокага, Браслава, Дзісны, Плісы, Пастаў, Шаркоўшчыны ды іншых мясцовасцяў. Разам з тым, сярод зняволеных былі і польскія грамадзяне з заходніх ваяводстваў, якія спрабавалі ўратавацца ад немцаў.

Адным з вязняў Беразвецкай турмы быў ляснік Францішак Вайткевіч з Браслаўскага павету. У архіве Інстытуту Нацыянальнай Памяці ў Варшаве мне ўдалося знайсці ўспаміны яго дачкі, Марыі Аўчарчук. Жанчына адзначала, што ўсю іх сям'ю арыштавалі 20 чэрвеня 1941 года і прывезлі на чыгуначную станцыю ў Глыбокім. Пад аховай унутраных войскаў НКУС там ужо знаходзілася шмат людзей. Жанчын і дзяцей пагрузілі ў вагоны, а мужчын павялі ў бок Беразвецкага манастыра. Марыя тады не ведала, што бачыць бацьку ў апошні раз.

Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз частка вязняў турмы ў Беразвеччы была забіта на месцы. Адзін са сведкаў тых страшных падзей Вільгельм Жэчыцкі сцвярджаў, што пасля таго, як НКУС пакінула турму, на яе тэрыторыі былі знойдзены брацкія магілы. На некаторых з ахвяр былі бачныя сляды катаванняў. Іншы відавочца Вацлаў Брынк у сваіх паказаннях адзначаў, што на тэрыторыі турмы ў 1941 годзе было выяўлена 7 або 8 брацкіх магіл. Частка трупаў знаходзілася ў камерах.



У будынку манастыра базільянаў да сённяшняга дня знаходзіцца турма



Касцёл бызыльянаў. Канчаткова знішчаны савецкімі уладамі ў 1960-1970 гадах



Манастыр у Беразвеччы, фота 1930 г.

У кнізе Ю. Мацкевіча «Катынь» змешчаны пратакол допыту чалавека, які быў адным з першых, хто ўбачыў турму ў Беразвеччы пасля таго, як яе пакінуў НКУС. Вось вытрымка з гэтага дакументу: «Я, мой бацька і яго таварыш, які пражываў у Жаўнераўшчыне Дзісненскага павету, пайшлі ў Беразвечча, дзе на ўскрайку мястэчка ў некалькіх адчыненых будынках можна было ўбачыць трупы забітых. Я быў у трох пакоях аднаго з будынкаў. У кожным з іх ляжалі трупы забітых у цывільнай вопратцы і ўніформе польскага войска. Казалі, што сярод забітых былі ў асноўным палякі і беларусы».

Дакладная лічба ахвяр расстрэлаў у Беразвецкай турме не вядома. Па інфармацыі Акружной камісіі вывучэння злачынства супраць польскага народа ў Лодзі, у перыяд з 17 верасня 1939 па 24 чэрвеня 1941 года на тэрыторыі Беразвецкай турмы было знішчана да 800 вязняў.

24 чэрвеня 1941 года пакінутых у жывых вязняў вырашаюць эвакуяваць праз Ушачы ў Віцебск. Пешую калону зняволеных ахоўвалі вайскоўцы НКУС і міліцыі з сабакамі. Усяго, па розных дадзеных, турму пакінулі да 4 тысяч зняволеных. Калона выглядала наступным чынам: наперадзе ехаў конны раз'езд унутраных войскаў НКУС, за ім рухаўся абоз з турэмнай дакументацыяй, далей ішлі байцы ўнутраных войскаў НКУС, узброеныя аўтаматычнай зброяй, за імі — рэзервісты. Затым ішлі зняволеныя: палітычныя (мужчыны), далей жанчыны, замыкалі калону канваіры і абоз з сем'ямі супрацоўнікаў НКУС. Між кожнай групай была адлегласць у 30–40 метраў.

Адзін з вязняў глыбоцкай турмы Міхаіл Баговіч так апісваў тыя падзеі: «Са зняволеных сфармавалі групы па 8 чалавек. Калона «зэкаў» расцягнулася на 1,5 км. Па абочынах дарог сабраліся мясцовыя жыхары, якія спрабавалі даць нам ваду, ежу. Многія шукалі сваіх родных. У майго сваяка былі афіцэрскія боты. Вельмі цесныя. Ён паспрабаваў іх зняць. Але тут жа атрымаў прыкладам у спіну і ўпаў. Да яго падышоў салдат і замахнуўся вінтоўкай са штыком. Хлопец схапіўся за штык. Я паспрабаваў падбегчы да яго на дапамогу, але таксама атрымаў прыкладам па плячы. Рушыла ўслед каманда «Кладзіся», і ўсе зняволеныя ўпалі ў прыдарожны пыл».

Давёўшы зняволеных да бліжэйшага лесу, начальнік турмы, сяржант дзяржбяспекі Міхаіл Прыёмышаў, вырашае «разгрузіць этап», апраўдваючы свае дзеянні тым, што нібыта зняволеныя палякі, убачыўшы нямецкія самалёты, сталі крычаць: «Жыве Гітлер!» Прыёмышаў аддаў загад адкрыць агонь па вязнях. У выніку было забіта каля 600 зняволеных. За гэта злачынства па распараджэнні ваеннага пракурора войскаў НКУС начальнік глыбоцкай турмы быў арыштаваны. Па справе праводзілася следства, матэрыял якога трапіў у рукі сакратара ЦК КП (б) Беларусі П.К. Панамарэнкі. І той прызнаў дзеянні Прыёмышава правільнымі і загадаў адпусціць яго з-пад варты.



Людзі шукаюць сваіх родных сярод ахвяр НКУС



Ахвяры савецкага тэрора ў турме ў Беразвеччы

Відавочца таго расстрэлу, Надзея Красоўская, успамінае: «У тым пекле выжыла наша знаёмая акушэрка. Яна ішла ў адным шэрагу з мужам. Калі пачалі страляць, яе выратавала тое, што яна звалілася ў канаву каля дарогі. Сукенка гэтай жанчыны з ног да галавы была запэцкана крывёй расстраляных людзей».

Апагеем беразвецкага «Маршу смерці» стаў расстрэл каля вёскі Мікалаева каля Улы. Гэта жорсткае дзейства доўжылася не больш за 15 хвілін. Вось як тое ўспамінаў Міхаіл Баговіч: «Мы раптам пачулі страшны трэск з усіх бакоў. Аднекуль пачуўся крык: «Браты, нас расстрэльваюць!» Побач пачуліся стогны. Канваіры нешта крычалі. Лаяліся. Тым, хто застаўся жывы, салдаты загадалі збіраць трупы і скідаць іх на абочыну».

А вось што ўбачыў іншы сведка, Павел Кажух: «Адны зняволеныя падалі як нежывыя. Мабыць, куля трапіла ў сэрцы, іншыя скакалі, падымаючы рукі ўверх, нібы маліліся аб выратаванні, трэція проста ляжалі і стагналі. Я ляжаў у рове ля дарогі. На мяне скідалі мёртвыя целы. Дыхаць было цяжка. Неўзабаве я пачуў, як канваіры падлічвалі трупы. Апошні лічбай была 1773».

Жыхарцы Мікалаева Разаліі Барысевіч у 1941-м было 13 гадоў. На яе вачах разгарнулася трагедыя, пра якую яна не забудзе да канца жыцця. 26 чэрвеня яна працавала ў полі і раптам убачыла вялікую калону людзей, якія ішлі праз мост на Дзвіне. Разалія пабегла да дарогі, спадзеючыся ў натоўпе зняволеных убачыць свайго бацьку, арыштаванага НКУС. Як толькі калона прайшла мост, яго ўзарвалі. Праз некалькі хвілін у небе над Мікалаевым з'явіліся нямецкія самалёты. Зямля затрэслася, пачалася бамбёжка. А потым пачалося новае пекла. Разалія ляжала ў прыдарожнай канаве, зачыніўшы вушы рукамі. Над галавой свісталі кулі, трашчалі кулямёты і аўтаматы. Паўсюдна чуліся крыкі, плач, стогны. Канваіры расстрэльвалі зняволеных. Брахалі сабакі, а ўздоўж дарогі бегалі жонкі супрацоўнікаў НКУС і крычалі, што, маўляў, мясцовым жыхарам не трэба баяцца, іх салдаты ў сініх фуражках не зачэпяць, бо не вінаватых яны не расстрэльваюць. А ў чым быў вінаваты беларускі хлопец, арыштаваны НКУС за «контррэвалюцыйную агітацыю», або настаўнік-каталік з вясковай школы, якога «па веравызнанні» запісалі ў катэгорыю ворагаў народу?

Нарэшце страляніна спынілася, і на тым месцы, дзе яшчэ нядаўна стаялі жывыя людзі, цяпер было крывавае месіва. А канваіры, нібы на бойні, хадзілі паміж трупамі і дабівалі параненых штыкамі. Боты салдат па самыя халявы былі пакрыты чалавечай крывёю. Разалія ўспаміналa, што потым целы забітых пагрузілі ў сялянскія вазы і павезлі ў лес.

Лясны масіў недалёка ад Мікалаева мясцовыя называлі «Таклінаўскі барок». Там былі выкапаныя ямы, у якіх сяляне зімой захоўвалі бульбу. У гэтыя ямы і скінулі расстраляных вязняў турмы ў Беразвеччы. Падчас нямецкай акупацыі целы былых зняволеных былі эксгумаваны і перапахаваны на ўскраіне лесу. Па розных дадзеных, там спачывае прах каля двух тысяч чалавек.

Сярэднявечны касцёл у Беразвеччы канчаткова быў знішчаны савецкімі ўладамі ў 1960–1970 гадах. У будынку манастыра базыльянаў да сённяшняга дня знаходзіцца турма. Перад галоўным уваходам у яе стаіць помнік Феліксу Дзяржынскаму, на якім, між іншых, напісаны словы: «Прайсці свой шлях да пераможнага канца». Гісторыя згуляла з гэтым месцам злы жарт. Мясцовыя жыхары распавядаюць, што ў скверы, дзе стаіць бюст галоўнага чэкіста, у 1941 годзе таксама былі пахаваны ахвяры, расстраляныя НКУС у Беразвецкай турме.

ВОЛЬНАЕ СЛОВА

# «АД МАСКАЛЯ ДАБРА НЕ СПАДЗЯВАЙСЯ...»

Міхась СКОБЛА

**150 гадоў таму выйшаў у свет першы нумар газеты «Мужыцкая праўда», аўтарам і выдаўцом якой быў нацыянальны герой Беларусі Кастусь Каліноўскі.**



Кастусь Каліноўскі



N 1.

MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dziecinki!

Minuło uże toje, kali zdawało sia usim, szto mużyckaja ruka zdasce tolko da sachi.—ciepier nastau taki czas, szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O. zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolko karmić swaim chlebom, no jeszcze i uczyć swajej mużyckoj praudy.

Pytali i pytajuć usie. szto czuwaci na swieci. chto nam biedym mużykam daść wolność? No praudu skazauszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe—pa sprawiedliwości. My mużyki, braty waszyje, my wam budziem hawaryć celuju praudu, tolko słuchajcie nas!

Maskali, czynouniki i mnoho panou, budue pierepyniać pismo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych, szto choczuć waszej swabody, waszaho szczaścia.—jony to wam sami heto pismo dawaci buduć, kab wy znali chto wasz pryjaciel, a chto wasz woroch.

Sześć łet uże minuło jak packali hawaryć a swabodzie mużyckoj. Hawaryli, tałkawali i pisali mnoho, a niczoho nie zrabili. A hety manifest szto Car z Senatom i z panami dla nas napisau, to taki durny, szto czort wiedaje da czeho jon padobny,—nijakoj u niom niema praudy, niema z jeho dla nas nijakoj karyści. Parabili Kancelaryi, zrabili sud, jakby heto nie usio rouno brać u sraku czy z sudom, czy bez suda. Parabili Pisarou, Pasredni-

«Мужыцкая праўда»

Улетку 1987 года, звольніўшыся з савецкага войска, я закінуў свой дэсантніцкі блакітны берэт на гарышча і, захмялелы ад доўгачаканай свабоды, паехаў на пару дзён у Гародню. Пра тыя пару дзён атрымаўся б неблагі прыгодніцкі фільм, дзе фігуравалі б светлай памяці гарадзенскі рэстаран «Зубр», купанне ў хуткаплынным Нёмане проста ля падножжа Каложы, дэманстрацыя рукапашнага бою ў студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Парыжскай Камуны.

Але ўсё пералічанае ўспамінаецца неяк фрагментарна і — нібы ў тумане. Кантрастна і да драбніц запомнілася іншае. Аднойчы пасля вясёлай ночы мы з сябрам зайшлі на зацішнай вуліцы ў Музей Максіма Багдановіча. Там на сцяне вісеў плакат са словамі Кастуся Каліноўскага: «Я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе».

Уражаныя, мы з сябрам надоўга спыніліся каля таго плаката. Прачыталі ўслых, з выклікам пазіраючы на прысутную супрацоўніцу музея. Нуль увагі. Учарашнія савецкія вайскоўцы, мы добра ведалі, што такое інтэрнацыянальныя адносіны ў дзеянні і што дзевяноста адсоткаў канфліктаў у войску адбываліся акурат на нацыянальнай глебе. Прычым пераважна з удзелам тых самых маскалёў, якія ў любым вайсковым фармаванні, як правіла, колькасна пераважалі. Дык тое ў войску, пасля адбою, дзе-небудзь у сушылцы ці ў ленпакоі. А тут у савецкім дзяржаўным музеі навідавоку вісіць плакат выразнай антырускай скіраванасці — і ніхто і ў вус не дзьме.

Ледзьве дачакаўшыся восені, я аднавіўся на родным філфаку БДУ і найперш пачаў шукаць твор Каліноўскага, цытата з якога так мне запомнілася ў гарадзенскім музеі. Добрыя людзі далі пачытаць «Лісты з-пад шыбеніцы» і «Мужыцкую праўду».

Сто пяцьдзесят гадоў таму з гэтай самай нелегальнай «праўды» пачалася беларуская незалежніцкая прэса. «Мужыцкая праўда» ад шляхціца Каліноўскага, першы нумар якой датуецца чэрвенем 1862 г., за кароткі час развярушыла чатыры губерні — Гарадзенскую, Менскую, Берасцейскую і Віленскую. Пярэдадзень паўстання ўвідавочніўся і для селяніна адкуль-небудзь з-пад Саколкі, і для найвышэйшых чыноўнікаў у Пецярбурзе.

«Мужыцкая праўда» стала тым крэсівам, ад якога запаліўся народны гнеў. Пра яе складалі цыркуляры прыставы і губернатары. Гэта ёй аддавалі пальму першынства выдаўцы «Нашай нівы», калі ў падзагаловак свайго выдання «першая беларуская газета» дадалі: «з рысункамі». Бо «без рысункаў» газета ўжо існавала. Яна аднымі тэкстамі перагаварала ўчарашніх мірных касцоў у ваяўнічых касінераў.

Кастусь Каліноўскі быў не толькі адважным і таленавітым аўтарам, але і распаўсюднікам-рызыкантам. Ён сам развозіў «Мужыцкую праўду» па чытачах. Прыстаў Слонімскага павета зафіксаваў у адным з данясенняў: 7 кастрычніка 1862 г. невядомы ехаў балаголам па дарозе Слонім — Ваўкавыск і не хаваючыся раскідваў крамольную газету па навакольных вёсках. Гэтым невядомым быў Каліноўскі.

«Мужыцкую праўду» часам знаходзілі ў самых нечаканых месцах. Так, тэрмінова пасланы ў Гарадзенскую губерню штабс-капітан Чарнапятаў дакладваў, што выявіў газету на прыдарожных крыжах. Скрыжаванні былі сялянскімі чытальнямі. Едзеш на кірмаш ці на вяселле — спынішся і пачытаў.

У мястэчку Дзятлава прыстаў знайшоў «Мужыцкую праўду» ў згубленым на вуліцы вузельчыку з медзякамі.

Трыццаць сем асобнікаў «Мужыцкай праўды» пры раптоўным вобшуку ўлады выявілі нават у казённай установе — у Гарадзенскай палаце дзяржаўнай маёмасці. У газетны скрутак была ўкладзеная запіска: «Разаслаць у вёскі непрыкметным спосабам у форме лістоў. Зямляк, не парушай веры, у адваротным выпадку — спалі».

«Мужыцкую праўду» завучвалі на памяць, каб пераказаць тым, хто не ўмеў чытаць. Жыхар Сакольскага павета Міхал Зянцюк прызнаўся на допыце, што чытаў газету з памяці свайму суседу, калі яны разам збіралі ў лесе ламачча.

Яшчэ ў 1960 годзе «Мужыцкую праўду» знайшлі рамонтнікі на гарышчы старога дома ў Вільні. У схоўніцы ляжаў нумар газеты і заржавелы штык, прыхаваныя, відаць, да новага паўстання.

«Мужыцкая праўда» трапіла і ў далёкае замежжа — у Лондан, дзе расейскі палітэмігрант Аляксандр Герцэн назваў яе «лятучым лісткам». А прадстаўнік другога лагера славянафіл Іван Аксакаў абазваў першую беларускую газету «пасквідным польскім творам, поўным паклёпаў на Расею». Польскім, відаць, таму, што «Мужыцкая праўда» друкавалася лацінкай, якую расейцы (не толькі славянафілы) пачасту блыталі з польскай мовай.

Невядома, дзе знаходзіўся той друкарскі варштат, з якога зляцелі ў свет сем нумароў «Мужыцкай праўды». Даследчыкі называюць толькі верагодныя гарады — Беласток, Гародню, Вільню. Невядомы і друкар, які на свой страх і рызыку падклаў бомбу пад усю паўночна-заходнюю ўскраіну велізарнай імперыі. Вось каму пасаваў бы (хай сабе і пасмяротна) ордэн Францішка Скарыны! А то апошнім часам беларуская ўлада чапляе яго на грудзі такім дзеячам, што хочацца наўслед за Высоцкім залямантаваць: «Отберите орден у Насера, не подходит к ордену Насер!»

Сто пяцьдзесят гадоў прамінула, а «Мужыцкая праўда» і сёння актуальная, яе нумары можна даваць перадавіцамі ў цяперашніх незалежных газетах, і які-небудзь «станавы прыстаў» з Міністэрства інфармацыі абавязкова знойдзе там крамолу — «распальванне нацыянальнай варажнечы» ці штосьці падобнае.

Дзіву даешся, як малады (дваццацічатырохгадовы!) Кастусь Каліноўскі, для салідарнасці ўзяўшы сабе псеўданім Яська-гаспадар з-пад Вільні, так трапна і празорліва вызначыў, што павінны былі зрабіць беларусы яшчэ ў XIX стагоддзі, не зрабілі ў XX і не спяшаюцца зрабіць у XXI. А Каліноўскі ўсё распісаў, склаў для сваіх суайчыннікаў навырост своеасаблівы кодэкс будаўніка Беларускай дзяржавы.

Вось у першым нумары «Мужыцкай праўды» гучыць яго палымяны заклік да салідарнасці: «Возьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмася разам!». Галоўная тэма другога нумара — грамадзянскае непадпарадкаванне: «Калі хочаце бараніць сваю зямлю, то не служэце паншчыны і не плаціце падаткі ў казну — от і будзе справядлівасць». У трэцім нумары — на першым месцы імператыў свабоды і несакрушальная вера ў свой народ, кіраваны Божым провідам: «Нам вольнасці трэба, але такой, якую мы самі паміж сабой зробім. Толькі, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваць трудна, бо Боская моц вялікая, а народу многа».

Каліноўскі, відаць, быў выдатным прамоўцам. «Мужыцкая праўда» літаральна нашпігаваная афарызмамі. У чацвёртым нумары адразу кідаецца ў вочы крылаты выраз, з якога павінны пачынацца ўсе беларускія падручнікі па паліталогіі: «Не народ зроблены для ўраду, а ўрад для народу — гэтак, дзецюкі, ёсць на цалюсенькім свеце». Тамсама знаходзім словы пра зрусіфікаваную школу: «У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаць па-маскоўску, каб цябе зусім спраўна перарабіць на маскаля». У часы Каліноўскага гэткай школе ў дапамогу прызначаўся расейскі штык, а сёння свае ж айчынныя міністры і падміністры без усякіх штыкоў, самахоць нішчаць нацыянальную адукацыю на карані.

Мы безліч разоў чулі, як доблеснае беларускае войска збіраецца касцьмі легчы, а не прапусціць натаўскія танкі на Расію. А адносна нядаўняя дамова пра калектыўную бяспеку дазваляе ў выпадку патрэбы кінуць беларускі спецназ на разгон маскоўскіх мітынгаў. Вось жа і пра гэта яшчэ сто пяцьдзесят гадоў таму ведаў і пісаў Кастусь Каліноўскі ў пятым нумары сваёй «Мужыцкай праўды»: «Нашымі грудзьмі цар маскоўскі застаўляецца і нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрагае ўсіх нас у вечную няволю».

Шосты нумар газеты прысвечаны пытанню веры, і тут Каліноўскі не вагаецца: «Цар маскоўскі перакупіў многа папоў і вялеў нас у схізму запісаць і, як антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую ўніяцкую веру». За прыхільнасць да ўніяцтва аўтара «Мужыцкай праўды» шмат хто ўшчуваў, нават найлепшы знаўца тае эпохі Генадзь Кісялёў. Шматлікія праваслаўныя баццюшак, узнагароджаных расейскім дзяржаўным медалём з надпісам «За усмирение польского мятежа 1863 года», Каліноўскі наўрад ці паспеў пабачыць. Але галоўную ролю РПЦ на беларускіх землях ён разумеў выдатна. Пройдзе паўтара стагоддзя, і беларускі аддзел гэтай разгалінаванай структуры збярэцца кананізаваць самага зацятага змагара з уніяй — мітрапаліта Іосіфа Сямашку.

І, нарэшце, сёмы, апошні нумар «Мужыцкай праўды» адкрыта заклікае да ўзброенага паўстання: «Трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды косамі туды, дзе дабіваюцца волі і праўды, адкуль цягне на нас нячыстая маскоўская сіла».

Мяркуючы па арэале распаўсюджвання, наклад «Мужыцкай праўды» сягаў некалькіх тысяч асобнікаў. Але спрацаваў прынцып «прачытай і перадай (перакажы) другому», і ў паўстанцкія шэрагі сталі каля дваццаці пяці тысяч чалавек. Супраць ста дваццаці тысяч рэгулярнага войска. Косы ды вілы — супраць штуцэраў і гарматаў.

Праз год з чытачоў «Мужыцкай праўды» будуць фармавацца арыштанцкія роты, брыгады катаржнікаў у сібірскіх рудніках. 128 чалавек будуць павешаны — на распараджэнне генерал-губернатара Мураўёва. Паводле сучасных беларускіх падручнікаў па гісторыі — «таленавітага адміністратара», чыю дзейнасць некаторыя высакалобыя дактары навук называюць амбівалентнай. Маўляў, ён не толькі караў бунтароў, але і школы адчыняў. Але шыбеніца не бывае амбівалентнай!

На прапанову пакаяцца Кастусь Каліноўскі адказаў следчаму: «Усведамленне сваёй годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляе мне ісці іншым шляхам». І пайшоў на эшафот.

У камеры смяротнікаў дапісваў Кастусь Каліноўскі сваю «Мужыцкую праўду». Прычым калі напярэдадні паўстання ён звяртаўся да дзецюкоў і мужыкоў, то з-за кратаў ён ужо прамаўляў да народа. І стоячы на Лукішках халоднай сакавіцкай раніцай, ён бачыў перад сабою народ, дзеля якога ішоў на смерць.

Якая ж асноўная думка Каліноўскага, якую ён хацеў данесці да свайго народа? Які ягоны, кажучы сучаснай мовай, мэсідж? Што ж, пачуйма — ціхі голас з таго свету часам больш чутны для нас, чым адчайныя ляманты ці з гэтага. Вось цытаты з тае самае «Мужыцкай праўды»:

«Ад маскаля няма чаго дабра спадзявацца... Маскаль хітры, урад маскоўскі нас дурманіць... Бяспечнасці пад маскалём ніякай няма... Жыццё пад маскалём — горкая доля... Паспрыяеш маскалю — саграшыш перад Богам... Маскаль — як саранча, што худобу гаспадарскую глуміць... Храмы нашы маскаль перарабіў на стайні... Як дзень з ноччу не сходзяцца, так не ідзе разам навука праўдзівая з няволяй маскоўскай... З усіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку аб сваім брацтве з намі, але брацтва там нямнога знойдзеш».

Ясна ўсё як Божы дзень.

Цяпер зразумела, чаму афіцыйная гістарыяграфія Кастуся Каліноўскага на дух не пераносіць і з нацыянальнага героя спрабуеператварыць у тэрарыста з варшаўскай арыентацыяй. Вось чаму, нягледзячы на ўсе высілкі інтэлігенцыі і безліч праектаў, ні ў сталіцы Беларусі, ні нават у абласных цэнтрах так і не з'явілася ніводнага помніка Каліноўскаму. Адзіны ў Беларусі помнік герою яшчэ за савецкім часам усталяваны ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Сучасная ўлада дэмантаваць яго не адважылася. Затое паставіла непадалёк помнік Сталіну. Так і стаіць Кастусь Каліноўскі пад пільным наглядам генералісімуса — каб, крый Божа, зноў якога паўстання не арганізаваў.

▸ МУЗЫКА

# «БЫРЛА-РЭП» АД ZEMAN'А

Мікіта БРОЎКА




**Новы альбом прызнанага многімі талента беларускага хіп-хапу Zeman'a выдаўся не менш моцным за папярэдні.**

Былы ўдзельнік ледзь не самага вядомага беларускага рэп-гурта «Чырвоным па Белым» назваў сваю плытку коратка і ясна — «Бырло». Яна сталася трэцім вялікім рэлізам у сольнай кар'еры рэпера і другім паўнавартасным альбомам.

Спіс бітмэйкераў, што рабілі інструменталы да альбому, гэтым разам пашырыўся — акрамя самога Zeman'a разам з DJ deluxe да мінусоў прыклаліся КаБэ БИТый Саб, Элэм і Realize. Значны ўклад у гучанне гэтым разам зрабіў SP Kava — на яго рахунку адны з самых моцных песень альбому: «Шукаю выйсце», «Не забывай!» і «Одна любовь».

«Мой рэп — бырло», — гучна заяўляе Zeman самым першым трэкам, намякаючы на тое, што яго творчасць настолькі ж моцна б'е па галаве, як і «напиток неудачников и быдла». Стылістычна нетыповая для Zeman'a другая песня расказвае пра «вялікага камбінатара». Пасля радка пра Лёню Галубкова, напэўна, у кожнага чалавека, што перажыў дзевяностыя, яна выклікае асацыяцыі з сучасным вялікім камбінатарам Маўродзі. Наступны трэк прыводзіць альбом на сумежную з «PANaNieba» рэп-тэрыторыю — філасофскі «Наступны раунд» запісаны сумесна з SP Kava і на яго ж мінус.

Запускаючы мінусоўку ў пяты раз, Zeman упершыню шматгранна раскрывае тэму смерці. Цытуючы вядомы лацінскі выраз «memento mori», ён дадае сваю параду: «Не думай о плохом, но будь готов всегда», а потым узгадвае пра «беларускі суіцыд», які называе нацыянальнай рысай.

Дарэчы, праз лічаныя дні пасля выпуску «Бырла» пачаўся запіс новага альбома пад назвай «Третья звезда». Працу над ім плануецца скончыць да канца года.

Акрамя сольнага альбома рыхтуецца супольны праект са S'viedak'ам з гурта «PANaNieba». Альбом будзе цалкам беларускамоўны і, хутчэй за ўсё, выйдзе пад назвай «ГБ». Назва складаецца з першых літар прозвішчаў Zeman'a і S'viedak'a — Гаўрылаў і Батурля.

▸ КІНО

# ПРЫНЦЭСЫ З КУЛАКАМІ

Андрэй РАСІНСКІ

**Калісьці пекныя прынцэсы, зняволеныя ў высокіх вежах, чакалі сваіх прынцаў на белых канях. Казачныя прынцы перамагалі цмокаў, штурмавалі вежы і насілі вызваленых прынцэс на руках. У эпоху паліткарэктнасці і канчатковага постмадэрнізму ўсё перакулілася. Прынцэсы бяруць лёс у свае рукі, раскідваюць локцямі ворагаў, дубасяць цмокаў — і выносяць прынцаў з пячор, дзе тыя схаваліся.**

Самыя кансерватыўныя — галівудскія — казкі дэманструюць трыумф фемінізму і не пакідаюць моцнай палове ніякіх шанцаў.

Першая дыснееўская «Беласнежка» — з крэмавымі колерамі і гномамі — спраўна кусала атрутны яблык і клалася ў труну. Сучасныя гераіні выбралі іншую долю. Сёлетняя «Беласнежка» Тарсэма Сінха — гэта змаганне прыгажуні, якая ачольвае гномскі партызанскі атрад, з падступнай каралевай. Узурпатарцы, у асобе актрысы Джуліі Робэртс, моцна не пашанцавала. Яблык прымушаюць з'есці яе. А няшчасны прынц толькі блытаецца пад нагамі і трапляе ў ідыёцкія сітуацыі, з якіх яго выцягваюць абедзве жанчыны.

Не пашанціла і Шарліз Тэрон — чарговай каралеве з яшчэ адной «Беласнежкі». «Беласнежка і паляўнічы» Рупэрта Сандэрса, што толькі з'явілася на нашых экранах, — гэта змрочнае сярэднявечнае фэнтэзі з замурзанай Беласнежкай, каналізацыяй і суворымі бітвамі. Залішне казаць, што Беласнежка крычыць, як недарэзаная Жанна Д'Арк, махае мячом — і вырывае ўладу з пахаладзелых (жаночых) рук. Мужчыны — толькі пешкі ў чужой барацьбе. Нават кананічнае вяселле, якое яшчэ мелася ў карціне Тарсэма Сінха (акруцілі-такі небараку!), адкладзенае ў нікуды. Улада ўзятая — навошта яе дзяліць з некім?

Цікава, што пераходны этап паміж кананічнай Беласнежкай і Беласнежкай уладарнай разыграла група «Рамштайн» гадоў дзесяць таму. Гераіня іхняга кліпу ела атрутныя яблыкі — і ўпадала ў глыбокую кому ў крышталёвай труне. Але яе паводзіны з гномамі — гэта, так бы мовіць, жорсткая дамінацыя. Гіганцкая прыгажуня ахвотна і доўга лупцавала музыкаў, загрымаваных пад памяркоўных гномаў. Твары ў гномаў былі, як у сённяшніх беларусаў.

Выкшталтаваная анімацыйная казка «Храбрая сэрцам» — варыяцыя на тэму жаночай улады. Студыя «Піксар», якая праславілася сучаснымі прыгодамі забытых цацак і сентыментальных смецце-робатаў, вырашыла зазірнуць у далёкае казачнае мінулае.

Прынцэса Мэрыда любіць скакаць на кані і страляць з луку. Але яе маці рыхтуе дзяўчыну да шлюбу. Неўзабаве прынцэса зрывае турнір, дзе змагаюцца за яе руку і сэрца, і ўцякае ў лес, дзе знаходзіць старую ведзьму. Ведзьма прапануе развязаць пытанне з матуляй.

Хаця каралева быццам прытрымліваецца старой традыцыі, краінай кіруе яна. Яе муж толькі выхваляецца дый весяліцца на банкетах, дзе распавядае пра ўласныя подзвігі. Але і распавесці зладна ён не здольны (пакуль жонка яму не напіша дый ткне, што прамаўляць). Але для юнай прынцэсы нават такая ўлада занадта мужчынская. Галоўныя героі — дакладней, гераіні фільму, — жанчыны. Прынцэса, яе маці, старая ведзьма. Усе астатнія, уключна з брацікамі прынцэсы, — толькі фон (на якім вытыркаецца эпізадычная і грудастая служанка).

«Няправільны» турнір сыходзіць у нішто; галоўныя дзеянні — жаночыя тактыкі і стратэгіі. Жыццё і прыгоды прынцэсы, мудрасць і моц маці, хітрасць з рамесніцтвам і павучаннем — старой ведзьмы. А мужчыны — няхай шумяць сабе і думаюць, што заўгодна.

Прынцэсы мусяць быць з кулакамі. У «цудоўным новым свеце» без гэтага аніяк.

▸ АБ'ЯВА

## ЗАПРАШАЕМ УШАНАВАЦЬ ПАМЯЦЬ МІХАЛА ВАЛОВІЧА

**У нядзелю, 1 ліпеня, у вёсцы Парэчча Слонімскага раёна прадстаўнікі Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл, а таксама ўсе беларусы нашай Бацькаўшчыны адзначаць чарговыя ўгодкі з дня нараджэння кіраўніка паўстання 1830–1831 гадоў на Беларусі Міхала Валовіча (1806–1833) і яго паплечнікаў.**

Падчас ушанавання адбудзецца прэзентацыя новай кнігі Сяргея Чыгрына «Такі іх лёс», а таксама шахматны турнір і канцэрт.

Арганізатары запрашаюць усіх жадаючых прыняць удзел у мерапрыемстве. Збор удзельнікаў будзе адбывацца ў 10.30 у Слоніме каля кінатэатра «Мір».

Пачатак мерапрыемства ў вёсцы Парэчча каля памятнага крыжа ў гонар паўстанцаў у 11 гадзін.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 613

Падпісана да друку 29.06.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.